


Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

1 ЧЭРВЕНЯ 2001г. № 22-23/4106-4107 КОШТ 128 РУБ.

## МАЦІ-БЕЛАРУСЬ І МАЦІ-МОВА

**Ніл ГІЛЕВІЧ:**

***"Нацыянальная літаратура — гэта галоўная цвярдыня нацыянальнага духу, нацыянальнай ідэі, нацыянальнай самасвядомасці. Толькі такім павінна быць наша разуменне місіі, ролі і месца беларускай літаратуры ў грамадстве, у жыцці народа. Толькі на грунце такога разумення, г.зн. на грунце беларускай нацыянальнай ідэі, магчыма гуртаванне і кансалідацыя нашых творчых сіл..."***

**2—3**

## ЗБЕРАГАЮЧЫ ДУХОЎНАСЦЬ І СВЯТЛО

**Вольга ІПАТАВА:**

***"Дык хто ёсць мы — тыя, хто запаўняе вершамі і апавяданнямі старонкі часопісаў і газет, хто мучыцца ў адзіноце праклятымі пытаннямі быцця і пакутліва хоча дастукацца да чалавечых душаў, каб абудзіць іх прагу духоўнасці і святла?"***

**2—3, 5**

## "ЧАЛАВЕКУ МАЛА НАРОДЖАНАЙ СВАБОДЫ"

**Васіль БЫКАЎ:**

***"У аснове кожнай калектыўнай свабоды ляжыць свабода індывідуальная".***

**4**

## ПАЛАНЭЗ

***Урывак з паэмы Уладзіміра НЯКЛЯЕВА***

**8—9**



XIII З'ЕЗД БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ



# На пераломе

XIII з'езд Саюза беларускіх пісьменнікаў чакалі многія. Хто з нецярпеннем, хто з трывогай, а большасць — з клопатам пра адзінства нашага творчага саюза, пра ўдасканальванне яго работы. За мінулыя пасля 12-га з'езда гады адбылося шмат падзей, якія выклікалі шырокі розгалас у пісьменніцкай грамадскасці. Гэта і нечаканы ад'езд за мяжу старшыні — Уладзіміра Някляева, імкненне пэўных колаў у суполцы раскалоць арганізацыю, уцягнуць яе ў палітычныя "разборкі", гэта і наспелыя праблемы сацыяльнай абароны пісьменніка, павышэння яго аўтарытэту ў грамадстве, які пэўныя сродкі масавай інфармацыі імкнуліся прынізіць, выліваючы бруд на адрас вядомых творцаў, і ў першую чаргу Васіля Быкава, Ніла Гілевіча, Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна і іншых выдатных майстроў пяра.

І вось нарэшце з'езд адбыўся.

Звыш 360 дэлегатаў сабраліся ў вялікай зале Дома літаратара 29 мая. Сярод запрошаных і гасцей да пісьменніцкай грамады прыйшлі намеснік кіраўніка ўрада М. Дзямчук, міністр культуры Л. Гуляка, намеснік міністра адукацыі Г. Дылян, намеснікі старшыні Дзяржкамдруку У. Глушакоў і С. Нічыпаровіч, старшыня ТБМ А. Трусаў, старшыні творчых саюзаў, прадстаўнікі грамадскасці, сродкаў масавай інфармацыі.

З'езд адкрыў народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч.

Вядучы ранішняга пасяджэння намеснік старшыні СБП Навум Гальпяровіч агучыў парадак дня. Былі выбраны рабочыя органы з'езда, зацверджаны рэгламент.

З прывітаннем ад імя прэзідэнта краіны А. Лукашэнкі выступіў міністр культуры Л. Гуляка. Было зачытана прывітанне ад старшыні Савета Рэспублікі нацыянальнага сходу А. Вайтовіча.

Са справаздачным дакладам перад пісьменнікамі выступіла в. а. старшыні СБП Вольга Іпатава.

Генадзь Бураўкін зачытаў словы да з'езда народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава.

З прывітаннем ад міжнароднай суполкі пісьменніцкіх саюзаў і групы расійскіх пісьменнікаў выступіў Алесь Кажадуб.

Ад імя экзарха Філарэта да з'езда звярнуўся святар Георгі Латушка.

З дакладам выступіў старшыня рэвізійнай камісіі СБП Вячаслаў Стома.

На другім ранішнім пасяджэнні старшынстваваў Сяргей Законнікаў. У спрэчках выступілі Вячаслаў Адамчык, Генадзь Пашкоў, Сяргей Законнікаў, намеснік міністра адукацыі Г. Дылян, старшыня Саюза кампазітараў Ігар Лучанок, міністр культуры Л. Гуляка, М. Чаргінец.

*(Працяг на стар. 4)*



*Д. Бугаёў, Р. Баравікова, В. Карамазаў*



*Н. Мацяш, Я. Брыль*

*Фота Ул. КРУКА*



# КОЛА ДЗЁН

***Вось і лета прыйшло... Але цяпла, якога хочацца, як не было, так пакуль што і няма. І ўсё ж у нашым жыцці надвор'е, якое на дварэ — гэта не самае галоўнае, што сёння хвалюе кожнага з нас. У кожнага свае праблемы і радасці, свае чаканні і спадзяванні, якія ў нечым супадаюць, а ў нечым і не. А галоўнае — жыццё не стаіць на месцы. Вось і лета прыйшло...***

## ПЛАНЫ ТЫДНЯ

У друку з'явілася інфармацыя, што ў Палаце прадстаўнікоў нарэшце ўключана ў план работы сесіі пытанне аб прызначэнні даты выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Згодна з Канстытуцыяй выбары павінны прайсці не пазней чым 27 верасня, а гэта значыць, што ў чэрвені заканчваецца і тэрмін, адведзены на аб'яўленне даты выбараў. Дэпутаты плануюць абмеркаваць гэтае пытанне 7 чэрвеня. Хутчэй за ўсё выбары прэзідэнта Рэспублікі Беларусь будуць прызначаны на 9 верасня.

## СВЯТА ТЫДНЯ

У Калузе (Расія) прайшлі Дні славянскай пісьменнасці і культуры. У праграме свята было — абмеркаванне пытанняў беларуска-расійскага культурнага супрацоўніцтва, правядзенне міжнароднай навуковай канферэнцыі "Славянскі свет: адзінства і шматстайнасць", дзелавыя і сяброўскія шматбаковыя сустрэчы. Адбыўся вялікі канцэрт, асновай якога была музычна-драматычная кампазіцыя "Уратуй і захавай".

## АДКРЫЦЦЁ ТЫДНЯ

У Мінску на вуліцы Ульянаўскай, 8 адбылося адкрыццё новага навучальнага комплексу ліцэя Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Ліцэй пачаў сваё існаванне ў 1989 годзе як Мінская сярэдняя спецыялізаваная школа пры БДУ. Штогод амаль 100 працэнтаў навучэнцаў ліцэя паступаюць у вышэйшыя навучальныя ўстановы нашай краіны. За час існавання ліцэя на міжнародных і рэспубліканскіх прадметных алімпіядах ліцэістамі атрымана больш за 460 дыпломаў. Ва ўрачыстай цырымоніі адкрыцця новага навучальнага комплексу ліцэя БДУ прыняў удзел прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка.

## НАМЕР ТЫДНЯ

У Мінску прайшло пасяджэнне беларуска-германскай рабочай групы па гандлі і інвестыцыях, на якім было заяўлена германскім бокам аб намеры выдзеліць Беларусі крэдыт у 100 млн. нямецкіх марак пад праекты ў аграрнай сферы, галіне высокіх тэхналогій і адукацыі. Хацелася б, каб намер не застаўся намерам, як гэта ўжо было раней...

## НЕПРЫЕМНАСЦЬ ТЫДНЯ

Для тых, хто любіць падарожнічаць па Еўропе, у друку з'явілася непрыемнае паведамленне. З 1 чэрвеня гэтага года паездкі беларусаў у Венгрыю істотна ўскладняцца — урад гэтай краіны прыняў рашэнне аб увядзенні візавага рэжыму з шэрагам дзяржаў, у тым ліку і з нашай. Такім чынам, цяпер беларускім грамадзянам недастаткова звычайнага ваўчэра — неабходна толькі віза. Аднаразовая віза на ўезд будзе каштаваць 40 долараў, аднаразовая транзітная — 38, шматразовая ўязная — 180, шматразовая транзітная — 150 долараў. Словам, няслаба...

## МАГЧЫМАСЦЬ ТЫДНЯ

Дзяржаўны падатковы камітэт Беларусі не выключае магчымасць увядзення адзінай стаўкі падаходнага падатку. Пра гэта заявіў "Інтэрфаксу" старшыня ДПК. Такая магчымасць з'яўляецца ў сувязі з уніфікацыяй беларускага і расійскага падатковых заканадаўстваў. Аднак, магчымасць гэта яшчэ не рэальная справа. І ўсё ж...

## БЯДА ТЫДНЯ

Апошнімі гадамі месяц май выдаецца не вельмі цёплым. І на гэты раз па нашай краіне таксама трымаецца даволі няўстойлівае надвор'е. Ноччу — 5-10 градусаў цяпла, днём — 11-16. Месцамі нават былі замаразкі да 3 градусаў. З-за замаразкаў шмат дзе пацярпелі пасевы льну, кукурузы, буракоў і бульбы. Толькі ў Кобрынскім раёне пашкоджана 1200 гектараў пасеваў. Лічбы невясёлыя...

## НАВІНА ТЫДНЯ

Не толькі ў замежжы, але і ў нашай краіне хапае людзей, якія не могуць ні працаваць, ні адпачываць без кубачка кавы. А кава ўсё замежная і дарагая. І вось прыемная навіна для тых, хто любіць каву — у нашай краіне ў хуткім часе пачне выпрабляцца свая кава. І нямала — да 15 тон штомесяц. Каву будуць вырабляць з сыравіны, набытай на вядомым кававаым рынку ў Гамбургу, на прадпрыемстве "Ікартайм", што размешчаны ў Астрашыцкім Гарадку. Праўда, назва беларускай кавы будзе не беларуская — "Матадор".

## ПОСПЕХ ТЫДНЯ

З 22 па 24 мая ў Лондане праходзіла Міжнародная выстаўка-кірмаш він і алкагольных напояў, у якой прынялі ўдзел больш як 1100 экспанатаў, якія прадстаўлялі аўстрыйскія, французскія і грузінскія віны, каньякі з Францыі, Расіі і Арменіі, гарэлку з Даніі, Ірландыі, Расіі. У выставе ўдзельнічала і прадукцыя Брэсцкага лікёра-гарэлачнага завода. Асабліва ўсім спадабалася гарэлка "Бярозавая" ў арыгінальнай упакоўцы. І не проста спадабалася, а ёй зацікавілася Вялікабрытанія, якая хоча бачыць гэтую гарэлку ў сваіх крамах. Падзея не такая ўжо значная для нашай краіны, але сёння і гэта прыемна...

*XIII З'ЕЗД БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ*

# Удзельнікам XIII з'езда Саюза беларускіх пісьменнікаў

Шчыра вітаю ўдзельнікаў XIII з'езда Саюза беларускіх пісьменнікаў!

Ваш з'езд праходзіць у адказны, шмат у чым лёсавызначальны час. У няпростых умовах мы будуем наш агульны дом — Беларусь.

Кожны з вас, сапраўдных творцаў, абвострана адчувае складанасць і супярэчлівасць сучаснасці. І надзвычай важна, каб кожны садзейнічаў духоўнаму ўзбагачэнню грамадства.

Пісьменнік у нашай краіне заўсёды карыстаўся вялікай павагай, слова літаратара знаходзіла жывы водгук у людскіх сэрцах, паколькі яно было здольнае ўзвысіць і акрыліць чалавека, высвеціць яму шлях да высокіх ідэалаў. Многія пакаленні беларусаў выхаваны на выдатных літаратурных творах.

Для нас заўжды з'яўляюцца ўзорам вытанчаная лірыка Максіма Багдановіча, грамадзянскі пафас тытанаў слова — Янкі Купалы і Якуба Коласа, эпічнасць Івана Мележа, грамадзянская адказнасць Івана Шамякіна, напружаны псіхалагізм ваеннай прозы Васіля Быкава, шырыня і філасафічнасць паэзіі Максіма Танка і Аркадзя Куляшова, гістарычная праўдзівасць і светлы рамантызм Уладзіміра Караткевіча.

Дзяржава і надалей будзе падтрымліваць таленавітых творцаў, шчырых і самаадданых носьбітаў нацыянальных традыцый, ствараць умовы для іх плённай працы.

Мы ніколі не адрачомся ад сваіх каранёў, роднай беларускай мовы, культуры.

Спадзяюся, што прынятыя вамі рашэнні паспрыяюць стварэнню новых высокамастацкіх твораў, якія ўзбагацяць айчынную культуру, будуць садзейнічаць кансалідацыі беларускага грамадства і росквіту роднай Бацькаўшчыны.

Жадаю поспехаў у рабоце XIII з'езда Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Шчасця вам, здароўя і дабрабыту!

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА**

*29 мая 2001 года*

Ніл ГІЛЕВІЧ

# Маці-Беларусь і Маці-Мова

Паважаныя дэлегаты і госці з'езда!

Ёсць зусім не малая ў маштабах Еўропы краіна. Ёсць зусім не маленькі ў маштабах свету славянскі народ. Ёсць пасечаная жахлівымі трагедыямі тысячагадовая гісторыя гэтага народа. Ёсць накінуты гэтаму народу на стагоддзі, а можа, і больш, Чарнобыль. Ёсць выміранне нацыі, у якой смерць нашмат перавышае народзіны. Ёсць ушчэнт здрапежаная, змучаная, абяскроўленая зямля і дабітая да ручкі сельская гаспадарка. Ёсць разваленая, кульгавая на абедзве нагі эканоміка. Ёсць дзікае і непрабуднае ўсенароднае п'янства. Ёсць, паралельны Чарнобылю фізічнаму, Чарнобыль маральны і духоўны. Ёсць татальнае панаванне бесцырымоннай хлусні на афіцыйным узроўні. Ёсць зняверанасць, разгубленасць і роспач мільёнаў людзей, якія пытаюцца: як жыць і як быць? Ёсць небывала ганебны палітычны курс на ліквідацыю суверэннай дзяржавы. Ёсць па-каланізатарску бязлітасны этнацыд і лінгвацыд адвечнага племя "тутэйшых" на яго адвечнай вотчыннай зямлі. Ёсць тое ж, як і сто гадоў назад, становішча, калі ты хочаш крыкнуць "ратуйце", а цябе прымушаюць крычаць "дзякуй!".

Але ёсць і народжаная на гэтай зямлі, можа быць, самая геніяльная формула народнай мудрасці: паміраць сабірайся, а жыта сей!

І ёсць з'яднаная ідэяй Бацькаўшчыны і сімвалам Пагоні незлічоная армія моладзі, якая ўжо ніколі не змірыцца з жыццём у няволі: і гора таму, хто гэтага не хоча зразумець.

І ёсць духоўная народная культура, ёсць фальклор, перад якім можа не зняць шапку толькі выкапнёвы дзікун і хам.

І ёсць прафесійнае мастацтва, якому з пашанай адчыняюць дзверы лепшыя ў свеце тэатральныя сцэны, музеі і карцінныя галерэі.

І ёсць прызнаная светам літаратура.

Вось у такой краіне, у такі час, у такіх умовах сабраліся мы, паважаныя калегі, на свой з'езд.

Кожны чарговы з'езд беларускіх пісьменнікаў чакаецца грамадскасцю рэспублікі як падзея ў культурным жыцці краіны. Гэта тлумачыцца тым, што Саюз пісьменнікаў заўсёды, ад самага пачатку, лічыўся галоўным, ці вядучым творчым саюзам Беларусі. Ад з'езда пісьменнікаў зацікаўленыя і зычлівыя чытачы чакаюць чагосьці большага, чым толькі падвядзення вынікаў творчай працы. У спрэчках і дакументах з'езда яны спадзяюцца пачуць тое, што пацвердзіць высокую рэпутацыю саюза майстроў слова, саюза мысляроў і праўдашукальнікаў, агменяў беларускай нацыянальнай ідэі, яе носьбітаў і абаронцаў, інакш кажучы, — пачуць голас духоўнай эліты нацыі. Рэч, аднак, у тым, што на працягу доўгіх дзесяцігоддзяў партыйныя і дзяржаўныя ўлады Беларусі рабілі ўсё, што маглі, каб



перашкодзіць кагорце беларускіх літаратараў узвысіцца да рангу духоўнай і культурнай эліты, стаць той галоўнай грамадскай сілай, якая б фарміравала культурнае аблічча рэспублікі. Фарміравалася яно, і вельмі інтэнсіўна, пераважна іншымі, небеларускімі сіламі, беларускія ж ішлі або на Калыму, або ў Курапаты, а тых, хто такое долі пазбегаў, — старалісяператварыць у пакорных служак рэжыму. Усё гэта дало адпаведныя вынікі: і да гэтага часу яшчэ не ўсе з нас усвядомілі, што гэта дзіка ненармальны стан рэчаў, калі духоўная культура карэннай нацыі, у тым ліку і мастацкая літаратура, знаходзіцца ў родным доме на правах падчаркі, з'яўляецца нейкім эт-

Вольга ІПАТАВА

# Зберагаючы духоўнасць і святло

У жыцці кожнага народа бываюць часіны, калі ён на крутых віражах свайго жыцця вызначаецца як жыццяздольная сістэма, якая праз актыўны і разумны пошук вызначае для сябе найлепшы накірунак. Бывае і наадварот — у стане агульнай разгубленасці, не слухаючы ні ўласных мудрацоў і пракрокаў, ні свае ўласнае душы, ідзе народная грамада невядома куды, бачачы толькі свае кароткачасовыя выгоды і не зазіраючы не тое што праз стагоддзі, але і ў заўтрашні дзень.

Нам усім патрапіла бачыць гэтую агульную растрэсенасць думак і ідэалаў, мы ўсе жывём у час, калі і перад нашым народам паўстала пытанне — быць ці не быць яму як народу, мець сваю ўласную непаўторнасць ці нарэшце з уздыхам палёгкі, без жаднага шкадавання растварыцца паміж іншымі, больш моцнымі і самаарганізаванымі этнасамі і культурамі, як растварыліся некалі фракійцы, кімерыйцы, прусы, яцвягі, пакінуўшы чалавецтву ўжо нерасшыфроўваемыя назвы рэчак і балацявін, азёраў і крушняў і мёртвую, хіба што ў перакладах чытэльную нешматлікімі "кніжнымі чарвякамі" вучонымі, літаратуру.

"Вас няма — ні вас, ні вашай літаратуры", — сказаў, нам, удзельнікам "Літаратурнага экспрэса-2000", на Брэсцкім вакзале афіцэр - мытнік, на рукаве якога красавалася надпіс "Рэспубліка Беларусь".

"Каб не было новай кніжкі Быкава, па якой я разумею, што з намі адбываецца, я б, можа, не выжыла", — сказала настаўніца з Дзятлава на сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі.

"Дзесяцімільённым НІКІМ, справавальнымі трактамі" — так у запале болю і расчаравання называе беларусаў, у тым жа ліку і нас з вамі, наш пісьменнік- калега з Польшчы Сакрат Яновіч."Ніякіх здабыткаў, адны страты. Страты чытачоў", — адказвае на пытанне аб здабытках беларускай літаратуры Лідзія Арабей.

"Дзякуй Саюзу пісьменнікаў за тое, што ён дапамог разбудзіць маю душу", — выступаючы на вечарыне, прысвечанай 70-годдзю Караткевіча і арганізаванай Саюзам пісьменнікаў, зазначыў малады чытач . Многія на свае вочы бачылі, колькі моладзі прыйшло сюды, каб паслухаць знаных беларускіх літаратараў і выйсці з душой, поўнай жадання змагацца за сваё, роднае.

Дык хто ёсць мы — тыя, хто запаўняе вершамі і апавяданнямі старонкі часопісаў і газет, хто мучыцца ў адзіноце праклятымі пытаннямі быцця і пакутліва хоча дастукацца да чалавечых душаў, каб абудзіць у іх прагу духоўнасці і святла?Аб гэтым у сваёй новай кнізе "Квадратура круга" кажа Васіль Макарэвіч:

***Крыляюць і крукі, і жаўрукі,***
***І небасхілу рыска —***
***Тонкім воласам.***
***Хай не вякі, а хоць бы землякі***
***Пачуюць, што скажу я***
***Ціхім голасам.***

Ці здольнае грамадства пачуць часам не гучны, але аплачаны дарагой цаной голас паэта? Ці здольнае



ў паўсядзённым тлуме выжывання ўсвядоміць, што не гісторыя, не філасофія, а толькі літаратура зафіксуе яго ў вечным зменлівым Часе? Ці зможа сама літаратура не даць сябе адсунуць з пляца Волі і Незалежнасці на плошчу Бангалор?

Мы жывём у час, калі ў нашай краіне ад тых 80 працэнтаў беларускіх школ, якія былі ў ёй у 1993 годзе, засталося меней за 20 працэнтаў. А школа — гэта крыніца, без якой перасыхае жывая, магутная плынь нацыянальнай літаратуры.

Мы жывём у грамадстве, дзе няўхільна ідзе дэвальвацыя, абясцэньванне культуры, дзе на ўзроўні, недастойным цывілізаваных людзей, ідзе цкаванне дзеячаў і пісьменнікаў, найчасцей самых знаных, самых актыўных , асабліва на радыё і ТБ. Хаця пра тэлебачанне і гавварыць не даводзіцца — рэдакцыя,



*Міністр культуры Л. Гуляка, І. Шамякін.*



*М. Кусянкоў, С. Законнікаў, М. Мішанчук.*

награфічна-экзатычным даважкам; не ўсвядомілі, што такі стан рэчаў ёсць ганебны і яго трэба самым рашучым чынам мяняць, для чаго трэба гэтак жа рашуча пазбавіцца ад жабрацкіх звычак прасіць і кленчыць, а гэта, як вы разумееце, магчыма пры адной умове — пры наяўнасці высокаразвітога пачуцця нацыянальнай годнасці і гонару.

Перадз'ездаўская дыскусія, на жаль, па-сапраўднаму не разгарнулася. Пра што гэта гаворыць — ёсць над чым задумацца. Ці трэба, напрыклад, бычыць у гэтым моцную паразу арганізма бацыламі раўнадушнасці? І не толькі да лёсу нашага саюза, але і да лёсу нашай культуры, а ўрэшце — і да лёсу Беларусі? Сацыяльна-грамадская апатыя — рэч вельмі небяспечная, і для пісьменніка таксама. Сярод галасоў, што ўсё ж прагучалі ў друку, вылучыўся заклік не кранацца на з'ездзе праблем грамадска-палітычных, а гаварыць пра літаратуру і толькі, пра свае творчыя справы і клопаты, паколькі Саюз пісьменнікаў — не палітычная партыя, і не грамадскі рух, а суполка творцаў. Вядома, на з'ездзе літаратараў трэба гаварыць пра літаратуру. Толькі, пажадана, не забываючы, а якая ж галоўная місія мастацкай літаратуры ў грамадстве. Хіба гэтая місія не ў тым, каб дапамагчы чалавеку вызваліцца ад псіхалогіі раба і стаць грамадзянінам — асобай з пачуццём уласнай годнасці? Хіба не ў тым, каб дапамагчы людзям убачыць шлях да жыцця справядлівага, разумнага, заснаванага на законах чалавечнасці? Ведаем: заўсёды былі і ёсць сілы, якія б хацелі б бачыць літаратуру сэрвільнай, прыслужніцкай, забаўляльнай. І слабыя духам, здараецца, ідуць гэтым сілам насустрач. Сумна і горка бывае чытачам той краіны, дзе ў лёсавызначальны для народа час літаратура самаўхіляецца ад выканання сваёй галоўнай, прызначанай Богам, місіі. Ёсць усе падставы верыць, што чытачам краіны Беларусь сумна і горка не будзе, бо іх паэты і пісьменнікі ад наканаванай ім місіі не ўхіляцца, бо яны былі і ёсць плоць ад плоці народа, у іх сэрцах — ягоны боль, ягоныя трывога і скруха, але ж і ягоная сіла-моц, і ягоная трываласць веры. Паэты і пісьменнікі краіны Беларусь не могуць ізалявацца ад балючай памяці народа, ад трагічнай гісторыі літаратуры, спадчыннікамі якое сталі; не могуць жыць і працаваць так, як быццам на свеце не жылі і не працавалі Багушэвіч, Цётка, Купала, Колас, Багдановіч, Гарун, Гарэцкі, браты Луцкевічы, Ластоўскі, Жылка, Бабарэка, Чорны, Зарэцкі, Мрый, Калюга, Геніюш...

У гісторыі краін і народаў бываюць часіны, калі кожны літаратар павінен зрабіць выбар, — талент і сумленне павінны яму падказаць, што выбраць — якую дарогу, які лёс, якую славу ці няславу. І вось у такі ўрочны час выбару нам радзяць размову на з'ездзе не падключаць да высоканапружанай атмасферы грамадска-палітычнага жыцця ў краіне. Больш за тое: мудра-абачлівыя дарадчыкі намаўляюць і чытачам і пісьменнікам, што сапраўды таленавітыя творцы сядзяць ціха, на барыкады не ўзыходзяць, публіцыстыку не пішуць, а думаюць пра вечнае і твораць вечнае. Абачлівасці ў гэтых парадах шмат, але мала праўды. Самы геніяльны балгарскі паэт Хрыста Боцеў загінуў на полі бою ў змаганні за нацыянальную свабоду Балгарыі. Самы вялікі венгерскі паэт Шандар Пецёфі загінуў на полі бою ў змаганні за нацыянальную свабоду Венгрыі. Самы вялікі ўкраінскі паэт Тарас Шаўчэнка быў сасланы за Каспій на рэкруцкую катаргу як змагар за свабоду Украіны. Самы вялікі беларускі паэт Янка Купала быў давездзены да "харакіры", а затым да загадкавай смерці ў Маскве як палымяны змагар за нацыянальную свабоду Беларусі. Не стану доўжыць пералік імён — дастаткова і гэтых.

Прагучаў перад з'ездам і невядома каму кінуты папрок: "Не гаварыце ад імя народа! Ён вас не прасіў аб гэтым!" Правільна, не трэба гаварыць ад імя; але калі табе дадзены Божы дар — сумей пачуць, чым жыве душа народа, і сказаць пра гэта так, каб чытач табе паверыў, убачыў, што ты не хлусіш, і з удзячнасцю прыняў сказанае. Не трэба гаварыць *ад* народа, але гаварыць *да* народа, *да* соцень і тысяч людзей, — трэба: гэта нам завяшчалі вялікія. "З цэлым народам гутарку весці, сэрца мільёнаў падслухаць біцця" — вось грамадзянскае крэда Паэта. "До спаць! Паўстаньце грамадою... Паўстаньце! Край ваш стогне родны..." — вось голас Паэта, звернуты да народа ў дні, калі менавіта такі голас і павінен быў прагучаць. "Беларусь мая! Краіна-браначка! Ўстань, свабодны шлях сабе шукай!" — вось што вырывалася з хворых грудзей самага эстэтычнага нашага паэта. І яшчэ адна вядомая вам усім паэтычная цытата:

***Прощай, немытая Россия,***
***Страна рабов, страна господ,***
***И вы, мундиры голубые,***
***И ты, послушный им народ.***

Толькі суздром заскарузлае сэрца можа не адчуць, якім страшным сыноўскім болем прадыктаваны гэтыя геніяльныя радкі вялікага паэта Расіі.

109 гадоў назад была выдадзена беларуская брашура пад назвай "Дзядзька Антон", або Гутарка аб усім чыста, што баліць, а чаму баліць — не ведаем". Думаю, што і мы сабраліся на з'езд дзеля таго, каб пагаварыць аб усім чыста, што нам баліць. Тым больш, што мы ведаем, і чаму баліць. Пачнём з таго, што найбалючэйшы сёння наш боль, які родзіць у душах гнеў праведны, — гэта бачыць тое, як рыхтуецца і крок за крокам ажыццяўляецца ліквідацыя дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі. Калі з'езд пісьменнікаў не выкажа сваіх адносін да гэтай гнюснай запраданскай акцыі — будзе грош цана ўсім прамовам, якія тут прагучаць. Другое, аб чым мы павінны гэтак жа рашуча выказацца, — гэта аб рэзервацыі, у якую загнана за апошнія сем гадоў наша родная мова. Мова, на якой створана багатая і самабытная літаратура, мова, якая выявіла за 1000 гадоў нашай гісторыі дзівосныя творчыя магчымасці і, я сказаў бы, проста загадкавую жыццяздольнасць. Мы не сумняваемся, што наша мова будзе жыць, што ў яе вялікая будучыня. І не страх, што яна адамрэ, бунтуе сёння душу беларускага пісьменніка. Бунтуе душу тое, што даводзіцца кожны дзень і на кожным кроку тут, на сваёй жа зямлі, сутыкацца з дзікунствам і хамствам у адносінах да найвялікшага духоўнага скарбу народа, бачыць цынічнае глумленне з нашай галоўнай нацыянальнай святыні, якуюсьці заалагічную нянавісць да адной з самых прыгожых моў на зямлі.

Зноў і зноў мы вымушаны спытаць: а што ж дзяржава? Дзяржава мае якое дачыненне да нацыянальнай культуры ці яна па-за межамі духоўных інтарэсаў нацыі? Тысячы разоў вялікія людзі цывілізаваных краін свету падкрэслівалі: мова ёсць першаэлемент нацыянальнай культуры, ёсць аснова асноў нацыянальнай культуры і ўсёй духоўнасці народа. Без клопату аб мове народа няма і не можа быць клопату аб нацыянальнай культуры. Увесь цывілізаваны свет ведае гэту ісціну і кіруецца ёю, і толькі Беларусь — краіна і дзяржава ў цэнтры Эўропы — да гэтай ісціны не дарасла.

Паважаныя калегі! Нацыянальная літаратура — гэта галоўная цвярдыня нацыянальнага духу, нацыянальнай ідэі, нацыянальнай самасвядомасці. Толькі такім павінна быць наша разуменне місіі, ролі і месца беларускай літаратуры ў грамадстве, у жыцці народа. Толькі на грунце такога разумення, г. зн. на грунце беларускай нацыянальнай ідэі, магчыма гуртаванне і кансалідацыя нашых творчых сіл. Гэта — галоўнае. А ўсё тое, што насуперак гэтаму, — яно не ад Бога, а ад сатаны, ад д'ябла. І будзе вельмі кепска, калі ў творчым і грамадскім жыцці нашага саюза будзе браць верх не галоўнае, не тое, што ад Бога.

Маці-Беларусь і Маці-Мова — іншага, больш дарагога, чым гэта, больш святога, чым гэта, у нас няма. Паслужым жа, колькі хопіць сіл, Роднаму Краю і Роднаму Слову. Слову з вялікай літары. Слову святлістаму і неспадманнаму. Кажучы радкамі Купалы, Слову магутнаму і бяссмертнаму.

Па даручэнні рады саюза абвяшчаю XIII з'езд беларускіх пісьменнікаў адкрытым.

якая ў год рыхтавала 200 гадзін паўнавартаснага мастацкага вяшчання, цяпер увогуле не існуе, яна ўвайшла ў лік так званых перспектыўных — гэта значыць, што ў перспектыве яна — калі-небудзь — можа нешта і зрабіць. Але не цяпер — бо трэба пакінуць месца для пустых, забаўляльна-безасабовых, што нічога не даюць ні душы ні сэрцу, перадачак. Ці адкажа хто калі за гэтае разбурэнне народнай душы, за сурагаты і культуры, і літаратуры, у той час як пісьменнікі амаль не маюць магчымасці ні выйсці да шырокага чытача, ні выдаць свае кнігі — я кажу пра вялізную чаргу ў выдавецтвах, пра якую тут, канешне, будуць казаць многія.

Мы жывём у час, калі пісьменніку прад'яўляецца рахунак за ўсё, што болем апякае душу кожнага сумленнага чалавека, заслон чаму павінна ставіць перш за ўсё дзяржава: здзічэнню грамадства, занядбанню роднай мовы, абыякавасці да нацыянальных святыняў. Ды наша грамадскае аб'яднанне налічвае ўсяго 505 творцаў. Ці ўсе яны бачныя ў даляглядах нашай палітыкі і культуры, ці здольныя ўздзейнічаць на ўладу, на грамадства? Мы спрабуем гэта зрабіць — і робім, як бы каму ні хацелася гэта адмаўляць, але, вядома, сваімі, пісьменніцкімі сродкамі — вершамі, аповесцямі, п'есамі.

Дзяржаўныя інстытуты заўсёды і ўсюды накіраваныя на тое, каб паставіць грамадства ў свае, імі абазначаныя параметры, ператварыць грамадства ў паслухмяныя, пазбаўленыя творчай ініцыятывы адзінкі дзеля лепшага ўпраўлення імі.

Грамадскія аб'яднанні, наадварот, грунтуюцца на прынцыпах творчасці і ініцыятывы, яны заўсёды апазіцыйныя ўладзе па сваім духу і прызначэнні.

Ва ўзаемадзеянні ці, калі хочаце, ва ўзаемаразуменні ролі кожнага з іх і пошуку той дыстанцыі, дзе няма ні згубнай для кожнай жывой справы паслухмянасці, ні, наадварот, той адлегласці, пры якой грамадская арганізацыя страчвае свой уплыў на інстытуты ўлады і магчымасць больш дзейсна рэалізоўваць свае прынцыпы, ляжыць корань многіх праблем і нашай пісьменніцкай суполкі.

З уздыхам палёгкі канстатавала газета "Літаратура і мастацтва" пасля мінулага, XII з'езда Саюза беларускіх пісьменнікаў, што чаканага расколу нашай грамады не адбылося, што мы змаглі захаваць наш саюз.

Але сёння мы як ніколі блізка падышлі да гэтай для каго ракавой, а для каго і жаданай мяжы.

Падставы для гэтага ёсць, і нашмат большыя, чым ранейшыя: усім вядомая сітуацыя са старшынёй саюза, якая паставіла нас у становішча пажарнікаў, з той толькі розніцай, што пажарнікі ведаюць, як дзейнічаць у самых розных сітуацыях, іх гэтаму вучаць, а мы, хто застаўся тут, рабілі кожны крок, рызыкуючы зваліцца ў бездань.

Бездданню гэтаю былі, апроч усяго іншага, вялізныя, недзе каля васьмідзесяці тысяч "у.е." (як прынята цяпер казаць) даўгі па Дому творчасці "Іслач", зробленыя пры нашых папярэдніках, пра якія нічога не гаварылася на XII з'ездзе.

Прападаў, згараў у агні даўгоў і часопіс "Крыніца". Фінансавыя праверкі (іх было часам па тры адначасова) ставілі пад сумненне і вынікі першага пры нас міжнароднага семінара перакладчыкаў. Ішлі бясконцыя суды па прэтэнзіях розных, намі ніколі не бачаных, фірмаў да Саюза пісьменнікаў і Літфонду. На адной з радаў усе дакументы па гэтых фактах былі абнародаваныя, кожны, хто хоча, можа з імі пазнаёміцца.

У нашым раскіданым гняздзе — Доме літаратара — гаспадарылі чужыя, нахабныя людзі, якія імкнуліся, выкарыстоўваючы сітуацыю, увогуле выцесніць нас і з тых нешматлікіх пакояў, якія яшчэ засталіся, што прывяло б да выцяснення са сваіх плошчаў і абласных аддзяленняў, адно з якіх, гродзенскае, да таго часу ўжо страціла ўсё, што мела. Я не буду займаць ваш час апісаннем усёй той барацьбы, якую мы вялі штодзённа, але нельга і не ўзгадаць хаця б гэтыя, самыя асноўныя факты.

Што ж удалося дасягнуць нам усім і найперш кіраўнікам саюза пісьменнікаў?

Як мне здаецца, самае галоўнае: нягледзячы ні на што, прыўзняць — я не кажу ўзняць — агульны аўтарытэт саюза як творчай, дзейснай арганізацыі і іміджу самога пісьменніка. Калі яшчэ тры гады назад журналісты часам задавалі досыць дзікае для мяне пытанне "Няўжо Саюз пісьменнікаў яшчэ жыве?", то зараз часам хочацца меншай увагі розных крытыкаў — "добразычліўцаў" да кожнай, часам дробязнай дэталі нашай дзейнасці, з якой спрабуюць раздзьмуць тую ці іншую сенсацыю.

Нягледзячы на спробу выціснуць Саюз пісьменнікаў з заснавальнікаў нашых часопісаў і газет, мы адваявалі гэтае права. Іначай праз больш ці менш прамежак часу іх немінуча спасцігнуў бы лёс "Першацвета", які стварайся тут, у саюзе, клопатамі Алеся Масарэнкі, а цяпер, відаць, страчаны для маладой беларускай літаратуры.

Мы змаглі наладзіць рэгулярную працу творчых секцый і камісій. Спецыяльна не ўзгадвалі пра іх дзейнасць у даведцы, каб даць магчымасць выказацца кіраўнікам. Заслугоўваюць шчырай падзякі старшыні секцый і камісій — Валянцін Блакіт (прыёмная камісія), Артур Вольскі (секцыя літаратуры для дзяцей і юнацтва), Уладзімір Глушакоў (секцыя публіцыстыкі і мастацкага нарыса), Генрых Далідовіч (камісія па рабоце з маладымі), Галіна Каржанеўская (секцыя драматургіі), Яўген Каршукоў (ваеннашэфская камісія), Леанід Левановіч (секцыя прозы), Мікола Мятліцкі (секцыя паэзіі), Міхась Мушынскі (секцыя крытыкі і літаратуразнаўства), Іван Чарота (секцыя мастацкага перакладу і літаратурных сувязей) і іншыя.

Прапагандавалі не так і мала па нашых магчымасцях, хаця, відаць, недастаткова для літаратуры такога ўзроўню творчасць лепшых нашых майстроў пяра. Прыгадаю толькі, апроч вядомых вам па прэсе вечарын, семінараў і "круглых сталоў", прэс-рэлізы на беларускай і замежнай мовах, якія мы рыхтавалі разам з Міністэрствам замежных спраў і адпраўлялі ў пасольствы нашай краіны і замежных краін.

Ужо другі год працуе выдавецтва Беллітфонду і спадзяёмся, што ў садружнасці з Дзяржкамдрукам мы зможам выпускаць кнігі не толькі нашых класікаў, але і, сабраўшы дастаткова сродкаў, кожнага сябра творчага саюза. Заплачаныя амаль усе даўгі па "Іслачы" — амаль, але не ўсе, і менавіта на нас падалі самыя горкія папрокі ў тым, што толькі нямногія змаглі атрымаць бясплатныя пуцёўкі ў наш далёка не цалкам адрамантаваны Дом творчасці, таму што на іх папросту трэба зарабіць сродкі.

Чаго мы не змаглі дабіцца, што не зрабілі з таго, што хацелі? Я назаву асноўнае:

Не адваявалі наш пісьменніцкі Дом.

Не распрацавалі стратэгічную праграму развіцця беларускай літаратуры, асабліва ж па тых накірунках, якія сёння ўяўляюцца асабліва важнымі

Літаратура ў нацыянальнай палітыцы дзяржавы,

Беларуская літаратура ў кантэксце сусветнай,

Літаратура і рынак

Беларуская літаратура ў Інтэрнэце (дарэчы, набыццём трох кампутараў мы пакуль што толькі заклалі падмурак для гэтай справы).

Не распрацавалі змяненні ў Статуце — па маім глыбокім перакананні, ён не адпавядае рэаліям сённяшняга дня, па ім папросту немагчыма працаваць. Не прапісаны ні абавязкі сяброў саюза, ні ягоных кіруючых органаў, ні магчымых нетрадыцыйных сітуацый — такіх, якая склалася з тым жа ад'ездам Някляева.

Амаль увесь Статут — гэта адбітак часоў, калі дзяржава ў адносінах да пісьменнікаў брала ўсё на сябе, у той час як сёння мы мусім дакладна вызначыць адзін да аднаго, напрыклад, — вырашальны ці толькі дарадчы голас СБП у прысуджэнні Дзяржаўных прэмій па літаратуры? (Тое, што апошнія гады ігнаравалася думка рады, лічу яскравай адзнакай непавагі ўлады да нашай творчай арганізацыі). Яшчэ — хто павінен вызначаць кандыдатуры для ўдзелу ў Днях культуры нашай краіны? І многае іншае...

Не ўзгодненыя ўзаемаадносіны з Літаратурным фондам. Рада не прыняла прапановы аб'яднаць пасады старшыні саюза і старшыні праўлення Літфонду — магчыма, гэтую прапанову не трэба было адкладваць на апошняе перад з'ездам паседжанне, аднак без гэтага наш Літфонд будзе ўсё больш упэўнена

*(Працяг на стар. 5)*

## Музей у роднай вёсцы

22 траўня ў Вялікаборскім сельскім Доме культуры (Хойніцкі раён Гомельскай вобласці) адбылося ўрачыстае адкрыццё пакоя-музея вядомага беларускага пісьменніка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа Барыса Сачанкі. 15 траўня пісьменніку споўнілася б 65 гадоў. Да знамянальнай даты і была прымеркавана гэтая важная падзея ў культурным жыцці нашай краіны. Сярод экспанатаў музея — кнігі Б. Сачанкі, фотаматэрыялы, асабістыя рэчы празаіка. Яшчэ раней быў створаны і дзейнічае літаратурны музей пісьменніка ў Вялікаборскай базавай школе, якая носіць імя Б. Сачанкі. На цырымоніі адкрыцця пакоя-музея і ў час правядзення вечарыны, прысвечанай юбілейнай даце, выступалі старшыня Хойніцкага райвыканкама М. Садчанка, родны брат пісьменніка, галоўны рэдактар часопіса "Пралеска" А. Сачанка, намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Полымя", пляменнік пісьменніка Б. Пятровіч, галоўны рэдактар часопіса "Крыніца" А. Канапелька, малодшая дачка пісьменніка С. Явар і многія іншыя. Гучалі ўрыўкі з твораў Барыса Іванавіча, вершы, напісаныя ў ягоны гонар, беларускія народныя песні ў выкананні фальклорнага гурта "Крыніца" і артыстаў мясцовай самадзейнасці. Уразілі цеплыня і гасціннасць вялікаборцаў, іх павага да памяці слаўтага земляка. Хочацца спадзявацца, што новы музей стане яшчэ адным цудоўным культурным асяродкам Хойніцкага раёна.

С. Я.

## Маляваны дзённік пана Струміла

Летась сваё наведанне Мінска ў якасці кіраўніка скульптурнага пленэру "Інтэграрт-99" Анджэй Струміла назваў "сентыментальным падарожжам" у край дзяцінства. З Вільняй, Навагрудкам, Лідай, Мінскам з 1928 па 1945 гады звязаны яго дзяцінства, навучанне, "знікненне" бацькі ў лёхах НКВД. Пасля вайны ён апынуўся ў Польшчы, дзе і жыве зараз. Адкрываючы днямі ў галерэі Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта яго выставу "Рысаваны дзённік — А4", пана Струмілу віншавалі як мастака. Але сам ён называе сябе універсальным дылетантам, хаваючы за гэтым усю шматграннасць сваёй асобы. Вучань вядомага авангардыста Стрэмінскага Анджэй Струміла займаецца жывапісам, малюнкам, афармляе кніжкі, стварае дызайны інтэр'ераў, тэатральнае афармленне. Ён піша вершы, выдаў некалькі кніг. Займаецца фатаграфіяй. На адкрыццё выставы ў Мінск ён прывёз некалькі кніг і фотаальбомаў свайго афармлення, а таксама відэазапісы, якія, пры жаданні, можна пабачыць у бібліятэцы ЕГУ.

Свае спантанныя малюнкі з дзённіка сам Струміла называе "рысаваным пісаннем", падобным да каліграфіі ў еўрапейскім разуменні. Яго малюнкі — проста запісы думак, якія, магчыма, ніколі не будуць рэалізаваныя як самастойныя карціны. У гэтым — іх каштоўнасць, бо яны дазваляюць эмацыянальна спасцігнуць зменлівасць свету іншага чалавека. "У маіх "шуфлядах" ляжаць тысячы нематэрыялізаваных вобразаў, якія ... застануцца найбольш поўным аписаннем маёй мастацкай журбы", — кажа пан Струміла.

Яму ўжо за семдзесят. Але пачэсны ўзрост і белыя валасы не замінаюць творча працаваць, падарожнічаць, разводзіць коней і наладжваць пленэры ва ўласнай сядзібе, якая стаіць на рацэ Чорная Ханка, што ўпадае ў беларускі Нёман. І называць сябе — чалавекам Вялікага Княства Літоўскага...

## Літаратурныя сустрэчы

Цэнтр беларускай культуры ў Даўгаўпілсе распачаў серыю "Літаратурныя сустрэчы". Пачаў гэту серыю паэт Станіслаў Валодзька. Ён прачытаў свае вершы, пазнаёміў прысутных, сярод якіх быў і консул Аляксандр Концкі, са сваімі новымі публікацыямі ў латвійскім і беларускім друку. Гучала тут і класічная музыка ў выкананні скрыпачкі Дзіяны Брыедэ і піяністкі Вольгі Максімавай. У заключэнне сустрэчы дырэктар ЦБК Аляксандр Рудзь выказаў сардэчныя словы, у якіх прагучала і спадзяванне на сустрэчы ў Беларускім доме з літаратарамі не толькі мясцовымі, але і з Беларусі.

Н. К.



Васіль БЫКАЎ

# "Чалавеку мала народжанай свабоды"

"Свабода — найбольшая маральна-фізічная каштоўнасць, дадзеная жывой істоце фактам яе нараджэння. Усё жывое і карыстаецца тою каштоўнасцю, наколькі гэта мажліва ў заблытаным свеце арганічнага існавання, апроч хіба чалавека. Чалавеку мала народжанай свабоды. Каб у поўнай меры спазнаць і адчуць яе неабходнасць, яму наканавана ў жыцці прайсці праз хітрасплецены лабірынт прыгнёту, хлусні і несвабоды, а то і застацца ў адным з яго тупікоў. І там прызвычаіцца, змарнець, страціць свой прыроджаны дар свабоды дзеля мэты элементарнага біялагічнага існавання, зрабіцца часткай натоўпу, грамадства, электарату, як і ўсе. Але як быць чалавеку, калі ён не як усе і вылучаецца з масы сабе падобных, калі ён творца, што дзеіць паводле ўнутраных імпульсаў самавыяўлення? Як яму пераадолець тую брутальную залежнасць ад сілы соцыуму, які нязменна нівелюе яго, прабачце за пафас, Богам дадзены дар? Ці, можа, не трэба нічога перадольваць, а падладзіцца, прыстасавацца, каб дамагчыся бесканфліктнага існавання? Як гэта робіць бальшыня зямных насельнікаў. Дзесяткі гадоў у нашых вушах гучыць нявольніцкая максіма: нельзя жить в обществе и быть свободным от общества. Што праўда, то праўда: нельга быць свабодным у несвабодным грамадстве: не дадуць, не дазволяць. Тыя, ад каго тое залежыць, натхняюцца не зманлівай ідэяй чалавечай свабоды, а рэальнаю ідэяй прыгнёту і сілы. І праўда — яны валодаюць немалой сілай, бо яны заўжды — гурт. Іх шмат, а нас мала, і яны рэгулярна пагражаюць перацерці нас на лагерны пыл. Таму ёсць пра што думаць, ёсць чаго баяцца. Мабыць, сапраўды, каб выжыць, варта згуртавацца, што робіць шмат якія істоты ў жывой прыродзе, асабліва калі гурт мае ідэю, малаважна якую — добрую ці благую. Часам ідэі робяць інстынкт нацыі ці кляса, ці якога гурта, і тады свет апынаецца перад імперскай, пралетарскай, нацыскай ідэяй, якія заўжды каштуюць крыві. Апантаныя, гэта значыць папулярныя ідэі, заўсёды каштуюць вялікай крыві, і рэдка здзяйсняюцца, нават і святая сярод іх — ідэя свабоды. Але ці дужа якая ідэя патрэбна творцу, калі ягоная душа ўжо захоплена ідэяй іншага кшталту, ідэяй праўды і прыгажосці? Іншаму там месца няма, і ён індывідуаліст; усё значнае ў мастацтве спрадвеку ствараецца на грунце індывідуалізму. Спробы зарганізаванай мастацкай творчасці, тым больш літаратурнай, заўсёды сканчаліся фіяска і пакінулі кепскую памяць пра сябе. Творцы твораць штучны тавар, таму працуюць паасобку. Творчы альянс нават двух, калі кожны з іх — геній, неверагодны. Толькі паасобку. Нават, калі яны аднадумцы, адзінаверцы, належаць да аднае партыі. Калектыўны элемент у мастацтве, несумненна, мае выключна дэструктыўны характар. Праўда, наш час асаблівы, крывадушны і жорсткі, а што да мастацтва — разбуральны па сваёй сутнасці. Толькі мы яшчэ не надта ўцямілі тое. Мабыць, цяпер належыць клапаціцца не пра росквіт — пра выжыванне і захаванне таго лепшага з нацыянальнай культуры, што гэтак брутальна бурыцца ўладай і часам. Пэўна, зрабіць тое лепей агулам. Але ці можна не разумець, што і бурыць выгадней агулам, усё адразу: так дзешавей для ўладаў, якія звыклі ўладарыць не толькі над целамі, але і над душамі. З тае мэтаю ў нядаўнім мінулым яны стварылі партыю, калгасы, ГУЛАГ, каб заграбсці ўсіх адразу і сагнаць творцаў у творчыя саюзы, дзе ўзялі іх у творчы палон. Тое яны найбольш рабілі рукамі і клопатам саміх жа творцаў з ліку найболей таленавітых калабарантаў па прынцыпе слаўтага самаабслугоўвання: самі пішаце, самі сябе і саджайце. Нашая літаратура быццам бы пакрысе выкараскваецца з таго інтэлектуальнага ГУЛАГа, з якога яшчэ не шанцуе выбрацца нацыі. Свабода рабочых і сялянаў патрабуе, як кажуць, шмат валютных інвестыцыяў, якіх няма. На зброю і паліцэйскае начынне інвестыцыі ёсць, а на свабоды для народа — няма. Літаратуры ж не патрэбныя інвестыцыі, нам патрэбны хіба дазвол. Але, аказваецца, дазвол на нашу свабоду каштуе яшчэ даражэй, чым дазвол на зямлю. Зрэшты, што да Беларусі, дык вынік аднолькавы — ні сяляне не маюць зямлі, ні пісьменнікі не маюць свабоды. Хоць бы свабоды на родную мову, нават на мяккі знак, каб ня курчыць язык у роце ад ненатуральнага, барбарскага вымаўлення. Усё тое, ведаема ж, несакрушальная сіла няволі, з якой мы звыкліся, зрадніліся, ад якой адступаць рызыкоўна і боязна, а галоўнае — не дазваляецца. Затое ад нас дамагаюцца іншага. Можна зразумець тых нашых расейскіх калегаў — з ліку дэмакратаў, канешне, — якія нядаўна перажылі ўсё тое самае і цяпер памкнуліся да зманлівай, труднадасяжнай свабоды. Паяднаўшыся з беларусамі, яны маюць намер набыць дадатковы шанц на шляху да свабоды, кіруючыся ўсё той жа логікай: гуртам — зручней. Але старая чэшская прымаўка кажа: "Не запускай млын, калі не маеш моцы яго спыніць". Ці маюць моц нашы расейскія калегі годна распарадзіцца хоць бы ўласным лёсам? Ці не рэальнай для іх, як і для нас, застаецца рызыка страціць усё? Дзе гарантыя таго, што іхні, хай сабе самы высакародны праект, будзе гэтак жа высакародна скончаны? Надта тое сумніўна ў краіне, дзе не спыняюцца ганебныя войны, усюды льецца кроў, нішчыцца свабода слова, а галоўнай дзяржаўнай ідэяй, калі паглядзець, робіцца ўзноўлены нацыянал-чэкізм. У нас і ў вас няшчасця хоць адбаўляй: рушыцца эканоміка, народ даведзены да галечы, дыктатура гвалтам нішчыць нацыянальную культуру і мову, але ж вы нам дапамагчы не можаце, шаноўныя калегі. Дапамагчы нам не можа ўжо ніхто, так глыбока завязлі мы ў багне хлусні і тыраніі, што ад нас адвярнуўся ўвесь свет. І усё ж нам, як тым зэкам, дужа непажадана трапіць з адной катоўні ў другую, асабліва, калі перапынак між допытамі апынуўся такі кароткі. Таму пачакаем, і застанёмся пры ўласных інтарэсах непадлегласці і суверэнітэту, наколькі тое магчыма. Канешне ж, гэта не свабода, а толькі яе ілюзіі, якія, аднак, тояць кропельку надзеі, як і ў Расеі таксама. Мабыць, кожнаму свой шлях да свабоды наканавана прайсці асобна. Усё ж індывідуалізм і ў гэткім аблічы не самы горшы кірунак да яе. Можа, не найлепшы, але і не найгоршы. Прынамсі, у наш час усе астатнія — горшыя, а ў аснове кожнай калектыўнай свабоды ляжыць свабода індывідуальная.

# На пераломе



І. Чарота, А. Савіцкі, У. Федасеенка. Фота Ул. КРУКА.

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)

Пасля выступленняў адбылося вылучэнне кандыдатур на пасаду старшыні саюза.

З абмеркаваных кандыдатур у выбарчых бюлетэнях засталіся толькі прозвішчы Вольгі Іпатавай і Міколы Мятліцкага.

Былі таксама абмеркаваны кандыдатуры ў новыя сябры рады і рэвізійнай камісіі і ўнесены ў спіс для тайнага галасавання.

Пасля перапынку пасяджэнне ўзнавіў Анатоль Вярцінскі. Працягваліся спрэчкі па дакладзе. У іх прынялі ўдзел Васіль Якавенка, Георгій Марчук, віцэ-прэм'ер урада Міхаіл Дзямчук, Мікола Мятліцкі, Валер Санько, Лявон Баршчэўскі, Віктар Супрунчук, Алесь Жамойцін і іншыя.

Бурным было абмеркаванне работы Беллітфонду. У спрэчках бралі ўдзел Вячаслаў Стома, Васіль Якавенка, Валер Санько, Анатоль Белы, Уладзіслаў Мачульскі, Васіль Зуёнак. З'езд прагаласаваў, што неабходна звярнуцца да рады СБП і праўлення Беллітфонду з прапановай перадаць функцыі старшыні праўлення Беллітфонду старшыні Саюза пісьменнікаў.

З'езд разгледзеў падрыхтаваныя дакументы і рэзалюцыі, прыняўшы некаторыя з іх за аснову і вярнуўшы на дапрацоўку ў рэдакцыйную камісію.

Па выніках тайнага галасавання, старшынёй Саюза беларускіх пісьменнікаў абрана Вольга Іпатава, а таксама новы склад рады і рэвізійнай камісіі.

Н. К.

## Рада Саюза беларускіх пісьменнікаў

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. Адамчык В.Ул. | 17. Дайнека Л.М. | 33. Карызна Ул.І. | 49. Папова А.Г. |
| 2. Андраюк С.А. | 18. Давідовіч С.Ф. | 34. Каско А.К. | 50. Паўлаў Ул.А. |
| 3. Арлоў Ул.А. | 19. Далідовіч Г.В. | 35. Кірыдаў Г.І. | 51. Пашкевіч А.А. |
| 4. Баравікова Р.А. | 20. Драньestablished-Майсюк Л.В. | 36. Карлюкевіч А.М. | 52. Пісьмянкоў А.Ул. |
| 5. Барадулін Р.І. | 21. Дудараў А.А. | 37. Кудравец А.П. | 53. Пташнікаў І.М. |
| 6. Башлакоў М.З. | 22. Дуктаў Ул.Ул. | 38. Кусянкоў М.С. | 54. Пятровіч Б.П. |
| 7. Бічэль-Загнетава Д.І. | 23. Жук А.А. | 39. Ліпскі Ул.С. | 55. Рагойша В.П. |
| 8. Блакіт В.Ул. | 24. Загорская Н.С. | 40. Лойка А.А. | 56. Саламаха Ул.П. |
| 9. Бураўкін Г.М. | 25. Законнікаў С.І. | 41. Лялько Х.А. | 57. Сіўко Ф.І. |
| 10. Бутэвіч А.І. | 26. Зуёнак В.В. | 42. Мальдзіс А.В. | 58. Супрунчук В.П. |
| 11. Быкаў В.Ул. | 27. Іпатава В.М. | 43. Марціновіч А.А. | 59. Ткачоў В.Ю. |
| 12. Вольскі А.В. | 28. Каваленка В.А. | 44. Масарэнка А.Г. | 60. Федарэнка А.М. |
| 13. Вярцінскі А.І. | 29. Камароўскі А.А. | 45. Мушынскі М.І. | 61. Цвірка К.А. |
| 14. Гальпяровіч Н.Я. | 30. Камейша К.В. | 46. Мятліцкі М.М. | 62. Чарняўскі Міх.М. |
| 15. Гардзей В.К. | 31. Канапелька А.І. | 47. Пазнякоў М.П. | 63. Чарота І.А. |
| 16. Гніламёдаў Ул.В. | 32. Кaржанеўская Г.А. | 48. Панізнік С.С. | 64. Шніп В.А. |
| | | | 65. Ягоўдзік Ул.І. |

## Рэвізійная камісія Саюза беларускіх пісьменнікаў

| | | |
|---|---|---|
| 1. Акулін Э.А. | 6. Коўтун В.М. | 11. Рублеўская Л.І. |
| 2. Бадак А.М. | 7. Крэйдзіч А.М. | 12. Стадольнік І.К. |
| 3. Вераб'ёў П.В. | 8. Макарэвіч В.С. | 13. Сульянаў А.К. |
| 4. Дзмітрыеў Г.Р. | 9. Міклашэўскі Я.В. | 14. Чарказян Г.Б. |
| 5. Зэкаў А.М. | 10. Праўдзін В.А. | 15. Шабовіч М.В. |

*Іншыя матэрыялы з'езда будуць надрукаваны ў наступным нумары.*

# Зберагаючы духоўнасць і святло

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 2—3)*

адпраўляцца ў дрэйф без саюза. Складваецца парадаксальная сітуацыя — існуючы на нашых плошчах, карыстаючыся аўтарытэтам саюза і нават ягонай тэхнікай, Літфонд, аднак, усё меней займаўся сваёй прамой справай — клапаціцца аб пісьменніках — і ўсё болей клапаціўся аб сабе самім.

Многае — лекі, прадуктовыя пасылкі, падарункі для дзяцей на навагодняй "Ялінцы" арганізоўваў менавіта Саюз пісьменнікаў, у той час, як гэта прамыя функцыі Літфонду. Днямі чакалі ветэраны прыёму ў Літфондзе, каб там вырашыць свае праблемы.Гэта — абсалютна недапушчальна!

Яшчэ ў дакладзе на папярэднім з'ездзе Васіль Зуёнак адзначыў: "У вырашэнні сацыяльных пытанняў Саюзу пісьменнікаў і Літфонду патрэбна адзіная структура, адзінае кіраўніцтва". І дадаваў, што "гэтае пытанне павінна быць вырашана, хай сабе і фармальна, асобным сходам — сходам членаў Літфонду". Дык давайце пры выбарах старшыні СБП усё ж паставім сёння гэтае пытанне ў парадак дня. Вы бачылі — мы хацелі б змяніць і структуру кіраўнічых органаў з тым, каб больш аператыўным было вырашэнне многіх надзённых праблем, у тым ліку найперш — выдавецкіх, фінансавых. А нам неадкладна трэба выбівацца на эканамічную незалежнасць, бо на сённяшні дзень без дапамогі пэўных дзяржаўных органаў — Міністэрства культуры, Дзяржкамдруку — немагчымыя былі б ні семінары маладых, ні некаторыя іншыя творчыя праграмы саюза.

У гэтым сэнсе важныя і сяброўскія ўнёскі, яны павінны быць павялічаныя, бо мы адзіны творчы саюз, у якім узносы існуюць як нешта амаль сімвалічнае. Сёння ўсё больш трэба гаварыць пра тое, што даём нашаму саюзу мы, а не толькі, што дае нам ён.На з'езд ТБМ не былі дапушчаныя тыя, хто не заплаціў узносы, а ў нас іх не плацяць гадамі, спадзеючыся, што грошы на газеты,кнігі ў бібліятэку возьмуцца аднекуль "зверху". Няма іх — кожны рубель на пахаванне, дапамогу хворым і на многае іншае трэба зарабляць самім.

Настаў час больш пэўна акрэсліць наша месца ў грамадстве, яшчэ раз вызначыцца з тым, што мы — перш за ўсё грамадскае аб'яднанне прафесійных літаратараў у рамкахякогакожны можа рэалізаваць свае грамадскія і палітычныя меркаванні згодна з уласным сумленнем.

Кіраўніцтва шмат папракалі ў тым, што намі нібыта кіруе Пэн-Цэнтр, і "група таварышаў", як сказаў Алесь Савіцкі, патрабавала, каб мы азнаёмілі іх са Статутам гэтай уплывовай міжнароднай арганізацыі.Я ўдзячная Алесю Ануфрыевічу, бо пабачыла, што нам якраз трэба было б узяць, як кажуць, на ўзбраенне, некаторыя пункты іхняга Статута, такія, як рашучае вызначэнне, што Пэн-Цэнтр ёсць грамадская, а не палітычная арганізацыя, а таксама аб тым, што ніхто не мае права рабіць палітычныя заявы ад імя Пэн-Цэнтра, і Пэн-Цэнтр не нясе адказнасці за іх.

Разам з тым нам трэба было б, улічваючы сённяшні "раздрай", увесці ў Статут пункт аб тым, што сябра Саюза пісьменнікаў не мае права, пад пагрозай выключэння, бэсціць уласную арганізацыю.Абсалютна недапушчальная ні ў якой цывілізаванай краіне сітуацыя, калі ў друку з'яўляюцца здзеклівыя, абражальныя выказванні ў адрас нашай арганізацыі — ад каго? Ад сябра гэтай жа суполкі! Няўжо не разумеюць самі пісьменнікі, што калі А. бэсціць Б., то чытач папросту перастае чытаць і паважаць як А., так і Б.? Такім чынам зніжаецца павага грамадства да ўсіх пісьменнікаў — без выключэння... Асабліва недарэчна і балюча , калі такія вызначэнні кідаюць паважаныя літаратары — тыя, якім сёння саюз сапраўды, можа быць, і непатрэбны, у той час як многім маладым ягоная падтрымка проста неабходная. Як жывецца нашым літаратарам у правінцыі, усе мы ведаем. Яны трымаюць мову і гонар пісьменнікаў з усіх сілаў і патрабуюць асаблівага нашага клопату. Гэта яны ў большасці сваёй — і анкеты пацвярджаюць гэта — за захаванне нашай творчай арганізацыі, як піша вязень сталінскіх лагераў Васіль Супрун, "у час, які ад пісьменніцкай грамады патрабуе кансалідацыі сілаў і розуму ў абароне інтарэсаў і незалежнасці нашай благаючай ратунку Бацькаўшчыны". Даючы магчымасць пісьменніку займацца творчасцю, падтрымліваючы яго духоўна і, па магчымасці, матэрыяльна, мы тым самым спрыяем падвышэнню духоўнага здароўя грамадства, арыентацыі яго не на ўяўныя, а на сапраўдныя культурныя каштоўнасці.

Але ў сілу вядомых вам прычын мы — і гэта таксама наш боль — не дайшлі да кожнага, каму сёння патрэбна дапамога, а саюз жа перш за ўсё створаны — цытую — "з мэтай абароны творчых правоў, прафесійных і сацыяльных інтарэсаў пісьменніка, яго годнасці, забеспячэння яму ўмоў для практычнай рэалізацыі свабоды слова і друку, аховы яго творчай спадчыны".

Але сутнасць яго — значна большая. Бо іншыя тыя параметры, па якіх Саюз пісьменнікаў можна аднесці толькі да прафесійных аб'яднанняў. Створаны для таго, каб быць праваднікам бальшавіцкай ідэалогіі, ён паступова набываў значнасць як своеасаблівы ахоўнік генетычнага коду беларускага этнасу, захавальнік нацыянальнага духу і мовы, кандэнсатар мастацкага асэнсавання сваёй уласнай гісторыі ў кантэксце навакольнага свету і Сусвету. Ідучы за папярэднікамі, беларускія пісьменнікі ў лепшых сваіх творах чэрпалі ў скарбніцах этнічнай моватворчасці, прыадчынялі таямніцы стасункаў этнасу з асяроддзем, са сваімі суседзямі, з самім Космасам.

Зараз мы цяжка, пакутліва атрасаем з сябе едкі пыл мінулага — таго, пры якім кіраўнікі саюза былі, па словах класіка, "літаратурнымі генераламі", калі пры маўклівасці пісьменнікаў-дэпутатаў быў зменены ранейшы артыкул аб прызнанні дзяржаўнасці беларускай мовы, калі ішло кіраўнічае шальмаванне няўгодных. Усё гэта было — але вось ужо па меншай меры дзесяць гадоў Саюз пісьменнікаў не ўпраўляецца зверху, ён паступова і часам балюча ўрастае ў сённяшнюю суровую рэчаіснасць, дзе засталося сціплае дзяржаўнае фінансаванне і дзе ўжо неадменна стаіць вострая і балючая задача — ісці ў рынак.

Зрэшты, гэты шлях праходзяць цяпер усе творчыя саюзы былога СССР, якія, па нашых звестках, захаваліся паўсюдна ў цэласнасці, апроч Расіі. Саюз пісьменнікаў Літвы, напрыклад, падае свае заяўкі на тыя ці іншыя дзяржаўныя гранты і вымушаны, як на абароне дысертацый, даказаць іх патрэбнасць.І ніхто не называе яго за гэта "сталінскім саюзам, які не паддаецца рэфармаванню", як робіць тое газета, якая павінна была б сцяной стаяць за кожнага, хто змагаецца за беларускае слова. Увогуле, злоснае, несправядлівае асуджэнне — адзнака духоўнай смуты грамадства.

Вось як казалі аб гэтым старажытныя мудрацы: "Бывае ў людзей такое здзічэнне духу, што яны могуць існаваць, толькі асуджаючы адзін аднаго. Гэта не дагляд доспехаў з мэтай дапамагчы, наадварот — асуджэнне робіцца сэнсам жыцця. Калі ў такога асуджэнца адняць язык і мову, ён прападзе, засохне, як расліна без вады".

Мы, інтэлігенцыя, не можам не ведаць закон: якасць нашага жыцця прама прапарцыянальная ўзроўню нашай маральнасці.

Саюз пісьменнікаў перажывае зараз цяжкія часы. Ён мусіць даказваць права на само сваё існаванне, мусіць даказваць у часы жорсткага процістаяння адной часткі грамадства другой, калі кожная з гэтых частак спрабуе перацягнуць яго на свой бок, альбо, калі гэта не атрымліваецца, знішчыць — не фізічна, дык маральна, не разумеючы, ды часам і не хочучы зразумець, што ягоныя задачы ляжаць у іншай плоскасці. Няхай не крыўдуюць на мяне палітыкі, калі я скажу, што многія з прысутных тут маглі б не горш за іх сфармуляваць пастулаты дэмакратычных задач і стратэгію грамадства. Але ніхто з іх не выкажа стан народнай душы так, як змог зрабіць у аповесці "Нічые" Андрэй Федарэнка, у сваіх апавяданнях "Бацька", "Каця і балабончык" Анатоль Кудравец, "Смерць на парозе" Вячаслаў Адамчык або Алесь Бадак у творы "Сабака, які забыў сваё імя", і як тое ўсяго ў чатырох радках вызначае паэт Сяргей Законнікаў:

***Нельга суцішыць у сэрцы трывогу —***
***Поле жыцця паглынае дзірван.***
***Люд не шукае да храма дарогу,***
***Душы ахутаў падман, як туман.***

Да глыбіннага, творчага асэнсавання пакручастых шляхоў беларусаў звяртаюцца паэты і драматургі, крытыкі і празаікі. Я ж павінна яшчэ, хаця і вельмі пункцірна, абазначыць асноўныя дасягненні і здабыткі нашай літаратуры.Скажу адразу — многія імёны, што меркавалася ўнесці ў даклад, такія, як Адам Мальдзіс, Вячаслаў Адамчык, Ніна Загорская, Галіна Каржанеўская, названыя ўжо ў друку, асабліва ў газеце "Культура", таму не стану паўтарацца.

Якой бы крытыцы ні падвяргаўся Саюз пісьменнікаў, але мы ўсе можам ганарыцца многім. Заўсёдную цікавасць выклікаюць новыя творы народных пісьменнікаў Янкі Брыля, Івана Шамякіна, Івана Навуменкі. Самі па сабе цэлыя саюзы, альбо, лепей, планеты з уласнымі арбітамі такія нашы прызнаныя майстры Слова, як Васіль Быкаў, Святлана Алексіевіч,Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін,Сяргей Законнікаў, Алесь Разанаў, Валянціна Коўтун, Раіса Баравікова Алесь Пісьмянкоў, Леанід Дранько-Майсюк.У іх трывалыя сувязі з замежжам, іх друкуюць і ўзнагароджваюць прэстыжнымі прэміямі ў іншых краінах менавіта як прадстаўнікоў беларускай літаратуры. Нашы пісьменнікі выступаюць пасламі міру як грамадскія дзеячы — сотні, а то і тысячы беларускіх дзяцей выратаваў Дзіцячы фонд, прэзідэнтам якога вось ужо шмат год з'яўляецца Уладзімір Ліпскі, не дае аслабнуць міжнароднай увазе да чарнобыльскіх праблем старшыня Экалагічнага саюза, яркі публіцыст Васіль Якавенка. Пачынальнікам акцыі "Пісьменнік — малой радзіме" стаў Алесь Карлюкевіч. Беларускім Скарынам называюць сёння Кастуся Цвірку, які заснаваў і паспяхова вядзе "Беларускі кнігазбор". У Старых Дарогах стварыў музей, сабраўшы унікальную для краіны калекцыю партрэтаў беларускіх адраджэнцаў, сябра нашага саюза Анатоль Белы. Будзяць грамадскую думку глыбока распрацаваныя філасофскія канцэпцыі народнай душы, створаныя Уладзімірам Конанам, і на жаль, не надта вядомыя шырокаму колу арыгінальныя канцэпцыі свету і космасу Генадзя Бубнава і Уладзіміра Дзюбы. Ды, зрэшты, амаль кожны пісьменнік у нашым саюзе — не толькі творца, але і, гаворачы паэтычнай мовай, своеасаблівая крыніца святла, якое ён выпраменьвае залежна ад дадзенага яму Богам таленту і грамадскай актыўнасці. Спакойна і мудра робіць сваю асветніцкую, пісьменніцкую работу вялікі працаўнік Сяргей Панізнік, які год за годам складае кнігі серыі "Бацькаўшчына", дзіцячы тэатр стварыла ў Падсвіллі Марыя Баравік, як бы ідучы ўслед за мэтрам нашай драматургіі Аляксеем Дударавым, чые гістарычныя драмы сталі з'явай беларускай культуры апошніх гадоў, адкрыўшы глыбінныя пласты гісторыі і супраціўлення чалавечага духу абставінам і забыццю, а таксама за Аленай Паповай і Сяргеем Кавалёвым, чые драматургічныя творы набылі міжнароднае гучанне і яшчэ раз засведчылі высокі ўзровень нашай літаратуры.

Толькі адзін пералік таго, што зроблена за гады паміж з'ездамі, заняў бы многія старонкі майго даклада. На жаль, далёка не ўсё атрымала той водгук у крытыцы і ў шырокай прэсе, якога яно заслугоўвае, — новыя апавяданні Івана Пташнікава, проза Віктара Казько, Германа Кірылава, творы Барыса Пятровіча, Анатоля Казлова, Франца Сіўко, Юрыя Станкевіча, Леаніда Галубовіча, Уладзіміра Саламахі, Лявона Баршчэўскага і іншых. Ды крытыка — самая, відаць, "правальная" частка нашае агульнае працы. Мяркуючы па публікацыях, варта задаць пытанне — дзе тая ладная па колькасці частка нашае пісьменніцкай грамады, якая павінна была б асвятляць і аналізаваць літаратурны працэс? Шчыра і плённа ў непапулярным жанры рэцэнзіі ці аналітычнага артыкула працуюць нямногія — Дзмітрый Бугаёў, Уладзімір Гніламёдаў, Пятро Васючэнка, Барыс Бур'ян, Лідзія Савік, сярод якіх найбольш нястомны Алесь Марціновіч, ды маладыя, якія яшчэ не стаміліся ад гэтай, скажам адразу, адказнай і клопатнай справы. Менавіта адсутнасць крытычных арыенціраў часта служыць прычынай таго, што грамадства слаба ведае, чым жыве сёння пісьменнік, асабліва на перыферыі.

Я хацела б сёння спыніцца толькі на трох накірунках сучаснай беларускай літаратуры.

Большасць значных і творчых здабыткаў, як бы выкрасаных іскрамі найглыбейшай злітнасці з народным болем, бачыцца нам у чарнобыльскай тэматыцы. Гэта перш за ўсё "Чарнобыльская малітва" Святланы Алексіевіч, што набывае сусветны рэзананс, гэта паэтычныя кнігі Міколы Мятліцкага, Сяргея Давідовіча, публіцыстыка Васіля Шырко. Відаць, сёння няма ніводнага пісьменніка, хто так ці іначай не шукаў бы ў страшэннай глабальнай катастрофе свой асабісты адказ на тое, што ёсць лёс чалавецтва і асаблівая адказнасць за сённяшняе і будучае.

Як бы імкнучыся нагнаць занядбанае і гнанае ў нядаўнія яшчэ гады, актыўна працуе гістарычная плынь нашай літаратуры.

"Кліч роднага звона" Генрыха Далідовіча несумненна стаў яе новым значным дасягненнем, як і зборнік п'ес "Воля на крыжы" Алеся Петрашкевіча, як раман Алеся Пашкевіча "Пляц волі" і асабліва кнігі Уладзіміра Арлова.

Звяртаючыся да ўрада, хачу яшчэ раз засяродзіць увагу на неабходнасці як мага хутчэй і актыўней вяртаць нашы культурныя каштоўнасці, што на працягу стагоддзяў былі вывезеныя з беларускай зямлі. Без іх немагчыма ўзнаўляць нашу гісторыю ў поўным аб'ёме.

І яшчэ — інтэлігенцыя рашуча патрабуе вяртання нашай старажытнай сімволікі — хаця б як гістарычнай. Справа тут не ў палітыцы. Адмаўляючыся ад крыжа на шчыце Пагоні, мы адмаўляемся ад ахоўнай энергетыкі продкаў.

Сёння час незапатрабаванасці літаратуры, і таму то набатна-гучнае, то жартоўна-лёгкае, то балючае слова паэта нібы грузне ў шэрай, цягучай каламуці дзён. Але не прападае. У той грандыёзнай барацьбе Дабра са Злом, якая сёння набыла маштабы касмічнай наканаванасці, для кожнага з нас існуе магчымасць структураваць, гаворачы мовай фізікі, вакол сябе прастору, памяншаючы энтрапію Духу. Толькі на зямлі дадзена кожнай душы рэалізаваць гэтую задуму Творцы. І, празраючы скрозь твань атэістычнае бяздумнасці і самаўпэўненага невуцтва, нашы лепшыя паэты звяртаюцца да Вышэйшага Суддзі са страсным жаданнем знайсці ў яго адказы на спрадвечныя пытанні жыцця. Яшчэ ніколі ў нашай літаратуры не існаваў гэткі, сёння найбольш моцны, тэматычны пласт, які ўмоўна можна было б назваць дарогай да храма і па якім з поспехам — калі можна гаварыць пра поспехі ў зберажэнні духоўнасці — ідуць Данута Бічэль-Загнетава, Віктар Шніп, Валянціна Аксак, Алег Бембель, Ірына Багдановіч, Ірына Жарнасек, Хрысціна Лялько і многія іншыя. Адсылаю вас да бліскучага артыкула Любові Гарэлік у часопісе "Полымя" — "Да Бога звернутае слова", дзе гаворыцца аб неабходнасці стварыць трывалы маральна-этычны кодэкс, без якога грамадства проста загіне.

Чалавеку сёння нялёгка, а то і немагчыма дабрацца да самога сябе, да першавытокаў свае душы, куды Творцам закладзеныя правілы, жывучы па якіх ён зможа існаваць у гармоніі з Сусветам.І ў гэтым яму можа дапамагчы, бадай, толькі літаратура.

Так, паэт з усіх зямных істот заўсёды быў найбольш набліжаны да Усявышняга ( "Да Буды бліжэй усяго паэты", — кажуць на Усходзе), але не заўсёды і сам усведамляў тое, схіляючыся перад моцнымі свету, дазваляючы ім вырашаць, як і чым яму жыць, ускладаючы на іх адказнасць за свой уласны лёс і горка на іх жа наракаючы, калі іхнія ўяўленні пра жыццё не супадалі. Між тым, маючы вялікі, неацэнны боскі дар, менавіта пісьменнікі могуць актыўна накіроўваць грамадскую свядомасць у патрэбнае рэчышча ідэй, якія найлепш спрыяюць жыццю і захаванню ўласнай нацыі, а праз яе — і ўсяго чалавецтва. Дзяржава ў рэшце рэшт можа — і павінна — быць такой, якой яе ўбачаць і прапануюць грамадству творцы. Францішак Багушэвіч першы выказаў пастулат, які стаў для нас маральным законам "Не пакідайце мовы нашай, каб не ўмёрлі", а Янка Купала ў сваёй публіцыстыцы фармаваў бачанне беларусам свайго месца ў свеце.

Наша зброя, калі так можна сказаць, — не гвалт, а самаахвярнасць, не агрэсія, а перавага духу, не зласлівае нецярпенне да чужой думкі, а трапяткая, найтанчэйшая, як казачны волас Залатавалоскі, павага да сябе і, галоўнае, павага да іншага — вось простыя, даўно вядомыя, але сёння асабліва патрэбныя нашаму грамадству ісціны, без якіх мы згубімся на страшных віражах сучаснасці, сканаем на жахлівым наждаку глабальнай ніверліроўкі асобы. Працэс гэты прыходзіць у Беларусь — Беларусь, у імуннай сістэме якой няма — ці амаль няма — абароннае моцы супраць вірусу бяспамяцтва і нацыянальнага нігілізму. Вось чаму нам аніяк нельга згубіць, уласнымі рукамі разбурыць наш сёння няўстойлівы, як карабель з амаль ушчэнт падранымі парусамі, пісьменніцкі саюз. Які, аднак, трымаецца — можа, энергетыкай, закладзенай у ім папярэднікамі, а можа, нашым уласным падсвядомым адчуваннем, што ў Беларусі пакуль што няма падобнага нашаму нацыянальнага асяродка. Як бы ні імкнуліся сёння браць на сябе гэтую місію асобныя газеты, суполкі, літаб'яднанні — яны не назапасілі, проста не паспелі, якімі б звышнацыянальнымі яны ні былі ці сябе ні лічылі, назапасіць свайго залатога запасу, які складаецца з мастацкіх твораў, у якія ўкладзеныя лепшыя сілы душы. На працягу дзесяцігоддзяў пры параўнаўча невялікай колькасці нацыянальна арыентаваных інтэлектуалаў працуе некалькі плыняў маладых беларускіх творцаў, якія толькі сябе лічаць выразнікамі нацыянальнай ідэі — куды больш перадавымі і беларускімі, чым Саюз беларускіх пісьменнікаў. Шмат разоў дэкляруецца ў іхніх выданнях, што менавіта імі будзе створана ( ці ўжо створаная) найноўшая беларуская літаратура, вартая лепшых еўрапейскіх узораў. Бяда толькі ў тым, што і ўзораў пакуль не надта відаць, і параўнаўча невялікае поле іхняга ўплыву, так што чым займацца высвятленнем хто больш беларускі і свядомы, усім нам трэба было б працаваць разам на бяскрайняй ніве нацыянальнага Адраджэння, дзе хопіць месца і сур'ёзным даследаванням крытыкаў, і перфомансам з абліваннем сябе таматным сокам і вынасам у труне, і традыцыйным формам творчасці, і суперінтэлектуальным пошукам. Не варта забывацца нашым таленавітым, але дужа мадэрновым і дужа прагрэсіўным маладым, што вырошчвалі іх мы — у газеце "Культура", у часопісе "Крыніца", на старонках "Літаратуры і мастацтва" і "Чырвонай змены".

Ніхто не ведае, хто больш патрэбны матухне Беларусі. Відаць, патрэбныя ўсе мы разам — з разуменнем таго, што мы, такія розныя, служым адной ідэі. І гэта ідэя — свабодная, незалежная Беларусь, з яе самабытнай мовай і культурай, у прыязных стасунках з суседзямі і са светам — хіба не здольная ўсіх нас аб'яднаць?

Абаронцамі мовы тытульнай нацыі павінны быць у першую чаргу дзяржаўныя інстытуты, а стаецца так, што зараз гэта ў поўнай ступені робяць — бадай што, толькі Саюз пісьменнікаў, Таварыства беларускай мовы ды некаторыя аб'яднанні. І чым хутчэй зразумее ўлада, што мы не дамо загінуць нашай мове, што мы будзем да канца стаяць за яе — тым менш маральных стратаў і ранаў будзе нанесена грамадству, якому для духоўнага выжывання патрэбна хай часам суровае, балючае, але праўдзівае слова пра сябе.

Час ідзе, і ён пераканаўча даказвае, што ў грамадстве наспявае пільная патрэба ў яркім, жывым, вобразным слове мастака. Мы не змаглі аднавіць Бюро прапаганды, але гэтую справу часткова ўзялі на сябе шчырыя, даўнія сябры нашага саюза — Тэатр аднаго актора "Зьніч", Таварыства беларускай мовы, ТБШ, музей Янкі Купалы, некаторыя раённыя таварыствы "Веды". Мы працуем ва ўзаемаразуменні з многімі раённымі аддзеламі культуры, такімі, як Пухавіцкі, Глыбоцкі, Аршанскі.

Сёння час цяжкай, часам знешне не надта прыкметнай, ды вельмі важнай для Беларусі рэальнай справы, а не толькі гучных дэкларацый. Ці дагледжаны магілы Каруся Каганца і Алеся Адамовіча, ці створаны літаратурныя суполкі ў вёсачках і мястэчках, ці ажыццяўляецца выданне твораў Францішка Багушэвіча і іншых класікаў не менш важныя, чым выхад нашай літаратуры ў шырокі свет і прадстаўленне яе лепшых здабыткаў міжнароднай супольнасці. Мы перасталі збірацца тут, у саюзе, каб пагаварыць менавіта пра яе вялікасць Літаратуру — такая негатыўная, разбуральная сіла неразумення паўстала паміж пісьменнікамі.

Насуперак усяму гэтаму,беларуская літаратура жыве і развіваецца, пускае новае, маладое карэнне.

Яно высокаадукаванае і таленавітае — Ганна Кісліцына, Янка Лайкоў, Віктар Жыбуль, Серж Мінскевіч, Зміцер Вішнёў. А за імі ідуць і ідуць новыя, зусім юныя.

Вось перад вамі газета Магілёўскай гарадской гімназіі № 1 "Звон" і "Магілёўская маладзёжная" Маладога фронту, а таксама "Маладзічок" — выданне краязнаўчага гуртка Глыбоцкай школы №3, дзе пяць пакаленняў свайго роду даследуе школьнік Юра Грыневіч, а сямікласніца Юля Пяткевіч ставіць эпіграфам для свайго даследавання верш Міхася Скоблы. У гэтых часопісах шмат вершаў — ад Купалавых да сваіх, яшчэ няўмелых, але вельмі шчырых. Такіх, набраных на кампутарах, газет шмат робяць цяпер нашы пачаткоўцы, услед за літаратарамі і гісторыкамі адкрываючы невядомыя старонкі гісторыі, даследуючы белыя плямы, залітыя крывёй беларускіх літаратараў, што згінулі ў прасторах Сібіры, у Курапатах, у тысячах невядомых магіл, хто, як Цішка Гартны, закапаны без апошняга прычасця ці расстраляны, як Францішак Аляхновіч.

Дзеля іх, дзеля гэтага маладога пакалення — будучага нашай літаратуры — павінны мы сканцэнтраваць усе нашы намаганні на тое, каб не даць ім быць затаптанымі на раздарожжы, каб яны прадоўжылі справу, якой сваёй творчасцю шчыра і аддана служаць тыя, хто сабраўся сёння на наш з'езд вызначаць духоўныя арыенціры нацыі.

рам? Добрую справу задумаў! Захоўвай на радасць унукам сваім! Ды не хавайся сам за старажытны вал, Давыд-Гарадок. Усё роўна ж не схаваешся ад магутнага поступу часу! Не хачу бачыць больш цябе жывым музеем "веснянікаў"! Хачу, каб закіпела ў табе новае жыццё — маладое, здаровае, неўтаймоўнае! Хачу, каб выплеснулася юная сіла далёка за старажытны вал, як выплёскваюцца з берагоў веснавыя воды Гарыні..."

Вядома, у кожным рэгіёне, краі захаваліся паданні аб храме пад вадою, бы рэлікце такога запаветнага "залатога веку"! Кіцежград, Прошча, славутая Свіцязь... І герой хронікі дазнаецца ад роднага дзядулі Пятра, пазней ад састарэлага лесніка пра мясцовае Святое возера: "Бо ляжыць возера, яго ў народзе прозвалі Святым, сярод заповедных пушчаў, вада ў ім халодная нават у спякотныя дні — б'юць з дна сцюдзёныя крыніцы. Неколі кажуць, у лоне яго вод гойдаўся не толькі заход сонца, але й залацістыя купалы царквы... Одкуль царква? Расказвалі лядзецкія дзяды, што ў тыя даўнія часы каля возера стаяла прыгожая царква, якая ў час татарскага нашэсця разом з людзямі пойшла под воду. Поетому і серабро, і шчолак у водзе, а вода етая годамі не псуецца ў посудзе, і лечаць ёю ўсялякія скураныя хваробы, золотуху. А шчо робіцца на возеры ў купальскую ноч! З песнямі, вогнішчамі і вянкамі на вадзе... Лічыцца, што ў ету ноч у возеры трэба выкупацца — на ўвесь год будзеш загавораны от хвороб".

І лірычны ўспамін пра Святое Возера ў III частцы тэтралогіі "Фрэсках Пагарыння" праз сонныя мроі хлапчука надае выяўленчыя абрысы старадаўняму гораду, які з вёскамі і храмамі праваслаўнымі паглынула Маці Зямля (згадаем "Трэнас" М. Сматрыцкага, "Жыціе Мяркурыя Смаленскага"), каб ўратаваць ад глуму зграяў варожых". Гэты горад бачыцца герою "...пазалотай купалоў і шпіляў, белацаглянымі званіцамі, і шырокімі пераходамі на зубчастых сценах вежаў, дзе неслі службу вартавыя ў шытых золатам каптанах і пад ружжом, а ўнізе — гаманлівыя базарныя рады, срэбная прыстань ля ракі..." Сапраўды, да такога сімвала цнатлівай чысціні імкнецца заўсёды кожная чалавечая душа. Гэта валадарства дабрапамыснага чалавека, вакол такой яго чыстай душы, нібы храма, плывуць велічна рыбы, яго славяць птушкі ў час лёту, вакол яго бегаюць жывёлы, якія даверліва ласцяцца да чалавека, праўобраза Божага, не ўласніка вясковай гаспадаркі, а сардэчнага сябра "братоў нашых меншых".

Тут У. Глушакоў не толькі пайшоў услед караткевічаўскай традыцыі гуманнага еўрапейскага стаўлення да жывёлаў і раслін, але і ўзбагаціў яе спрадвечна славянскім светабачаннем, антрапамарфічнай персаніфікацыяй.

Звышзадачай хронікі "Развітанне на пачатку вясны" было аднойдзенне шляхоў перамогі над матэрыяльным, біялагічным пачаткам у чалавеку, вырашэнне якой разгорнута на прыкладзе заўчаснага адыходу з жыцця бацькоў героя.

І як сродак перамогі над хуткаплыннай матэрыяльнасцю душы чалавечай падараваны храм царкоўнай малітвы: ...цераз увесь цвінтар — хваляй узляцеў дзівоснай чысціні, пявучасці і задушэўнасці жаночы спеў... Які хор, калі ён нават тройчы заслужаны ці народны, можа параўнацца з царкоўнымі пеўчымі! Гэта трэба было бачыць і чуць... Слёзы міжвольнага захаплення і горычы блізкага развітання... запяклі ўваччу: "Божа праведны! Не ведаю, калі стукне мой час, але няхай бы і на маіх праводзінах да апошняга прытулку ўсё заставалася, як ёсць.., як завешчана нам продкамі нашымі".

Усе творы У. Глушакова ў нечым нагадваюць эпічныя быліны, бо ў іх прысутнічае праўда "як на вастрыні ляза" з сівой даўніны і забытай сучаснасці, якая толькі нядаўна нечакана стала мінуўшчынай. Прозу У. Глушакова пранізвае амаль кінематаграфічны абвострана драматычны паказ падзей, людскіх характараў у дынаміцы іх сутыкненняў з рэаліямі жыцця. Крыніца шырокага чытацкага прызнання твораў вядомага пісьменніка ў тым, што чытач верыць падзеям, адлюстраваным у іх, сэрца яго кранае трагічная мужнасць жыцця герояў, а душу ўражвае паўсядзённае высакародства і шчымлівая дабрыня.

---

так ці інакш прычыніўся да фармавання сістэмы мастацкай адукацыі нашай краіны, зрабіў унёску ў беларускую і сусветную культуру.

Мяркую, што аўтар будзе распрацоўваць сваю тэму і далей, а значыць, з часам мы пабачым і новае выданне "Мастацкай адукацыі ў Беларусі". Значыць, можна будзе атрымаць магчымасць штосьці апрацаваць стылёва, штосьці дапоўніць. У прыватнасці, хацелася б, каб аўтар надаў адпаведную ўвагу асяродкам беларускай культуры, якія зараз знаходзяцца па-за дзяржаўнымі межамі Рэспублікі Беларусь. Гэта найперш Вільня, Смаленск, Беларусь. Гэта не тэрытарыяльныя прэтэнзіі, гэта — аб'ектыўная рэчаіснасць, гістарычная праўда. Дарэчы, нашы суседзі палякі малююць межы распаўсюджвання пальшчызны ці не да Смаленска; летувісы больш "сціплыя", але і яны знаходзяць "сваё" далёка на ўсход ад сваёй дзяржаўнай мяжы. Расейцы таксама маюць спецыфічную ментальнасць і ўласнае разуменне геаграфіі. Так што і нам не варта ад суседзяў адставаць.

**П. В.**

---

УРАЖАННЕ

# Генадзь Рымскі працягвае жыць у кнігах

Адна за адною выйшлі ў Маскве і Мінску дзве паэтычныя кнігі паэта, перакладчыка Генадзя Рымскага, якога, на вялікі жаль, ужо няма сярод жывых. Першай яго кнігай была выдадзеная ў яго перакладах "Белорусская лирика XIX—XX веков" (М., 1998), куды ўвайшлі творы 59 беларускіх паэтаў, як класікаў, так і сучаснікаў.

Скажу адразу ж: галоўныя літаратурныя кнігі вучонага-кібернетыка Генадзя Рымскага яшчэ наперадзе. Ужо ў гэтым годзе з'явяцца чатыры важкія паэтычныя тамы. Гэта двухтомная аўтарская "Антология белорусской поэзии" за ўсе часы, ад Кірылы Тураўскага, Сімяона Полацкага, Францішка Скарыны да нашых дзён, а таксама выбраныя ўласныя творы ў двух тамах. Выдаюцца гэтыя кнігі маскоўскім выдавецтвам "Русский двор", што пры Літаратурным інстытуце імя М.Горкага. Пералічаным, а яно, прынамсі, не можа не ўразіць кожнага прыхільніка паэзіі, не вычэрпваецца спадчына таленавітага, шматгранна адоранага, яшчэ не распазнанага намі пісьменніка. Бо на чарзе для выхаду ў свет яго вялікі і цікавы раман у вершах "Поэзия науки", гістарычная аповесць і іншыя творы.

Хачу ў храналагічным парадку коратка сказаць аб выдадзеных кнігах, бо ўпэўнены, што больш падрабязныя водгукі абавязкова будуць напісаны. Размова ідзе аб томіку яго ўласных вершаў і казак "Я есть!" (М., "Русский двор", 2000) і прыгожай доўгачаканай кнізе "Антология белорусской лирики XIX—XX веков" (Мн., "Беларускі кнігазбор", 2001).

"Я есть!" — кніга пра ўспрыманне дзецьмі навакольнага свету, мінулых і сённяшніх падзей і адначасна пра погляды і ацэнкі шмат якіх старонак жыцця з боку кібернетыка, прызнанага спецыяліста ў галіне аўтаматычнага кіравання і камп'ютэрных тэхналогій, аднаго з адукаванейшых людзей Беларусі. Яна складаецца з двух раздзелаў: першы аб станаўленні свайго "Я" ў маленькага чалавека і больш значны, амаль у тры разы больш ёмісты, пад назваю "Дедушкины сказки, были и небылицы".

Вершы Генадзя Рымскага чытаюцца лёгка, нязмушана. Ад іх цяжка адарвацца, іх праглынаеш. У вершах шмат знаходак, дабрыні, цяпла, любові, святла, асаблівай сардэчнасці, якія выпраменьваюцца і перадаюцца ад дзядулі ўнукам. У размовах апошніх іскрыцца гумар.

Як найбольш значныя і прывабныя творы першага раздзела я вылучыў бы "Аленький цветочек" — пра наведванне драмтэатра, "Полет в космос", "Балет "Спартак". Здаецца, што лепш апісаць майстэрства танцораў, аркестра, балетмайстра Елізар'ева, уздзеянне на гледача ўсёй пастаноўкі, музыкі А.Хачатурана ("прихожу в себя не скоро") немагчыма. Паэтычны водгук Генадзя Рымскага аб балеце "Спартак", напісаны на 13 старонках, думаецца, упрыгожыў бы музей Акадэмічнага тэатра оперы і балета Беларусі. І колькі часу яшчэ не будзе адказу на пытанне ўнука Антошкі пасля прагляду змагання Спартака за свабоду:

***Ну, а что же с нами будет?***
***До сих пор свободы нет!..***

Прыгожа напісана пра прэм'еру казкі "Аленький цветочек". Вобразнае ўспрыманне настолькі моцнае, што падзяляеш шкадаванне ўнука аб заканчэнні спектакля ("Уходить нет мочи, право! Здесь останусь насовсем!) і яго жаданне зноў праз тыдзень прыйсці ў тэатр.

У другім раздзеле мне падаюцца дасканалымі казкі "Восточные мотивы", "Лапшеризация (Современная белорусская сказка)", "Выборы в лесной академии (Академическая сказка)", "Полесская баллада". У апошняй на мірны палескі край, дзе багі жылі ў лясах разам з людзьмі, напалі чужынцы. На абарону падняліся ўсе, побач з мужчынамі змагаліся жанчыны. Загінулі Нарач, Іслач, Свіслач, Нёман і Шчара. Іх лёс раздзялілі ў бітве і Буг, і Дняпро, і гордая Прыпяць. Засталіся адны багі, праклінаючы сваё бессмяроцце. Магутны Пярун — громавержац усклікнуў:

***Живи, Белой Руси народ!***
***Ты вынесешь все испытанья,***
***Невзгоды, утраты, страданья.***
***Борись! И свобода придет!***

Праліўся моцны лівень, і ўзнавіліся беларускія рэкі і азёры. Бачна, што на Генадзя Рымскага моцны ўплыў зрабілі міфы, фальклор, увогуле ўся народная творчасць беларусаў, багатая, яркая, запамінальная.

Для сённяшняга беларускага грамадства павучальнай, на мой погляд, з'яўляецца акадэмічная казка "Выборы в лесной академии". Тут раскрываецца тэхналогія выбараў наогул і, у прыватнасці, аднагалоснага абрання асла праўдзейным членам акадэміі навук, нягледзячы на негатыўныя выказванні ў кулуарах, адсутнасць канкрэтнага ўкладу ў навуку і справу. Асёл затое мог падняць глабальныя тэмы і меў вялікі ўплыў. Мала таго, пасля аб'яўлення Львом вынікаў выбараў Асёл "выразил мненье, что нужно Козла избрать теперь столь же ударно".

У "Восточных мотивах" услаўляюцца людскія вернасць, дружба, любоў:

***Верность, любовь и дружба***
***Всюду во все времена***
***Свято и строго чтились,—***
***Дань им платили сполна.***

А таксама смеласць, працалюбства, уменне дасягаць шчасця і сваёй мэты:

***Счастье идет к счастливым,***
***Смелым сопутствует рок.***
***Силу трудолюбивым***
***Удесятеряет Бог!***

Глыбокая, мудрая, лаканічная "Притча". Кожнае з двухрадкоўяў ці чатырохрадкоўяў гучыць як афарызм. Напрыклад, "...мудрость оберегает и знания служат щитом", альбо "ты спереди бойся быка, осла опасайся лишь сзади, со всех же сторон — дурака!"

Ці ёсць на зямлі хоць адзін беларус, якому няведамы свет казак? Заўважана, што ў нас з маленства захавалася асаблівая прыхільнасць, іншы раз на ўзроўні падсвядомасці, да тых з бацькоў, бабуль і дзядуль, хто мог гадзінамі зачароўваць малых майстэрствам расказаць, чытаць і ад сябе прыдумваць незвычайныя сюжэты, дзівосныя падзеі, якія маглі ўразіць дзіцячае ўяўленне. Такім дарам валодаў і Генадзь Рымскі. З дапамогай казак ён выхоўваў сваіх дзяцей, узбагачаў іх душу. Выдумкай і фантастыкай ён пашыраў уяўленні дзяцей аб існуючым свеце, падымаўся над будзённым жыццём.

Яшчэ больш яскрава выявіўся талент Генадзя Рымскага ў даволі вялікім творы "Сталинград: детские воспоминания". Гэта не казка, а быль: Генадзь нарадзіўся ў Сталінградзе і ў 5-6-гадовым узросце перажыў трагедыю горада. Гэта пацвярджае, што дзіцячыя ўспаміны самыя яркія, пранізлівыя і незабыўныя. Маленства Генадзя прайшло на Волзе. Карціну свайго бесклапотнага, шчаслівага даваеннага дзяцінства ён адлюстроўвае ў радках:

***В ярко-солнечном просторе***
***Царство радости и грез.***

Рос, адчуваючы, як "мощь России бесконечной наливается во мне". Любіў купацца, бегаць па пяску, поўны ўражанняў ад волжскай прыгажосці і адчування палёту:

***Я лечу, раскинув руки,***
***В зелень, в Волгу, в небеса...***

Калі на горад "пошел налетов шквал", хаваліся ў падвале. Паэт перадае жахлівую рэальнасць: пажары, руіны, смерць, разбомбленыя параходы, перапоўненыя эвакуіраванымі людзьмі, кроў і слёзы. Злавесныя рытмы страшэнных бамбардзіровак гучаць у словах:

***Дни и ночи — все смешалось,***
***Бомбы падали дождем,***
***Канонада продолжалась***
***Утром, вечером и днем.***

Сям'і з неймавернымі цяжкасцямі ўдалося эвакуіравацца ў Сібір. Вывезены са Сталінграда томік Пушкіна захаваўся да сённяшняга дня як сямейная рэліквія Рымскіх. Ён звязвае даўно мінулыя дні з сённяшнімі і як бы сведчыць, што духоўныя каштоўнасці не знікаюць. Генадзь ведаў гэты томік на памяць. Наогул, чытаць на памяць многія вершы рускіх і беларускіх творцаў — яго адметная рыса. У гэтым маглі пераканацца студэнты, калегі, прысутныя на паэтычных вечарынах, прысвечаных творчасці Я.Коласа, С.Грахоўскага, М.Расолава, яго ўласнай кнізе.

У раздзеле "Эвакуация: отъезд в Сибирь" паэт асэнсоўвае і разважае пра лёс народа на працягу стагоддзя. Горыч, боль за пакуты, выпрабаванні, што выпалі на долю народа, перапаўняюць яго. Звяртаючыся да Расіі, дзе "крови — море, горя — море", ён заклікае яе бараніць чалавека: "Защити от силы вражьей, от своих же королей!". Паэт услаўляе мужнасць Сталінграда і выказвае веру ў светлае будучае народа.

Ад чытання змешчаных у кнізе Генадзя Рымскага твораў атрымліваеш асалоду, знаходзішся ва ўладзе паэзіі. Назва кнігі "Я есть!" падаецца прадуманай і сімвалічнай. Справа ў тым, што складаў яе пры жыцці сам паэт напрыканцы 1998 г. (здадзена ў набор 15 сакавіка 1999 г.). Менавіта ў гэты перыяд ён даведаўся пра сваю невылечную хваробу і пачаў праходзіць інтэнсіўнае лячэнне ў Беларускім НДІ анкалогіі і медыцынскай радыялогіі: хіміятэрапію, апраменьванне, лакальную і сістэмную гіпертэрмію. І хаця Генадзь не траціў прысутнасці духу, захоўваў ясны розум, працягваў працаваць апантана нават у шпіталі, але было невядома, наколькі хопіць сіл...

Кніга "Я есть!" павінна была па задуме паэта стаць прамежкавай паміж першай кнігай і выданнямі перакладаў і ўласных твораў. Ён вельмі спадзяваўся, што пабачыць кнігі "Я есть!" і "Антологию белорусской лирики XIX—XX веков", але гэтаму не дадзена было збыцца...

У "Антологии..." прадстаўлены творы 137 беларускіх паэтаў з улікам вершаў самога складальніка і перакладчыка. Генадзь Рымскі падбіраў для перакладу тыя творы, якія спадабаліся і якія найбольш эмацыянальна на яго ўздзейнічалі ў пэўны час і ў канкрэтных абставінах. Пераклады абмяркоўваліся з аўтарамі, літаратуразнаўцамі, крытыкамі, спецыялістамі ў галіне лінгвістыкі і перакладу. У гэтым працэсе актыўна ўдзельнічалі супрацоўнікі акадэмічнага Інстытута літаратуры імя Я.Купалы і члены секцыі мастацкага перакладу Саюза беларускіх пісьменнікаў. Улічваліся іх парады і пажаданні.

Першымі аўтарызавалі пераклады сваіх твораў С. Грахоўскі, В. Зуёнак, А. Вярцінскі. Першыя двое падтрымлівалі і шмат у чым дапамагалі самабытнаму і арыгінальнаму, шырокаадукаванаму перакладчыку яшчэ падчас падрыхтоўкі і складання першай яго кнігі, прыхільна сустрэтай і высока ацэненай літаратурнай грамадскасцю Беларусі.

Нельга пераацаніць той факт, што кожны твор Я. Коласа ў перакладзе прачытваў яго сын М. Міцкевіч, таксама доктар тэхнічных навук, які прыязна ставіўся да літаратурнай працы Г. Рымскага і заўсёды запрашаў яго ў паездкі па коласаўскіх мясцінах. Гэта дапамагала Генадзю спасцігнуць дух, пазнаёміцца з аўрай вялікага песняра Беларусі.

У перакладах вершаў класікаў Генадзя кансультавалі буйнейшыя знаўцы іх творчасці акадэмік В. Каваленка, члены-карэспандэнты У. Гніламёдаў, М. Мушынскі, а таксама дактары філалагічных навук С. Лаўшук, В. Жураўлёў.

У параўнанні з "Белорусской лирикой XIX—XX веков" "Антология..." значна пашырана. Уключаны Я. Баршчэўскі, Я. Чачот, А.Міцкевіч, В. Дунін-Марцінкевіч, Я. Лучына, А.Гурыновіч, Цётка (А.Пашкевіч), В. Ластоўскі, А. Гарун. Шэраг рэпрэсаваных паэтаў папоўніўся імёнамі В. Маракова, У. Жылкі, Т. Кляшторнага, А. Александровіча, С. Шушкевіча. Генадзь Рымскі паважліва адносіўся да думкі і меркаванняў сваіх калег! У свой час, пасля выхаду "Белорусской лирики...", мы прапанавалі яму звярнуць больш увагі на трагічны лёс неабгрунтавана асуджаных. І вось, калі ласка, бачым, што Генадзь улічыў гэта пажаданне. Шкада, што з-за недахопу часу і цяжкай хваробы ён не паспеў перакласці вершы яшчэ некалькіх беларускіх паэтаў-эмігрантаў, хаця і меў такі намер.

Прыемна бачыць, што, нягледзячы на надзвычайныя ўмовы, у якіх апынуўся Генадзь у апошнія два гады жыцця, ён змог аддаць належнае таленту В.Іпатавай, Л. Дранько-Майсюка, М. Мятліцкага, В. Гардзея, Н.Гальпяровіча, Н. Мацяш, С. Панізніка, М. Стральцова, А. Пісьмянкова, К.Цвіркі, Я. Каршукова, Г.Пашкова. Іх прозвішчы і творы, як і шмат каго яшчэ, упрыгожваюць "Антологию...".

Трэба парадавацца і за цэлую плеяду яшчэ маладых паэтаў, творы якіх перакладзены Генадзем і ўключаны ў кнігу. Гэта і тыя, з кім ён пазнаёміўся пасля выдання сваёй першай кнігі, і тыя, з кім асабіста ён не быў знаёмы, але вершы якіх яго ўразілі сваёй завершанасцю, глыбінёй, свежай думкай, вобразнасцю, нейкім адкрыццём, адухоўленасцю, новымі дэталямі. Гэта Ф.Баравы, А.Пашкевіч, С. Вераціла, У. Мазго, А. Яскевіч, А.Дэбіш, А. Мазур, С. Явар і іншыя.

Генадзь Рымскі выдатна валодаў мовай, ведаў легенды, фальклор беларускага народа, што дапамагло яму дасягаць і дакладнасці, і мастацкасці пры пераўвасабленні на рускую мову. Чалавек, які шмат зрабіў у некалькіх накірунках інтэлектуальнай дзейнасці, змог, на маю думку, таленавіта справіцца з цяжкасцямі і стварыць дастойную аўтарскую анталогію беларускай лірыкі апошніх двух стагоддзяў. Яму ўдалося захаваць непаўторны почырк аўтараў, энергетыку твораў і іх адметныя асаблівасці.

Творы і пераклады Генадзя Рымскага будуць заўсёды з намі, як прыклад служэння паэзіі, Беларусі, удалага сінтэзу прыроданавучых навук і літаратуры, значнага ўкладу ў культуры народаў Беларусі і Расіі.

**Мікола САВІК**

— Лічы, што так... Яшчэ з ваўкамі
Не захацеў па-воўчы выць,
Хоць быў абкладзены сцяжкамі...
— І што цяпер? Літва за намі?..
— Маёй Літвою хочаш быць?

— Я рада быць тваёй...
— Ты рада?..

11
На ўзгоркі Нальшы коса падаў
Срабрысты дождж, і ў срэбры тым
Стаяў Міндоўг, а поруч з ім —
Ягайла, пяты сын Альгерда...
— Калі не ведаеш, дык ведай, —
Прамовіў ён, —
Я крыжакам
Пацвердзіў Жмудзь пасля Міндоўга,
Бо не яна Айчына нам —
І ў нас няма прад ёю доўга.

А доўг ва ўсіх у нас адзін:
Перад Літвою доўг вялікі
Яшчэ з пары, як Гедзімін
Заваяваў сталіцуількаў.

Праз гэты доўг —
супроць Масквы —
Я з Польшчай ажаніцца мусіў,
Каб адстаяць Літвы правы,
Каб л ё с Вялікае Літвы
Не стаўся л е с а м Беларусі.

Ды ўсё дарма... Вы лес апелі.
Згубілі ўсё, што продкі мелі,
Ператварылі край ваўкоў
У край зайцоў...
Я маю права
Спытацца з глыбіні вякоў:
Вы хто — народ?
Вы што — дзяржава?
Адкуль, калі няма слядоў?

Пазнаўшы зайца па губе,
Вам Жмудзь пад нос паднесла дулю,
Як Беларусь вы на сябе,
Ча край літвінаў нацягнулі.

Вы разлучылі дух з крывёю
І, абрусеўшы пад Масквою,
Пад назвай, дадзенай Масквой,
Не сталі нават маскалямі,
А толькі назваю адной —
І тая назва стала вамі.

Вы — беларусы? Хто такія?
Ёсць Польшча,
Жмудзь,
Літва,
Расія —
Як вы ўшчыміліся сярод?
Адкуль з'явіліся? З балот?
З чаго зляпіліся? З туманаў?..
Такіх падмен,
Такіх падманаў
Не ведаў ні адзін народ.

І што цяпер? Хай так і будзе,
Абы не горш? Вы што за людзі:
Вам звацца хочацца людзьмі,
Ці імі быць,
Ці біцца ў грудзі —
Ці ўстаць за крэўны край грудзьмі?

12
— Згарае свечка ўжо.
— Задзьмі.

— Яблонская, гары ўсё гарам,
Каб не было па чым тужыць!..
Радзіма сталася таварам!
Як на такой Радзіме жыць?

— Не піць, калі Варшава спіць.
Ёй да Літвы якая справа?
— Літву і прадала Варшава!
— Хай так. Не мне яе судзіць.
Жыву я, каб яе любіць.
Сагрэй мяне. Акаляваю.
— Сканаю я праз польскіх краль...
— А што за прозвішча: Ня-кля-еў?
— Расейскае.
— Дык ты маскаль?
Ты не літвін?
— Я ўжо амаль
Спалячыўся з табой...
— Адказвай:
Ты хто — маскаль?!
— Я гэткай назвы
Не ведаю.
— Маскаль! Маскаль!
І я — з табой?
— На жаль...
— На жаль?!
Ты жалішся?!. Ды продкі ў трунах
Перавярнуліся!..
Са мной,
З Яблонскай быць табе?.. З Матрунай!
— На сене ў хлеве быў з адной.
— Ты хам!!!
— Я знаю тое, хто я!
А што ў цябе за патайное
Двайное дно?.. Які палёт!
Якая страсць! Скуль што ўзялося?
— З таго, што ў кроў маю ўжылося,
Што дзікуны — ад нас на ўсход!
— А вы для немцаў не народ!
А немцы — хамы для ангельцаў!..
Ну колькі праз пагарды шкельца
Глядзець адзін на аднаго?!
— І ты яшчэ вучыць! Каго?
Яблонскую?! Ды род мой...

— Знаю!
Праз род свой ты, як сучка, злая.
Шалееш з пыхі і дурнот.
— Ты што сказаў?.. Яблонскіх род...
— Што за размова ў нас дурная!
— Перапрашай за дурасць! Кленч!
Не дакранайся! Не пярэч!
Хто-небудзь,
Дайце хаму рады!..

13
Пайшла зіма другая прэч
Па сцежцы восеньскага сада.

— Я рада быць з табой...
— Ты рада?..

— Даруй... Не знаю, што найшло.
Ты праўду мне сказаў пра шкло:
Мы — вас, а нас — яны... Пагарда
Спрадвек жыве... Яна ў крыві...
Ты болей сучкай не заві
Яблонскую!
— Даруй.
— Дарую.
— Дык, можа, вып'ем міравую?
— О, Божухна!... Маскаль... п'янтос...
Яблонскую за грудзі трос...
— Ды й ты —
Як чорт цябе панёс...

— Я маю права! З каралямі
Мой род на роўных...
— Зноў пра род?
— Мне што: вады набраць у рот?
Мой род пабіты маскалямі
Амаль на скон! Дык я адплаты
Магу жадаць?
— Калі ўсе страты,
Былыя крыўды ўсе лічыць,
Як жыць? Што будзе нас лучыць?
Пара на гэта ўсё забыцца...
— Ні з кім я не хачу лучыцца!
Там Азія! Там вечна зло
Жыло!
— А ў Польшчы што жыло?
Адно дабро? Хадзілі ляхі
На маскалёў?
— Якія страхі!
— Цяпер, канечне, страх які!
А з двух бакоў ва ўсе вякі
Таптала Беларусь, палілі,
Не род —
Народ на скон пабілі,
Дык я ж маўчу!
— Ну і маўчы!
Скачы жанглёрам на мячы!

І што вы там, дальбог, за людзі?
Вайна з вас выбіла мужчын?
Яблонскіх род скакаць не будзе
Ні перад кім, ні перад чым!
За Богам у палякаў — гонар.
І не бывае долі горай
Як жыць без гонару! А вы?..
Вам ад Масквы б — за лес, за горы,
А вы лясамі — да Масквы.

— А лепш было б, каб да Варшавы?
— Ні да каго! З літоўскай славы
Чаму вы гонар не ўзялі?
Бог даў вам месца на зямлі —
Дык стойце там належным чынам!..
За гонарам ідзе Айчына.

— Даволі. Мы не ў польскай школе.
— Народы б'юцца ўсе за волю —
А вас у волю не ўпіхнуць...
У лес збягуць — і ў ім жывуць,
Жывуць, жывуць...
— Мы партызаны...
— Жартуй сабе... Занадта рана
Сабраўся ты ўсіх нас лучыць...
І як! Міцкевіча лічыць
За беларускага паэта!..
Якая бздура ў галаве!

— Яблонская! Сцячэ, сплыве
Усё нязлучанае ў Лету,
Як пыл пасля дажджу з дарог...
— Касцёл з царквой не злучыць Бог!
— Адкуль ты можаш ведаць гэта?

— Пайшлі ў касцёл! Прамовіш крэда?..
Калі злучацца, дык злучыся
Малітваю...
І возьмем шлюб! —

...І зноў пагардліва сышліся
Маршчынкі па краёчках губ.

"Ах, ты..."
— Пайшлі!
— У Ясну Гуру
Паедзем?
— Хоць у Ватыкан,
Калі ўжо бздура прэ на бздуру!..

14
Дарогу засціла́ў туман.
— Дай я паеду.

Ты нервова
Тапіла ўсё глыбей педаль...

— Дык ты спалячыўся амаль?
Праз тры гадзіны адмыслова
Спалячышся... На ўсё жыццё...

Прымерзла мокрае лісцё
Да шкла.

— Дай скіну.
— Здзьме ў дарозе.

Нібы на хуткай дапамозе
Кагосьці везла ратаваць,
Ты гнала.

— Кінь ты гэтак гнаць,
А то й каталіком не стану...

Насустрач рваліся з туману,
Сляпілі колкія агні...
— Яблонская, ну не гані!

— Няўжо баішся, праваслаўны?
Чапляешся за гэты свет?..
Сюжэт мы закруцілі слаўны:
Раман!.. Акторка і паэт!..
Класічны ў нас з табой сюжэт —
І ўжо фатальны, непапраўны.

— Дай руль!
— Не дам.
Дакладна ролі
Распісаны.
Табе — твая.

— Яблонская, пад хвост шляя
Табе папала?..

Прапаролі!
Прабілі кола!..
Слізгата...
— Газ скідвай!

Завішчалі шыны!..
— Не тармазі!

Удар!
Машына
Сустрэчная —
уніз з маста.

Звон у вушах і пустата.

15
І Вітаўт з пустаты і звону
Сказаў:
— Няма ў Хрысце Хрыста,
Калі яго́нага закону
Няма ў табе. Прымі закон.

Сівы, як кургановы сон,
Стаяў з Міндоўгам поруч ён,
Абодва — даўніна сівая...

— Па белым снезе кроў сцякае, —
Казаў далей ён, —
Гэта — шлях.
Яго пачаў я пад Дуброўнай.
Самой сабе там стала роўнай
Літва — і прырасла на Жмудзь.
Шлях не даваў мне Жмудзь вярнуць
Зноў крыжакам. Так перамога
Паразай стала. Жартам Бога.
Так Жмудзь Літвою прырасла.

Туга ў вачах яго плыла...

— Ты плыў, як човен без вясла, —
Працягваў Вітаўт, — і заблытаў
Сябе і ўсіх... Цяпер забіты
Паўстане на шляху тваім...
Ты ведаеш, што будзеш з ім
Рабіць?..
Не ўсе пра тое знаюць...
Шлях можа стаць зусім пустым.
Забітымі не прырастаюць.

Забітых дух —
Атрута ў целе.

Абедзве чашы апусцелі,
Як ты ў іх зазірнуў... Згарні
Штандары, а мячы
Вярні.

— Каму вярнуць?.. Вы здані, міты...
На вас кальчугі ўсе прабіты,
Вы ў ранах з галавы да ног!..

— Вярні мне меч! — закончыў Вітаўт.

— Вярні мне меч! — пачаў Міндоўг. —
До слоў!
За зброю зноў бяруся.
Скажу адно —
Што ў той раз мусіў
Сказаць, але забыўся ў скрусе,
Бо ўжо сівая галава...
Няма ніякай Белай Русі,
А ёсць Вялікая Літва!

І хітрая Літва малая,
Былая Жмудзь, пра тое знае,
Вялікая — не хоча знаць...

З чаго ты польку ў жонкі ўзяць
Надумаў?..
Вітаўт праваслаўным
Пражыў жыццё —
і беспадстаўна
Надзеі меў на польскі трон...
Ты чуеш пустату і звон?..

"Цудоўны цяг імкне вышэй, —
Шапталі мне два сны сівыя, —
Літоўскі Зьніч гарыць ярчэй,
Чым крыж на полацкай Сафіі,
Чым на любым касцёле крыж..."

— Князі Вялікія! Спарыш —
Адзін арэх, ці два? — спытаў я. —
Каталіцызм і праваслаўе —
Не той жа шлях?

"Наш шлях —
Паміж, —
Шапталі сны, —
Не берагамі,
А рэчышчам, ракой самой.
Пакінь усё і крочь за намі..."

16
...І нахіляўся паміж снамі,
І плыў са снамі нада мной
Яблонскай твар... Бялей, чым белы...

— Ты цэлая?
— Ты цэлы?
— Цэлы,
Пайшлі...
Пайшлі...

Рака ў тумане.
Разбіты "Паланэз".

"Канец!.."

Мужчына малады ў сутане.
— О, Божухна!.. Святы айцец...
— Ты ведаеш яго?..

Сталёва
Шарэў твой твар...
— Ён з Чанстахова...
На Яснай Гуры меў служыць...
Мы да яго...
— Не можа быць...

— Паслаў яму Гасподзь збавенне
Ад нас...
Што ж мы ўчынілі?..
Жах!..

Ён жыў яшчэ... Не страх — здзіўленне,
Як шкло, плыло ў яго вачах.

"Так быць не можа, бо не можа
Так быць ніяк, ніяк, ніяк!..
Ну што ж гэта такое, Божа?!.
Ну што за знак?.. Ну што за знак?.."

Паліцыя.
— Вы разам?
— Так.
— Хто за рулём быў?
— Я.
— Няпраўда!
Я за рулём была.
— Ну, што ж...

— Мы ўсё зрабілі як найгорш —
І ўсё ж, і ўсё ж, і ўсё ж, і ўсё ж
Я рада быць з табой...
— Ты рада?..

З нябёс
На лёс,
На аўтастраду —
Са снегам дождж,
Са снегам дождж.

17
Ксёндз Караль Корсак, я без скуры...
Крані. Глядзі: на пальцах кроў.
Звіняць званы на Яснай Гуры:
Радзіны... Хрэсьбіны... Хаўтуры...

Сюды ідуць з усіх краёў,
Каб памаліцца, пілігрымы,
А я тут — хто? А я — чаго?
Мне б міма Яснай Гуры, міма
Канстанцінопаля і Рыма,
Што маюць Бога аднаго,
А служаць так яму, нібыта
Іх два — і нейкі большы з двух!
І колькі вернікаў пабіта,
Каб правіў каталіцкі дух,
Альбо, каб правіў праваслаўны!

А ў тым, які з іх болей слаўны,
Не разабрацца без вайны! —
І б'юцца веры абаронцы,
І гора, гібель той старонцы,
Дзе ў бітве сходзяцца яны!

Хто злічыць бітваў гэтых страты?..

— Вы хто такія? Уніяты?
Палі давай! Тут рускі край!
— Тут польскі край! Палі давай!

І кроў на кроў, і брат на брата...
Як Бог дарує, дык няхай.

Тады, апроч зіхоткіх зорак,
Нічога ў небе.
Вечнасць.Смерць,
З якой злучыўся Караль Корсак
Праз тое, што не зразумець.

18
Зіма ў Варшаве. Трэці снег
Ляжыць, як мокрая газета...
Не думаў я, што мой пабег
Перабяжыць за межы лета.

Раман акторкі і паэта
Яшчэ не скончаны. Але
Працяг яго́нага сюжэта —
Чарнавікамі на стале.





## Выказанае застаецца



**Мастак Роберт Ландарскі заявіў аб сабе на пачатку 60-х гадоў. Нарадзіўся ён на ўскраіне Гомеля. З дзяцінства вельмі любіў прыроду. Скончыў Ленінградскі інстытут жывапісу, скульптуры і дойлідства імя Рэпіна. І амаль адразу пачаў удзельнічаць у выставах. Палотны Ландарскага прыцягнулі ўвагу шматлікіх прыхільнікаў мастацтва. Палітра мастака шматгранная: тэматычныя карціны, пейзажы, нацюрморты.**

**Вось, напрыклад, два творы: "Чэрвень 1941 года", "Вясновыя клопаты хлебаробаў". У першага — суровы сюжэт. З роднай хаты адпраўляецца на фронт абаронца Бацькаўшчыны, каб адстаяць родную зямлю. У другім — радасць абуджэння гэтай зямлі.**

**Роберту Ландарскаму — 65 гадоў. З эцюднікам у руках ён праездзіў бальшакамі і прайшоў сцяжынкамі ўсю Беларусь: Брэстчыну, Віцебшчыну, Магілёўшчыну, Міншчыну, Гродзеншчыну. І ўсё ж самая блізкая для яго — родная Гомельшчына. У шматлікіх экспазіцыях ён прадстаўляў свае палотны пра Тураўшчыну, маляўнічую Прыпяць, сівы Дняпро, ціхую Бесядзь. Гэтыя творы выпраменьваюць святло, напоўненыя мажорам, аптымізмам і меладычнасцю ("На Прыпяці", "Белы Бераг", "Паэзія Сожа", "Асенняя рапсодыя" і іншыя).**

**Пасля катастрофы ў Чарнобылі Ландарскі часта выязджае ў так званую "мёртвую зону" — на Брагіншчыну, Веткаўшчыну, стварае цыкл палотнаў аб вялікай і ўсеагульнай беларускай бядзе, цяжкіх выпрабаваннях нашых людзей. Маштабным яго творам з'яўляецца "Беларусь — мой боль". А карціна "Дэзактывацыя" знаходзіцца ў музеі "Чарнобыль" у Кіеве.**

**Сёння мастак па-ранейшаму напружана працуе. З'явіўся новы цыкл твораў, якія пацвярджаюць, што наша зямля па-ранейшаму прыгожая і дарагая кожнаму беларусу.**

**Палотны Р. Ландарскага экспанаваліся ў Расіі, Германіі, Польшчы, Чэхіі, на Украіне. Вялікі поспех мела яго персанальная выстава ў мінскім Палацы мастацтваў. Ландарскі тройчы выбіраўся старшынёй абласной арганізацыі Саюза мастакоў, за сваю творчую працу ён неаднаразова ўганароўваўся рознымі пачэснымі адзнакамі. З нагоды юбілею мастака адкрылася персанальная экспазіцыя яго работ у карцінныай галерэі абласной арганізацыі Саюза мастакоў.**

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ.**

## Мелодыя жыцця

**Напярэдадні Міжнароднага дня музеяў у гасцёўні У. Галубка адкрылася выстаўка габеленаў Г. Крываблоцкай.**

**Выстаўка "Мелодыі жыцця" — вынік шматгадовай працы мастачкі, у якой адлюстравалася яе любоў да прыроды, філасофскае разуменне сэнсу жыцця.**

**Галіна Пятроўна ўжо даўно працуе ў дэкаратыўна-прыкладным мастацтве. Яна выткала габелены-заслоны ў гасцініцы "Беларусь", Палацы Рэспублікі, Палацы культуры г. Бярдзічава. Гэта серыя габеленаў "Дыялог з прыродай", "Замкі Беларусі", "Рэквіем. Трасцянец", "Актава", "Шлях", "Калыска паэта". Яе творы знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі, Дзяржаўным літаратурным музеі Я. Купалы, у зборах ЗША, Германіі, Швейцарыі.**

**Павіншаваць мастачку прыйшлі прафесар У. Конан, народны мастак У. Стальмашонак, мастацтвазнаўца Г. Багданава, дырэктар Дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны Г. Баркун, прадстаўнікі Міністэрства культуры С. Маслоўскі і С. Вечар, а таксама вучні Рэспубліканскага каледжа мастацтваў, у выкананні якіх на працягу ўсяго вечара гучалі цудоўныя творы.**

**Л. КАМАРОЎСКАЯ, загадчыца гасцёўні У. Галубка**

ВЫСТАВЫ

# Мастак Палесся

Адкрыццё выставы доктара мастацтвазнаўства, жывапісца Віктара Шматава было прымеркавана да дня аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Выстава востра ставіць пытанне развіцця сучаснай нацыянальнай мастацкай школы. Прагледзеўшы творы мастака, прыходзіш да высновы, што ў Шматава няма ніводнай карціны, дзе б ні было кантакту з беларускай народнай творчасцю. Абавязкова ў сюжэт карціны мастак уносіць элементы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва: ці то кераміка, ліштвы вокан, ручнікі ці народнае дойлідства. Ён працягвае традыцыі, што былі закладзены класікамі нацыянальнай школы: на Міншчыне Р. Філіповічам і А. Астаповічам, у Заходняй Беларусі П. Сергіевічам і Я. Драздовічам.

Віктар Шматаў нарадзіўся за 27 кіламетраў ад чарнобыльскай зоны ў вёсцы Камарын Брагінскага раёна, на беразе Дняпра. Сярод бясконцых лугоў, магутных дубраў і бароў прайшло яго дзяцінства. І лепшага на свеце месца, лічыць мастак, чым Палессе, няма. Яго першазданная прырода, кантрастныя фарбы поўдня Беларусі, адметная народная творчасць пазней адбіліся ў мастацтве творцы. Але спачатку вучоба ў Мінскім мастацкім вучылішчы, затым у Беларускім тэатрально-мастацкім інстытуце, а ў 1963 г. — паступленне ў аспірантуру пры АН Беларусі — новы паварот у творчасці мастака. Гэта быў перыяд пэўнага ажыўлення ў развіцці беларускай культуры. Суровы стыль, урачыстае шэсце эстампа, фарміраванне ўласнай школы графікі, манументальнага мастацтва — усё гэта штурхала творцаў на пошукі свайго арыгінальнага, беларускага ў мастацтве. Барацьба з так званым "нацыяналізмам", што пачыналася ў 30-я гады, вялася на Беларусі, нівеліравала і абязлічвала ўсе віды і жанры мастацтва, вынішчала такія сёння нам зразумелыя паняцці, як "беларускі нацыянальны каларыт", "беларускі тыпаж", "беларускі стыль", а ў апошнія гады "беларуская школа мастацтва".

Шматаў лічыць сябе мастаком Палесся. І невыпадкова. Серыі яго работ прысвечаны родным мясцінам. Так было да Чарнобыля, так засталося і пасля яго. Толькі тэматыка яго работ змянілася, назвы таксама: "Палессе пасля Чарнобыля", "Чарнобыльская трагедыя". Карціны напісаны ў рэалістычнай манеры, кожная з іх мае сваю гісторыю. Палатно "Пахаванне ў Чарнобыльскай зоне" нарадзілася адразу ж пасля паездкі ў Магілёўскую вобласць у вёску Калыбень, што ў 18 км ад Чарнобыля. На выставе прадстаўлены карціны гэтай тэматыкі: "Дарога ў зону", "Вечар", "Палескія крыжы", "Матчын вобраз" і інш. Іх не купляюць на памяць гледачы выставы — навошта гэты сум у хаце. Але за мяжой — у Францыі, Германіі, Італіі, ЗША — калі там выстаўляліся творы Шматава разам з іншымі мастакамі Беларусі, на іх быў попыт.

Карціна "Маці" — велічны, абагулены вобраз Радзімы Беларусі — прыцягваў усіх, хто быў на адкрыцці выставы. Напісаць яе мастак задумаў яшчэ ў 1991 годзе, падчас паездкі з экспедыцыяй у зону. Размаўляючы з жыхарамі вёсак, якія не пажадалі выехаць, рабіў замалёўкі. Пасля гутарак з бабулькамі партрэты часам атрымлівалі назвы ад іх прымавак: "Адна не бедна, а бедна так адна". Аднойчы, робячы накіды, мастак запытаўся ў старэнькай бабулькі: "Бабулька, а калі ты памрэш, хто цябе тут

ГАСЦЁЎНЯ

# У кожным зборніку "гучыць" песня

***Падчас VI Нацыянальнага фестывалю беларускай паэзіі і песні ў Маладзечне адбудзецца творчы вечар знанага кампазітара, аднаго з вядучых майстроў песеннага жанру, Уладзіміра БУДНІКА. Напярэдадні гэтай падзеі з ім гутарыць карэспандэнт "ЛіМа".***

**— Аўтарскі канцэрт у межах папулярнага фестывалю: чым асаблівa адметная для вас гэтая падзея?**

— Тым, што гэта мая другая сур'ёзная творчая сустрэча з выдатным калектывам — Дзяржаўным канцэртным аркестрам Беларусі пад кіраўніцтвам народнага артыста Міхала Фінберга.Калі мне споўнілася 40, а гэта было крыху больш як 10 гадоў таму, Міхал Якаўлевіч адгукнуўся на маю прапанову правесці мой аўтарскі канцэрт. Канцэрт адбыўся ў Вялікай зале філармоніі.Удзельнічалі вядучыя беларускія выканаўцы.Удзельнічалі таксама вядомыя паэты, мае сябры, незабыўныя Анатоль Грачанікаў ды Іосіф Скурко. Уся праграма ішла па-беларуску, тэксты ўсіх песень гучалі на беларускай мове. Тады ўпершыню прагучала і песня, якая адразу палюбілася слухачам: "Янка Купала" на верш Уладзіміра Някляева... Я ўдзячны Міхалу Якаўлевічу Фінбергу і аркестру, цудоўным інструменталістам, аранжыроўшчыкам, салістам, што амаль праз 10 гадоў яны яшчэ раз звярнуліся да маёй творчасці.

Мой творчы вечар пройдзе ў Маладзечне 9 чэрвеня. У праграме — і песні, якія гучалі раней, і новыя. Імёны беларускіх паэтаў, на чые вершы яны напісаны, пералічыць зараз цяжка: іх шмат. Можна сказаць так: ад Адама Русака, Петруся Броўкі — да сучасных паэтаў маладзейшага пакалення. Дарэчы, некаторыя з іх будуць удзельнічаць у вечарыне. А выканаўцамі, акрамя салістаў Дзяржаўнага канцэртнага аркестра, будуць Ядвіга Паплаўская ды Аляксандр Ціхановіч. Яшчэ плануецца адмысловы фінал канцэрта: прагучыць песня "Янка Купала", з дня прэм'еры якой мінула ўжо дзесяцігоддзе. Яе выканае Анатоль Ярмоленка.

Я задаволены і тым, што ў якасці прэм'еры прагучыць некалькі фрагментаў з кантаты "Любоў мая — Беларусь", напісанай мною на вершы Аляксандра Алпеева.

**— Новае імя?**

— Аляксандр Алпееў — не з асяроддзя прафесійных літаратараў. Ён — рэктар Міжнароднага гуманітарна-эканамічнага інстытута, доктар палітычных навук, акадэмік. І піша вершы. Аказалася, мы землякі, абодва з Палесся, з радзімы Кірылы Тураўскага, нават вучыліся ў адной школе, толькі ў розны час. Тры гады таму я пазнаёміўся з яго паэтычнай творчасцю. І ў выніку — у нас з ім напісана ўжо больш за 30 песень. Пра наша роднае Палессе, пра Радзіму, песні для моладзі і для вайскоўцаў. У чатырохчасткавай кантаце "Любоў мая — Беларусь" закранаецца і чарнобыльская тэма, балючая для ўсіх нас. Прэм'еру ў маладзечанскім канцэрце рыхтуе Акадэмічны народны хор імя Цітовіча пад кіраўніцтвам Міхася Дрынеўскага.

**— Уладзімір, вы — кампазітар з прафесійнай акадэмічнай адукацыяй, даўно і сур'ёзна захоплены песенным жанрам. Заўважана, што менавіта аўтары з грунтоўнай музычнай адукацыяй ствараюць лепшыя ўзоры песень. А тым не менш, побач множацца, "раскручваюцца", спазнаюць поспех ці нават славу людзі малапісьменныя музычна, без спецыяльнай тэарэтычнай падрыхтоўкі, якія называюць сябе кампазітарамі-песеннікамі. Як вы ставіцеся да такой сітуацыі?**

— Сучасная моладзь хутка асвойвае новыя тэхнічныя сродкі. Арыентуецца на пэўныя камп'ютэрныя "загатоўкі", шаблоны, звыклася з імі. Уключаеш камп'ютэр — там гатовы набор і рытмаў, і аранжыровак, толькі застаецца словы падабраць. І ў выніку песні атрымліваюцца, як тыя кураняты з інкубатара, — аднолькавыя. Гэта з'ява і для Масквы характэрная, і для нас. Майму пакаленню выпала жыць у іншы час, калі такой тэхнікі не было, і нават "лёгкую" песню мог данесці да ладу толькі музычна адукаваны чалавек. У гэтым сэнсе нам пашанцавала: мы грунтоўна вучыліся. Праз бібліятэкі знаёміліся з узорамі творчасці, аналізавалі ноты. Займаліся музычна-тэарэтычнымі дысцыплінамі. У выпускнікоў кансерваторыі сапраўды прафесійны падыход да песні, ён адрозніваецца ад цяперашніх песенных крытэрыяў, дзе найперш вылучаецца рытм. Нас жа вучылі найперш ствараць мелодыю, а пасля рабіць аранжыроўку песні — як кажуць, на любы лад. Таму і адрозніваецца творчасць кампазітараў нашага пакалення, напрыклад, ад цяперашніх спевакоў-аўтараў. Хаця моладзь ёсць вельмі таленавітая, і ёй варта было б знайсці адметны шлях да сучаснай беларускай песні, каб яна адрознівалася і ад маскоўскай, і ад заходняй. Каб не толькі словы беларускія былі ў ёй, але і працяг тых традыцый, у якіх адчуваюцца менавіта нашы карані.



Мяне асабіста прываблівають народныя песні, у якіх я чэрпаю музычны матэрыял для сваёй творчасці. І сучасныя беларускія гурты, фолк-рок ансамблі падабаюцца мне якраз за іх імкненне шукаць сваё аблічча. Шкада, што іх за мяжой паважаюць больш, чым дома. Наогул, таленавітых беларускіх выканаўцаў у нас, на жаль, "не раскручваюць", як умее "раскруціць" сваіх спевакоў Масква. Там такіх "крутых" 20-30, а ў нас і дзесяці не налічыш, хаця яны, магчыма, і лепшыя за многіх маскоўскіх "зорак".

**— У нас і кампазітару даводзіцца самому "раскручваць" свае песні. Вы, я ведаю, часта выступаеце перад слухачамі, удзельнічаеце ў творчых сустрэчах...**

— Выступаць мне падабаецца ў школьных калектывах. Для дзяцей у мяне ёсць многа песень: на вершы Анатоля Грачанікава, Генадзя Бураўкіна, Уладзіміра Скарынкіна, Лявона Пранчака, Алеся Пісьмянкова, Уладзіміра Карызны... На жаль, яны не запісаны на радыё, таму слухачы гэтых песень і не ведаюць. Планую адразу пасля маладзечанскага фестывалю такія запісы зрабіць — з удзелам вядомых дзіцячых калектываў. Не магу яшчэ раз не ўспомніць Міхала Якаўлевіча Фінберга, які робіць добрую, вельмі патрэбную справу, право-





пахавае, ты ж адна тут жывеш?" А яна адказвае: "Я буду ляжаць у сваёй хаце, як Ленін у Маўзалеі...".

Жанчына не ідзе па зямлі, яна нібы ляціць. Аблокі — як белыя крылы над зямлёй. Твар яе засмучаны, на ім трагізм. У гэтым палатне мастак выкарыстоўвае пейзаж з Дняпром, пушчамі, палескім даляглядам. Адзін з варыянтаў карціны, якая выстаўлялася з нагоды 14-й гадавіны аварыі на Чарнобыльскай АЭС у красавіку 2000 года ў штабкватэры НАТА ў Брусэлі, была падорана мастаком Еўрапарламенту.

Філасофія, абагульненне, сімвалізм прасочваюцца ва ўсіх творах Віктара Шматава. У іх адчуваецца набыты вопыт, жыццёвая мудрасць, яго развага пра лёс Айчыны. Пасля прагляду, у дзень смутку, жалобы, хочацца доўга маліцца і плакаць, і гэта будзе як бы ачышчэннем для зямлі нашай.

**Галіна ФАТЫХАВА**

*На здымках: "Маці"; "Жыццё вартаецца" (Кашара).*

*З серыі "Чарнобыльская трагедыя"*

дзячы штогадовы фестываль беларускай дзіцячай эстраднай песні "Спяваем з аркестрам!" Гэта выхоўвае дзяцей, падрыхтоўвае новае пакаленне да сучаснай беларускай песні. Дзякуй маэстра, што ён клапоціцца і пра гэта.

Дык вось, наконт творчых сустрэч. Шмат выступаю перад вайскоўцамі, а таксама на прадпрыемствах. Пашчасціла паездзіць з пісьменнікамі. Дарэчы, сёлета распачата вельмі важная акцыя: "Бядой запаленае слова". Яна праводзіцца Дзяржаўным камітэтам па ліквідацыі наступстваў чарнобыльскай аварыі, Саюзам пісьменнікаў і тыднёвікам "ЛіМ" у дзіцячых рэабілітацыйных цэнтрах. Я ўдзельнічаў у першай такой паездцы і думаю, што гэта важна і для саміх творчых асобаў, і для дзетак, перад якімі мы выступаем, для якіх гучаць нашы вершы і песні.

Калі даводзіцца выступаць у дзіцячых летніках, міжволі заўважаеш, што пакуль няма такой яскравай беларускай сучаснай песні, якую дзятва падхапіла б і заспявала хорам, як, напрыклад, песні Шаінскага. Можа, яна і напісана, але ж не дайшла да слухача. Зноў праблема "раскручвання"... Наогул, ці не ўсе папулярныя песні ранейшых дзесяцігоддзяў "раскручваліся" дзякуючы экрану: гучалі ў кінафільмах ці ў "мульціках" — іх запаміналі, падхоплівалі. Магчыма, нашу сітуацыю ўратавала б нейкае новае казачнае тэлевізійнае шоу, дзе гучала б яркая беларуская дзіцячая песня ў займальным і запамінальным сюжэце.

**— А вы не ўзяліся б за такі праект?**

— Ведаеце, я шукаю матэрыял, які мог бы стацца асновай для дзіцячай оперы ці балета. Раней пісаў музыку да радыёспектакляў, да мультыплікацыйнага кіно. Хацелася б напісаць оперу для дзяцей. У літаратуры пакуль не знайшоў "падказку". Можа, хто-небудзь з нашых пісьменнікаў прапануе арыгінальны сюжэт?

**— Дарэчы, для дзяцей вамі напісаны не толькі песні ці музыка ў т.зв. прыкладных жанрах. Ёсць і камерна-інструментальныя творы. Увогуле, як выхаванец кансерваторыі вы маеце сярод сваіх набыткаў і сімфонію, і струнны квартэт, і шэраг разнастайных аркестравых, камерных п'ес. Зварот да жанраў, якія не лічацца "масавымі", для вас ужо ў мінулым?**

— Я працаваў у розных акадэмічных жанрах, але не лічу гэта справай мінулага. Мая задума на будучае — напісаць сімфаньету. Чаму? Не толькі дзеля даніны традыцыям беларускай кампазітарскай школы (як вядома, у жанры сімфаньеты пісалі некаторыя нашы класікі). А таму, што з часу напісання маёй Першай сімфоніі прайшло ўжо 25 гадоў, і каб падрыхтаваць сябе да стварэння 2-й сімфоніі, хачу напісаць папярэдне нешта сімфаньету. Шмат слухаю сімфанічнай музыкі XX стагоддзя, аналізую: Шастаковіча, Пракоф'ева, Стравінскага, Бартака. Мне па душы Радзіён Шчадрын. З вялікай павагай стаўлюся да Анатоля Васільевіча Багатырова, па класе якога закончыў кансерваторыю, а таксама да творчасці нашых майстроў-сімфаністаў Яўгена Глебава, Генрыха Вагнера, Дзмітрыя Смольскага, Андрэя Мдзівані.

Мой галоўны намер на бліжэйшыя гады — супрацоўнічаць з такімі дзяржаўнымі калектывамі, як Акадэмічны народны хор імя Цітовіча, Акадэмічны народны аркестр імя Жыновіча, Акадэмічны ансамбль песні і танца Узброеных Сіл Беларусі. Хочацца выявіць сябе не толькі ў песенным жанры, а працаваць і з акадэмічнымі выканаўцамі. Хацелася б зрабіць і камерны аўтарскі канцэрт, прадставіўшы тое, што даўно напісана, ды не выконваецца: Санату для фагота, Сюіту для фартэпіяна і г.д. Але для арганізацыі канцэрта трэба шмат часу і намаганняў...

**— А ці шмат часу займае напісанне песень?**

— Пра так званую творчую кухню доўгая размова можа быць. Па-рознаму пішуцца песні. Але мой прынцыповы падыход да гэтай працы — праз літаратурны тэкст. Мне тады лёгка пішацца, калі я бачу ў вершы сюжэт, аповед. Гэта для мяне амаль гатовая песня. Цікава, што ў кожным зборніку можна знайсці "откровение" паэта: адзін-два вершы, у якіх гучыць яго песенная душа. Я дакладна гэта адчуваю. Памятаю, калі я быў студэнтам, разгарнуў зборнік Яўгеніі Янішчыц, і з першых радкоў, якія ўбачыў, — "Пазаві мяне, пазаві", — адразу атрымалася песня. І чый бы зборнік я ні адкрыў, заўсёды знаходжу тую песенную душу. У кожнага паэта ёсць песня!

Але я лічу песню напісанай толькі тады, калі яна выконваецца, гучыць па радыё, тэлебачанні, а не ляжыць на паліцы. Уладзімір Уладзіміравіч Алоўнікаў, наш настаўнік тэарэтычных дысцыплін, успамінаў калісьці такі выпадак. Ідуць яны з Адамам Русакам па Мінску і раптам з расчыненых вокнаў чуюць: "Ой, бярозы ды сосны..." Людзі за бяседным сталом спяваюць іх "Лясную песню". Дык вось, самая вялікая заслуга кампазітара — калі яго песню падхапілі, спяваюць у народзе!

**— Мне здаецца, мала хто з кампазітараў гэтак, як вы, сур'ёзна і мэтанакіравана вывучае беларускую паэзію, наведваецца ў кнігарні, цікавіцца ў бібліятэках свежымі літаратурнымі часопісамі...**

— У гэтым не толькі мая заслуга. Мая жонка Святлана — настаўніца беларускай мовы і літаратуры ў старэйшых класах гімназіі, вельмі дасведчаны чалавек, дапамагае мне выбіраць тэксты для песень. Дзякуючы ёй больш ведаю і гісторыю нашай літаратуры, і творчасць сучасных пісьменнікаў. І таму, думаю, мне лёгка будзе ўдзельнічаць у размовах пра паэзію на фестывалі ў Маладзечне.

**— Поспехаў вашай творчай вечарыне! І — дзякуй за размову.**

**С.БЕРАСЦЕНЬ**

ПАМЯЦЬ

# Званне? Артыст...

Мемарыяльныя вечарыны зазвычай спараджаюць складанае пачуццё. Ажываюць успаміны; меланхалічным робіцца настрой; выклікае захапленне **дзейная неабыкавасць** людзей — арганізатараў, удзельнікаў. І ўзнікае амаль боязь за тое, што ў агульным імкненні ўшанаваць памяць калегі, артыста, раптам адбудзецца эмацыйны перахлёст і выскачыць фальшывая нота... Але гэтым разам усё, як мне падалося, прайшло шчыра, годна, без фальшу ў пачуццях і словах.

"На белы баль бяроз я не збяру..." называлася вечарына-канцэрт памяці Валерыя Саберава, што прайшла ў Зале камернай музыкі на Залатой Горцы. У вестыбюлі гледачоў сустракала сціплая афіша з імем артыста — але з нязвыклым прагалам на месцы пазначэння даты і часу выступлення. Воддаль — стэнд са здымкамі, з маладым і яркім тварам акцёра ў тэатральных ролях, з яго партрэтамі розных гадоў. А ў зале — адно з апошніх фота чалавека, "праэкзаменаванага" цяжкай хваробай, ссівелага, са снежна-белай барадой, ды ўсё такога ж натхнёнага, непагаслага. Побач з партрэтам — дзве запаленыя свечкі...

Валерый Сабераў амаль чвэрць стагоддзя быў артыстам Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Стварыў каля 30 аўтарскіх чытальніцкіх праграм, у тым ліку — "Пастка" паводле В. Быкава, "Дамы і спадары і шаноўныя грамадзяне" паводле А. Чэхава ды М. Зошчанкі, "Санеты Шэкспіра", "Беранжэ і французскія барды", "Салдацкі лёс" паводле В. Быкава, У. Багамолава, А. Твардоўскага, У. Някляева ды Б. Акуджавы, праграмы паводле творчасці А. Галіча, С. Даўлатава, кампазіцыі для дзяцей ды многае іншае. Быў час, калі праграмы з "нядобранадзейнымі" тэкстамі (ды чытальніцкімі каментарыямі) пасля іх паказу на мастацкім савеце забараняліся для публічнага выканання...

Тонкі знаўца літаратуры, інтэлектуал з выдатнай памяццю і шырокай эрудыцыяй, ён быў майстрам таго жанру, які падуладны далёка не кожнаму таленавітаму артысту. "Вельмі крыўдна, што Валерый Сабераў быў вядомы толькі нешматлікім аматарам паэзіі. Гэта быў выдатны чытальнік. Я адразу ж зрабілася яго прыхільніцай і паклонніцай. Ён выйшаў на сцэну, пачаў чытаць — і ўсё. Ён узяў у палон мяне. Ён узяў у палон усю залу..." — прызналася народная артыстка Беларусі Н. Гайда. Калісьці, праслухаўшы касету з праграмай "Прагулкі фраероў", Б. Акуджава напісаў В. Саберaву ліст: "...Я праслухаў касету і быў шчаслівы. Па-першае, для мяне вялікі гонар — Ваша ўвага да маёй працы, па-другое, я не ўяўляў, што многія вершы, якія даўно зрабіліся песнямі, гучаць і як вершы і няблага..."

Дарэчы, касеты з праграмамі В. Саберава маюцца у сваіх фанатэках яго мінскія прыхільнікі. А яшчэ тэмбр ягонага голасу і непаўторна вобразную манеру чытання высока цэняць людзі з асабліва абвостраным слыхам — інваліды па зроку. Для іх артыст стварaў т. зв. гукавыя кнігі, якія набылі папулярнасць не з-за зместу, а з-за мастацкага агучвання.

Знаўцы параўноўваюць яго чытанне з узроўнем Жураўлёва, Яхантава, Юрскага. Але афіцыйнага прызнання мастацтва В. Саберава не атрымала, ганаровых званняў ён не меў, і ў энцыклапедыях пра яго не знойдзеш ні радка. Бадай, толькі ў філарманічных "летапісах" зафіксавана, што правёў Валерый Фёдаравіч больш як сем тысяч канцэртаў, выступаў са спевакамі, інструменталістамі. Пераважна — у глыбінцы, на перыферыі. У сталіцы яго мала ведалі. Нават Беларускае радыё "адкрыла" гэтага артыста толькі пры канцы яго жыцця, паспеўшы запісаць шэсць праграм.



Пра яго прафесіяналізм і творчы дар, пра яго чалавечыя вартасці — добразычлівасць, сумленнасць, тактоўнасць і сціпласць, — гаварылі ў той вечар калегі, артысты, вядучая — музыказнаўца В. Брылон. Шчымлівым сімвалам спрадвек трагічнага лёсу чалавека-творцы прагучаў з магнітнай стужкі голас артыста. Сцвярджэннем вечнасці Мастацтва гучала музыка. Музыка і слова.

Праграма злучыла арганнае гранне, заходнееўрапейскія арыі, рамансы, класічную аперэту, песню народную і эстрадную. Удзельнічалі ў канцэртце салісты Беларускай дзяржаўнай філармоніі М. Лапаціна, Н. Цішко, Ф. Севасцьянаў, В. Чарвоны, К. Шараў, актрыса купалаўскай сцэны М. Захарэвіч, салісты Дзяржаўнага музычнага тэатра Н. Гайда, А. Арцем'еў і Маскоўскага камернага музычнага тэатра "Амадэй" І. Камароўская, салісты эстрады Н. Багуслаўская ды І. Капланаў (яны, дарэчы, упершыню і вельмі ўдала, па-майстэрску выступілі ў камерным амплуа, без гукаўзмацняльнай тэхнікі). Поруч з вакалістамі былі канцэртмайстры Т. Вішнякова, М. Лапацін, Л. Арцем'ева, Л. Яканюк.

Мемарыяльная вечарына — не лепшая нагода, каб абмяркоўваць выкананне. І ўсё ж... Гэта быў той рэдкі выпадак, калі на сталічнай сцэне выступіла адразу некалькі салістаў філармоніі. Тых сціплых самаадданых працаўнікоў, якіх амаль не ведае мінская публіка. Цудоўныя галасы, велізарны прафесійны досвед, зайздросная трывушчасць (хтосьці з салістаў, перш чым выступіць на вечарыне, выканаў дзённую "філармонічную норму", даўшы чатыры выязныя канцэрты), адчуванне залы!

Міжволі зноў задумаешся пра лёс таленавітых, адданых мастацтву людзей, на долю якіх не заўсёды выпадае шырокая вядомасць, рэгаліі, афіцыйная падтрымка... Хаця, урэшце ў памяці застаецца толькі адно званне: Артыст. Калі чалавек гэтага насамрэч варты.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*На здымку: Валерый САБЕРАЎ у радыёстудыі.*

*Фота В. БРЫЛОН.*

# На бярозаўскай зямлі




Шмат на бярозаўскай зямлі талентаў. Ва ўсіх сельсаветах, у гарадах Бярозе і Белаазёрску плённа дзейнічаюць калектывы мастацкай самадзейнасці, 17 з іх — народныя.

Вельмі папулярны ў жыхароў раёна хор ветэранаў вайны і працы "Памяць сэрца". Вось ужо больш за 15 гадоў кіруе ім дырэктар метадычнага аб'яднання мясцовага аддзела культуры Кацярына Шашко. Няма населенага пункта ў раёне, дзе б не выступаў з канцэртамі гэты самабытны калектыў.

А колькі майстэрства ў выступленнях фальклорных і абрадавых ансамбляў з вёсак Спорава і Здзітава, Пясок і Межлесся, Сокалава і Равяцічы, Рэчыца і Малеч! Ніводнае раённае мерапрыемства не абыходзіцца без самадзейных артыстаў. Жыхароў райцэнтра яны парадавалі і на нядаўна праведзеным абласным "Кірмашы-2001".

**Іван АСКІРКА**

*На здымку: выступае ансамбль народнай песні "Прыазер'е" Палаца культуры Бярозаўскай ГРЭС.*

*Фота аўтара*



# ЧАСАПІС

## І чыстыя песні журбы...

**Вечарына ў Чашніцкай гарадской бібліятэцы сабрала нядаўна прыхільнікаў творчасці вядомага беларускага паэта Янкі Журбы, якому сёлета споўнілася б 120 гадоў з дня нараджэння. Сюды прыйшлі не толькі супрацоўнікі бібліятэк ці работнікі іншых культурных устаноў горада і раёна, але й мясцовыя літаратары, як пачынаючыя, так і прафесіяналы, як моладзь, так і сталага веку людзі. Любоў і пашанота да роднага слова з'яднала лепшых прадстаўнікоў інтэлектуальнай эліты маленькага правінцыйнага гарадка.**

**Прыемна, што вечарыну памяці славутага пісьменніка-земляка не пакінулі па-за ўвагаю раённыя ўлады. Можна сказаць, гэта добрая і вельмі аптымістычная прыкмета, калі ўлады не толькі не забываюць пра культурныя мерапрыемствы, але і бяруць у іх зацікаўлены ўдзел, тым самым надаючы гэтым мерапрыемствам, так бы мовіць, дзяржаўны статус. Старшыня Чашніцкага райвыканкама Анфім Міхалевіч адзінае, аб чым пашкадаваў у сваёй невялікай прамове, — дык гэта аб тым, што маленькая зала бібліятэкі не змагла змясціць вялікай аўдыторыі...**

**А пабачыць ды паслухаць было што. Ва ўсялякім разе, дзевяцікласнікі адной з чашніцкіх школ, якім пашанцавала тут прысутнічаць, лавілі кожнае слова вядучых вечарыны. Старонкі біяграфіі Янкі Журбы, якую падлеткі, напэўна ж, ведаюць са школьных падручнікаў, раптам заігралі, ажылі, агучаныя вершамі паэта ў добрым літаратурным выкананні і цудоўным музычным суправаджэнні. Спаміж вершамі гучалі беларускія народныя песні.**

**Янка Журба, напэўна, быў бы задаволены. Ды што там! Нарадзіўшыся ў Чашніках, у звычайным драўляным доміку, на скрыжаванні дзвюх рэчак: большай — Ульянкі і маленькага яе прытока — Акопа, паэт душою ўвабраў, а сэрцам палюбіў чароўныя чашніцкія краявіды. І дзе б ні ездзіў, дзе б ні жыў пасля (а жыў, вучыўся і настаўнічаў і ў Полацку, і ў Мінску, і ў Бабруйску, і ў Чэрыкаве, і ў Клімавічах, і на Украіне, і ў Расіі), заўсёды ў сэрцы Чашнікі насіў... І апяваў сваю маленькую Радзіму, як мог, як умеў — таленавіта, годна.**

**Светлыя песні Янкавай журбы... І калі на схіле веку свайго зноў вярнуўся ў Чашнікі, і калі ўжо хворы працаваў тут настаўнікам спеваў, зноў пісаў, зноў прызнаваўся ў каханні краю свайму. І той не забыў паэта. Сёння ў Чашніках ёсць вуліца Янкі Журбы. Сёння ў Чашніках помняць "свайго паэта" і памяць перадаюць дзецям. Усё пабоску, усё як мае быць. Слушна сказаў старшыня райвыканкама: мы павінны захоўваць памяць пра сваіх славутых землякоў, якія праславілі наш край. Нядаўна высветлілася, што з Чашніччыны паходзяць карані лаўрэата Нобелеўскай прэміі фізіка Жорэса Алфёрава. Яшчэ на свежай памяці прыезд на Чашніччыну, у вёску Красналукі — на радзіму, — Вольгі Дзёмкінай, мастачкі, якая зараз жыве ў Францыі. Нам ёсць чым і кім ганарыцца.**

**Можна сказаць болей: і ёсць на каго раўняцца. Дык мо неўзабаве і з тых, хто сёння толькі далучаецца да скрыжаляў гістарычнай памяці, заўтра вырастуць новыя вучоныя, паэты, мастакі? Будзьма спадзявацца...**

**Уладзімір МІХНО**
**г. Чашнікі**

## "Всемирная литература", № 5

**"Мы будзем разам!" — публіцыстычныя развагі М. Губенкі. Змешчаны вершы А. Вярцінскага, С. Куняева, В. Самедава, апавяданне П. Голкі "Каханне як злачынства". Ёсць магчымасць пазнаёміцца з заканчэннем рамана Я. Ніедры "І вятры гуляюць на папялішчы", пачаткам раманам М. Чаргінца "Тайна Авальнага кабінета". У раздзеле "Літаратурная крытыка" публікуецца артыкул А. Андрэева "Самы рускі раман: "Ціхі Дон". Ёсць чарговыя старонкі "Замка душы" св. Тарэзы з Авіла. Знаёмячы з новымі выданнямі, "Всемирная литература" перадрукавала нататку М. Генькі пра кнігу Т. Бондар "Бог зусім побач", з якой чытачы маглі пазнаёміцца ў свой час у "ЛіМе" (пераклад І. Чароты).**

## "ЛіМ"-ФОТА



*Светлы чалавек Сцяпан Захаравіч*

*На здымку: А. Сідарэвіч, У. Ягоўдзік, М. Гіль, С. Гаўрусёў, А. Пісьмянкоў.*

*Фота Ул. КРУКА*

ВІНШУЕМ!

# Служэнне духоўнасці

Васілю ЖУРАЎЛЁВУ — 70

Чалавечае жыццё складаецца з сустрэч. З самых розных. Але сустрэчы з такім чалавекам, як Васіль Пракопавіч, пакідаюць у памяці кожнага, каму пашчасціла ведаць яго асабіста, незабыўнае ўражанне. Кранае перш за ўсё гарманічнае спалучэнне ў гэтай асобе чуласці, чалавечнасці, юначай уражлівасці з аналітызмам і навуковай дакладнасцю тлумачэння жыццёвых працэсаў. Відаць, таму ў большасці яго манаграфій прыярытэт аддадзены вывучэнню духоўнага пачатку ў мастацкіх творах.

Васіль Жураўлёў нарадзіўся ў 1931 годзе ў вёсцы Раздзел-2 Мсціслаўскага раёна ў сялянскай сям'і. Нялёгкім было дзяцінства. Рана памёр бацька. Маці адна выхоўвала дваіх дзяцей.

Пасля заканчэння ў 1950 годзе сярэдняй школы В. Жураўлёў паступіў на літаратурны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута, працягам вучобы ў якім стала паступленне ў аспірантуру — быў адразу ж абраны нялёгкі шлях навукоўца.

У 1957 годзе Васіль Пракопавіч назаўсёды звязаў лёс з Інстытутам літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук, дзе ў 1958 годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю на тэму "Трылогія Якуба Коласа "На ростанях".

Першыя навуковыя публікацыі маладога даследчыка пабачылі свет у 1957 годзе. Гэта былі артыкулы па пытаннях сучаснай беларускай літаратуры, яе гісторыі і тэорыі, а таксама рэцэнзіі на новыя кнігі. В. Жураўлёва цікавіў самы шырокі спектр пытанняў літаратуразнаўства — ад праблем дзіцячай літаратуры да сюжэтна-кампазіцыйнай будовы твора. І перш за ўсё — сувязь мастацка-вобразнай сістэмы асобнага з сацыяльнай і гістарычнай рэальнасцю, з агульным літаратурным працэсам.

Плённа працуючы на даследчыцкай ніве, Васіль Пракопавіч выдаў шэраг манаграфій, якія сталі своеасаблівым падмуркам у вывучэнні айчыннай літаратурнай класікі, паспрыялі фармаванню ў беларускай літаратурнай навуцы перспектыўнай тэндэнцыі да асэнсавання паэтыкі і мастацка-вобразнай палітры твораў. Пра сказанае сведчаць нават загалоўкі: "Сюжэт і рэчаіснасць" (1967), "Ад факта да сюжэта" (1974), "Структура твора" (1978), "Якуб Колас і паэтыка беларускага рамана" (1991), "На шляху духоўнага самасцвярджэння" (1995), "У пошуку духоўных ідэалаў" (2000).

Адным з вынікаў нястомнай працы даследчыка можа з поўным правам лічыцца і абарона доктарскай дысертацыі "Структура твора. Рух сюжэтна-кампазіцыйных форм". У гэтай працы ўпершыню ў беларускім літаратуразнаўстве аўтар імкнуўся да вырашэння складаных пытанняў сюжэтна-кампазіцыйнай будовы твора, да вызначэння мастацка-эстэтычных законаў, што ляжаць у аснове яго структуры. Матэрыялам для даследавання паслужылі творы Якуба Коласа, З. Бядулі, М. Чарота, Ц. Гартнага, М. Зарэцкага, В. Быкава, Ч. Айтматава і інш. Шырока была асветлена таксама гісторыя і метадалогія праблемы.

Пытанні паэтыкі і эстэтыкі, мастацкага свету і мастацкай формы ніколі не пакідалі яго абыякавым, нягледзячы нават на не зусім прыхільнае стаўленне да так званага "фармалізму" ў часы ўсеагульнага захаплення сацыяльнай асновай мастацкага твора. Гэтыя эстэтычна-філасофскія паняцці заўсёды трактаваліся ў працах В. Жураўлёва, ды і іншых яго калег, як "вельмі важная і функцыянальна-дзейсная пазнавальна-адлюстравальная сіла". Наватарскія падыходы па-новаму раскрылі мастацкі свет незаслужана забытых твораў, а таксама дазволілі пераасэнсаваць тыя, якія вывучаліся толькі ў сацыяльна-ідэалагічным ключы.

Абіраючы матэрыялам сваіх даследаванняў багаты і разнастайны матэрыял айчыннай літаратуры, яе гісторыі і тэорыі, трымаючы ў цэнтры ўвагі перш за ўсё класічную спадчыну, даследчык заўсёды акцэнтаваў увагу на тым моманце, што "сацыяльныя і праблемна-тэматычныя акцэнты пры ўсёй іх важнасці і актуальнасці трансфармуюцца ў жыццядайную мастацкую сілу слова толькі тады, калі ўсё гэта арганічна і гарманічна спалучаецца з высокапрафесійным пісьменніцкім майстэрствам". Варта прызнаць, што самай вялікай зацікаўленасцю В. Жураўлёва заўсёды была і ёсць творчасць класіка нашай літаратуры, пачынальніка нацыянальнай эпічнай традыцыі — Якуба Коласа.

У кнізе "Якуб Колас і паэтыка беларускага рамана" аўтар аргументавана даводзіць, што ўсё створанае Коласам для развіцця эпічнай тэндэнцыі ў беларускай літаратуры з поўным правам можа быць названа жывой і дзейснай мастацкай традыцыяй, якая спрыяе паглыбленню ідэйна-эстэтычнага зместу і структурнай сутнасці беларускага рамана на сучасным этапе. Традыцыя, заснаваная Коласам, паказваецца ў манаграфіі і як адзін з важнейшых крытэрыяў ацэнкі мастацкіх якасцяў літаратурнага твора. Аўтар абгрунтоўвае неабходнасць арыентацыі на гэты крытэрый тым, хто, пачынаючы пісаць эпічныя творы, нярэдка недаацэньвае ролю і значэнне літаратурнай тэхнікі і складанасці ўнутраных законаў эпічнага жанру.

Вядома, што адзінства формы і зместу ў творы — неабходнасць. Але часта на практыцы гэтага адзінства не назіраем. У творах або дамінуюць празмерна завостраныя формы ідэалагізацыі і сацыялагізацыі, або — гульня самаізаляваных мастацкіх прыёмаў. Асабліва ў сучасных плынях авангардызму, мадэрнізму і постмадэрнізму, што акрэсліліся ў нашай літаратуры. Менавіта таму і раней, і цяпер вывучэнне важнейшых законаў паэтыкі і эстэтыкі на матэрыяле лепшых набыткаў нацыянальнай і сусветнай класікі было і застаецца важнейшай задачай літаратуразнаўства. У вырашэнне якраз акрэсленай праблематыкі важкі ўклад унеслі вучоныя аддзела гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі на чале з загадчыкам аддзела В. Жураўлёвым.

Пытанні эстэтыкі і паэтыкі засталіся ў цэнтры ўвагі даследчыка і ў манаграфіях "На шляху духоўнага самасцвярджэння" і "У пошуках духоўных ідэалаў", што выйшлі ў апошні час.

У першай — на матэрыяле беларускай і рускай паэзіі і прозы 20—30-х гадоў XX стагоддзя (творы Я. Коласа, Я. Купалы, К. Чорнага, А. Твардоўскага, Я. Замяціна, А. Платонава і інш.) раскрываюцца глыбінныя сувязі і



ўзаемадзеянні паміж духоўна-маральнай арыентацыяй пісьменніка і мастацкай праўдай яго твораў. У другой манаграфіі, аналізуючы філасофска-публіцыстычныя і мастацкія творы Ф. Скарыны, А. Філіповіча, У. Сыракомлі, Я. Чачота, В. Каратынскага, Я. Баршчэўскага, Ф. Багушэвіча, М. Багдановіча, З. Бядулі, М. Гарэцкага, Я. Купалы, Я. Коласа, В. Жураўлёў імкнецца адшукаць новыя аргументы і выкарыстаць новыя метадалагічныя падыходы ў працэсе доказу таго факта, што эстэтычную думку на пошук настройвае менавіта духоўны ідэал, калі гэтая думка не адыходзіць ад галоўных, выпрацаваных стагоддзямі прынцыпаў гуманізму і асноўных палажэнняў хрысціянскага светаразумення.

Ведаючы Васіля Пракопавіча Жураўлёва сёння ў навуковых колах і як актыўнага грамадскага дзеяча. Ён — член грамадскага Савета па праблемах культуры і мастацтва. Вялікую ўвагу надае падрыхтоўцы навуковых кадраў, з'яўляецца намеснікам старшыні спецыялізаванага Савета па абароне доктарскіх дысертацый пры Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы НАН, членам Савета па абароне дысертацый пры Беларускім дзяржаўным універсітэце. В. Жураўлёў часта выступае экспертам і афіцыйным апанентам кандыдацкіх і доктарскіх дысертацый, кіруе навуковай працай аспірантаў і дактарантаў.

Свой юбілей Васіль Пракопавіч сустракае ў росквіце творчага таленту, поўны цікавых ідэй і планаў. Ён працягвае працу ў галіне даследавання эстэтыкі і паэтыкі ў мастацкіх творах, выступае з дакладамі на навуковых кангрэсах і канферэнцыях, шмат увагі надае кіраванню аддзелам. Вучні і калегі юбіляра шчыра віншуюць яго з юбілейнай вясной. Жадаюць моцнага здароўя, плёну ў працы, творчага палёту думкі яшчэ на доўгія гады, здзяйснення ўсіх задум і планаў.

**Алена МАНКЕВІЧ**

# Калі імя табе "каласковец"

Днямі ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа пабывалі вучні-пачаткоўцы сталічнай СШ № 68. Яны былі ўдзельнікамі дзіцячай імпрэзы "Прыём у "каласкоўцы". Другакласнікаў віталі малодшы сын Якуба Коласа Міхась Міцкевіч, паэт Уладзімір Мазго, навуковыя супрацоўнікі музея Святлана Субат і Іван Курбека.

У гэты дзень у музеі гучалі дзіцячыя вершы, загадкі, смешынкі, праўдзівыя і прыдуманыя гісторыі. Смех і непадробнае захапленне выклікаў у маленькіх слухачоў расповед Міхася Міцкевіча пра тое, як ён стаў прататыпам Коласавай паэмы "Міхасёвы прыгоды", як праходзілі яго першыя летнія выкачкі на бацькавым лецішчы пад Пухавічамі.

"Рэжысёрам-пастаноўшчыкам" свята была завуч па выхаваўчай рабоце СШ № 68 Алена Багамолава. Менавіта яна прыдумала такую незвычайную форму пазашкольнай работы для вучняў-пачаткоўцаў, ясе мэта — на ўзорах маральнасці нашага народа выхоўваць падрастаючае пакаленне. Лёс і жыццёвы шлях народнага паэта Беларусі — яркі таму прыклад. Настаўнікі і вучні гэтай школы сумесна распрацоўваюць Статут сваёй арганізацыі, зацвярджаюць "Правілы паводзін "каласкоўца" і нават маюць свой фірмовы нагрудны значок.



**Г. ЗАЙЦАВА**

*Фота Сяргея ЛУК'ЯНАВА*

## “Паэзія, твой крок чуваць...”


Мёрыца
№2
2001
КАНФЕРЭНЦЫЯ СЯБРОЎ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ
ЁСЦЬ АПТЫМІЗМ

**Сённяшняя мёрская раённая газета “Сцяг працы” (Віцебская вобласць) — пераемніца той “Зары камунізма”, дзе 42 гады таму быў надрукаваны мой першы верш. Помняцца паседжанні літаб'яднання “Ручаёк”, бласлаўленне Сяргея Грахоўскага, якога папрасілі праканcультаваць маю ўжо “салдацкую” нізку вершаў... Літаратурны Парнас Мёршчыны з гадамі стаў яшчэ больш населены юнымі талентамі. Гэтай вясною, да прыкладу, раёнка падвяла вынікі літаратурнага конкурсу “Паэт і XX стагоддзе”. З 37 пачаткоўцаў выйшлі ў фінал 26. Суддзі конкурсу, а ў журы былі запрошаны і кандыдаты філалагічных навук Віцебскага універсітэта Юрась Бабіч, Генадзь Арціменак, і кіраўнік абласной арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны Іосіф Навумчык, праслухалі творы Вольгі Дзівалёнак, Ганны Гваздоўскай, Жэні Снапок, спевы пад гітару Андрэя Даргеля... Юля Бахір, Надзя Дрыла, Дзіяна Чабан сталі пераможцамі ў малодшай групе. Не забыліся адзначыць і маладых празаікаў — Веру Шчарбіцкую, Аляксандра Фурсава. Сярод канкурсантаў 9—11 класаў вызначыліся Таццяна Пятрова, Марына Чучман, Ніна Супрун і Вольга Чапулёнак. Старшыні Віцебскага аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў Францу Сіўко (сам ён родам з Мёршчыны) ёсць над кім апекавацца. Ды, відаць, кожнаму з нас, літаратараў з глыбінкі, прагучалі на мёрскім конкурсе такія словы:**

**Пакуль паэты будуць пець —**
**Не быць Радзіме безыменнай,**
**Зямлі бацькоў не анямець!**

**Сяргей ПАНІЗНІК,**
**ураджэнец Мёрскага раёна**

*На здымку : бюлетэнь “Мёрыца”, у якім друкуюць свае творы мае землякі.*

## “Полымя”, № 2

**Элегія В. Зуёнка “Электрашокер” адкрывае нумар. Змешчаны вершы К. Камейшы, В. Шніпа, С. Сяргея, А. Нікуліна, апавяданне В. Адамчыка “Бронекамізэлька № 36”, апавесць В. Блакіта “Вяртанне на Саарэмаа”. Цыкл вершаў Л. Украінкі “Мелодыі” прапануецца ў перакладзе В. Стралко. В. Гігевіч знаёміць са згадкамі Д. Шульмана “У пошуках Радзімы і шчасця”. М. Бандарэнка расказвае пра жыццё беларускага грамадскага і культурнага дзеяча А. Бурбіса (“Мы вольныя і роўныя...”) “Знак засцярогі” — публіцыстычны роздум Я. Лецкі. У запісе Р. Барадуліна “Полымя” пачало публікаваць “Песні матчыны з Вушаччыны”. С. Андраюк (“Талент глыбока беларускі”) па-новаму асэнсоўвае творчую спадчыну І. Мележа. Творчы партрэт В. Карамазава “Надзённае ў вечным” напісаў А. Яскевіч, В. Ляшук (“Тут і цяпер...”) дзеліцца ўражаннямі ад зборніка “Дзядзінец. Паэзія Берасцейшчыны”. “Слоўнік рэгіянальнай лексікі Гродзеншчыны” аналізуе П. Міхайлаў (“Залацінкі роднай мовы”). “Беларусь — гэта цэлы сусвет” — згадкі А. Бадака, што з'явіліся пры знаёмстве з кнігай вершаў Э. Акуліна “Радно”. Пад рубрыкай “З рэдакцыйнай пошты” — нататка Л. Кароткай “Яны не хацелі...”**

# Было і такое...

***Працоўны дзень у архіве заканчваўся. Я закрыў папку: неабходныя запісы былі зроблены. Вярнуўся ў думках да прачытанага. Цікавая справа — правасуддзе. Здаецца злачынца вось-вось апынецца за кратамі, і на табе: яго адпускаюць. Што гэта — слабая прафесійная падрыхтоўка следчых, ці нешта іншае?***

***У вакно свяціў летні надвячорак, людзі спяшаліся, чалавецтва імкнулася спасцігнуць Сусвет, а мне было шкада ашуканых і бязвінна забітых беларускіх сялян. Як даніну павагі гэтым постацям мінулага я пакінуў аб іх два аповеды, хоць зразумела, небарак было куды болей. Не знайсці ўсіх імён. Хай хіба душы іх знойдуць спакой і наша вечнае памінанне.***

## ГРАФІН

Вёска Французская Грэбля — глыбінка Пухавіцкага раёна. Калі рухацца на паўднёвы ўсход ад яе, то спачатку сустрэнецца выміраючая вёска Снусцік, потым — Сёмкава Слабодка. Яшчэ крыху далей вёска, а за ёй і чыгуначная станцыя Уборак і, ўрэшце, старажытнейшае Пагарэлае. У сярэдзіне XIX стагоддзя ўсе гэтыя вёскі (ад першай да апошняй дзесяць вёрст) знаходзіліся ў Ігуменскім павеце.

Край лясны, на зямлі не багаты. У Пагарэлым здаўна вёўся лясны промысел, на якім працавалі прыгонныя памешчыка Завішы. Што да пагарэльскай шляхты, то ў большасці яна была бедная і вымушана шукаць крыніцы выжывання, перабіваючыся з хлеба на квас. Асабліва гаротным стаў яе стан пасля царскага ўказа 1835 года, які прымусіў шляхту пацвердзіць пісьмова сваё старажытнае паходжанне. Удалося гэта не ўсім. Многія толькі падрабляліся пад шляхцюкоў, а на справе з'яўляліся звычайнымі сялянамі, якім толькі і пашчасціла, што не апынуліся ў прыгоне. Пасля царскага “раскулачвання” яны склалі даволі вялікі атрад так званых аднадворцаў — дваран, якія валодалі толькі адным уласным дваром. У Пагарэлым да іх адносіўся і Фадзей Шышкавец. “Дваранін” ён быў ніякі, бедны і гаротны, не ўмеў нават распісацца, і таму, каб неяк аблегчыць існаванне сям'і, аддаў свайго сынка Янку ў парабкі ў далёкую Французскую Грэблю да дома Фадзея Матусевіча. Апошні быў даволі магутным мясцовым землеўладальнікам, сапраўдны шляхцюк.

Янка як мог патрапляў гаспадарам, завіхаўся па хатняй гаспадарцы, дапамагаў на кухні, у хлявах і пуні, але ласкавага слова ніколі не чуў. Беднасць і вялікая адказнасць (бацьку за яго было абяцана па рублю срэбрам у месяц) не дазвалялі адкрыць рот у абарону сваёй годнасці.

У той злашчасны дзень нічога не прадказвала бяды. Набліжаліся каталіцкія каляды, работы было шмат. Янка выканаў даручэнне гаспадыні па колцы дроў і на хвілінку заглянуў у святліцу, дзе толькі што адбылася дзелавая сустрэча гаспадара з яўрэямі, якія прыехалі з Пухавіч забіраць асьміну. Янку хацелася пабачыць, чым частуюць гасцей. На стале стаяў графін з гарэлкай, пачатая добрая закуска і, на яго гора, у пакоі знаходзіўся ўнук Фадзея.

—Пайшоў, пайшоў вон, пся крэў, — залямантаваў ён і кінуўся да Янкі. На дарозе наступіў на край абруса, графін кульнуўся, тонкае шкло разбілася ўшчэнт і разляцелася ў бакі. На доме папоўз пах гарэлкі.

На звон з'явілася гаспадыня і яе дочкі.

—Ён, ён разбіў, — зароў маленькі шляхцюк і пачаў тыцкаць пальцам у бок Янкі.

Жанчыны ўчынілі лямант, схапілі Янку за вуха і павалаклі да дзвярэй. Яны баяліся гаспадара не менш, чым парабак.

У гэты час Фадзей вяртаўся з яўрэямі з восеці. Выпітая чарка разгарачыла яго. Прама на ганку ён схапіў парабка за валасы, завалок назад у хату і пачаў збіваць. Яўрэі, якія звычайна не ўмешваюцца ў такія справы, пачалі супакойваць Матусевіча і, урэшце, ён адпусціў ахвяру, буркнуўшы толькі: “Я цябе яшчэ правучу...”

Слова сваё стрымаў у той жа дзень.

*З дакумента:*

*“Дворянина игуменского Фадея Иванова Шишковца*

*Прошение:*

*Сын мой 14-летний Иван находился паробком в околице Французской Гребле у дворянина Фадея Матусевича, назад тому неделя как убит им за разбитие графина. При сем находились евреи-перевозчики с местечка Пухович по имени коих не знаю и по этому прибегаю с прошением к Вашему Высокоблагородию, всепокорнейше прошу о произведении изследования и о удовлетворении меня просителя. За дворянина Фадея Шишковца яко неграмотного по личной его просьбе расписался колежский регистратор Бронислав Суходольский.*

*Место жительства просителя в селе Погорелом, декабря 29 дня 1849 г.”*

Гэта пісьмо пісалася ў дзень, калі пухавіцкія яўрэі прынеслі ў дом жудасную навіну. Маці Янкі залілася горкімі слязьмі. Счарнелы ад гора бацька плакаў ціха, потым абняў жонку і выйшаў з хаты. Праз некалькі хвілін ён пад'язджаў да валаснога пісара. Той ведаў аб здарэнні, паспачуваў і са згоды Фадзея сеў пісаць ліст земскаму спраўніку. Як толькі чарніла падсохла, Фадзей падзякаваў пісарчуку, засунуў у кажушок аркуш і рушыў за дзверы.

Вечарэла, кружыла завіруха. Запрэжаная ў сані каняка павяла вушамі, захрапла, але прызнала гаспадара і нецярпліва ўдарыла капытом. Ён кінуў у воз торбачку з правіянтам, адвязаў ад слупа лейцы і, падняўшы каўнер, плюхнуўся ў пахучую салому. Час перастаў для яго існаваць. Неўзабаве Гняды вывез Фадзея на шлях і затрусіў у напрамку Ігумена.

Заставаўся дзень да Новага года, але падацель скаргі спадзяваўся застаць начальства. І не памыліўся: хоць валасны цэнтр і жыў святам, але дзяржаўныя ўстановы працавалі. Заяву няшчаснага прынялі і ўжо на наступны дзень ігуменскі земскі спраўнік Міхал Сугзінскі пераправодзіў яе ў суд, які і вынес сваё рашэнне: быць камісіі на месцы праз два тыдні і высветліць абставіны надзвычайнага здарэння.

Фадзею хацелася верыць, што забойца будзе выведзены на чыстую ваду і яго напаткае заслужаная кара. Як-ніяк, а Шышкаўцы таксама калісь лічыліся дваранамі. “Ну і што, што зараз абяднелі? — падбадзёрваў ён сам сябе ў думках. — Але за справядлівасць здолеем пазмагацца. Эх, Янэчку, сыночка, шкада!” І сціскаліся яго кулакі і ціха каціліся слёзы па няголеным твары. Такая ўжо чалавечая натура, што верыць яна ў заступніка: ці то ў Бога, ці то ў звычайнага чыноўніка.

Ранкам, у прызначаны дзень 13 студзеня, да хаты Матусевіча ў Французскай Грэблі пачалі прыбываць падводы. Прыехаў станавы прыстаў, потым павятовы страпчы, старшы павятовы ўрач Навіцкі. Тут жа знаходзіўся вазок Шышкаўца. Паволі сабраліся тыя, каму належала вырашыць пытанне: ад чаго загінуў Янка. Зрэшты, адказ бедныя вяскоўцы добра ведалі. Калі і была тут нейкая тайна, то толькі для ўрача і самога гаспадара. Паводзіў ён сябе даволі ўпэўнена, хоць хваляваўся.

Калі ўсе сабраліся, урач прапанаваў прайсці ў сырабойню, дзе ляжала цела Янкі, і пісарчук пачаў шпарка запісваць яго словы: “Мертвое тело найдено сложенным в гроб в сыробойне Матусевича на веревках завешенное под присмотром хранящееся”. Пры гэтых словах старога Шышкаўца пачаў біць калатун, плечы дрыжэлі і прыстаў рукой адхіліў яго далей ад труны. “Выняв оное из гроба, — працягваў урач, — и сняв находящуюся на нем одежду — рубаху и штаны летние, которые испражнениями низом были замаранные и лапти с портянками с обеих ног...”

Далейшых слоў Фадзей не пачуў: ён страціў прытомнасць і асунуўся долу, як толькі ўбачыў аголенае цела свайго крывінкі. Фадзея вывалаклі на свежае паветра, а камісія працягвала моўчкі слухаць і сачыць за яго дзеяннямі.

Той нетаропка зрабіў ускрыццё, потым гэтак жа дзелавіта раскраіў чэрап, зазначыўшы, што ніякіх падцёкаў крыві ў паўшар'ях не заўважана. Зразумела, ніхто, акрамя яго, не разбіраўся ў тонкасцях справы. Чыноўнікі стаялі панурыя, заткнуўшы насы хусцінкамі, з жаданнем хутчэй завяршыць непрыемную працэдуру.

Урач між тым быў дасведчаны не толькі ў анатоміі, а і ў жыццёвых справах. Вынік яго “даследчай” дзейнасці ўжо даўно быў аплачаны Матусевічам, таму ён не надаў значнасці сінякам і кровападцёкам, якія пакрывалі значную частку цела нябожчыка і запісаў, што прычынай смерці яны быць не маглі. Ну, а паколькі нейкі вывад рабіць усё ж належала, то, паслухаўшы сведкаў з боку Матусевіча (іншых сведкаў не было і быць не магло), параіў запісаць, што парабак загінуў ад апаплексічнага ўдара, які адбыўся ў выніку атручання ўгарным газам, калі хлапчук спаў у восеці. Падпісаны членамі камісіі акт стаў асноўным доказам невінаватасці забойцы-памешчыка.

Суд не надаў увагі іншым дакументам. Жыхар Французскай Грэблі Антон Пракаповіч выказаў сумненне версіі ўрача Навіцкага, адзначыўшы, што калі Матусевіч адразу пасля здарэння ўзяў яго за сведку сваёй невінаватасці і павёў у восець паказаць, нібыта Янка памёр сам, то парабак ляжаў роўна выцягнутым, а пад галавой у яго было складзена адзенне. Засталося без увагі паведамленне Пухавіцкага тысяцкага, які рабіў агляд цела праз тыдзень пасля здарэння і запісаў: “Тело покойного все красное, а на груди и брюхе синесть, в пятнах, во рту и носу кровь...”

Вывад аб вінаватасці Фадзея Матусевіча можна было б зрабіць з паказанняў яўрэя Срола Ермана, што прыязджаў у той дзень за асьмінай, але калі справа дайшла да суда, то ён, як і іншыя, ведаючы аб магутнасці забойцы, змякчыў свае паказанні і хоць сказаў, што Матусевіч цягаў парабка за валасы, але “...не нанося ни малейших побоев, но мы говорили Матусевичу, что потеря незначительна, и тот отпустил парня и сказал, чтобы впредь был осторожен. Когда же мы были у соседей, то пошутили, мол, не разбейте графин, как у Матусевича, на что соседи сказали, что мальчик Шишковец умер якобы от побоев, нанесенных Матусевичем”.

Трынаццаць чалавек шляхты з Французскай Грэблі пісьмова засведчылі добрыя рысы характару Фадзея Матусевіча. Суд звярнуў на гэта належную ўвагу. З-за адсутнасці складу злачынства Матусевіча не прыцягнулі да крымінальнай адказнасці.

Дзе рубель кукуе — праўды не існуе. Паўторная скарга Шышкаўца ў суд засталася без увагі. Матусевіч выкінуў рэшткі графіна на сметнік і праз год справу спісалі ў архіў.

## СТАГІ

Зімовы дзень. Па бальшаку да далёкіх стагоў цягнуцца дзве падводы. На першай з іх сядзіць Андрэй Кужаль і, раз-пораз нокаючы на каняку, вядзе нетаропкую гаворку з чалавекам на другім возе:

—Вам, Ваньковічавым, лепей. Ваньковіч — чалавек сямейны, з такім памешчыкам можна ладзіць. Наш жа, што чорт. Дайме, каго хочаш, вядома — халасцяк. П'юць з братам удвох, ну а на пацеху потым лупцуюць усіх зраду.

—Дастаецца? — адазваўся другі вазніца.

—Ды, пакуль мінавала, але ж гэта такое быдла... Лепш не бачыць.

—Ат, наш не лепшы...

Пад скрып палазоў перайшлі на іншае ды так і не заўважылі, як пад'ехалі да стажкоў.

—Эта мы з братам тваім касілі. Табе-та ў сваю гаспадарку, а мне — на двор анціхрысту, так што бяры, Іван, той, ад лесу, там менш асакі, трава мякчэйшая, такую карова любіць, — імкнуўся дагадзіць папутчыку Андрэй.

—Яно б, канешне, можна ды калі Рава даведаецца — бяды не абярэшся.

—Адкуль? Німа ж нікога. Глянь...

Сапраўды наўкола прасціраўся бялюткі абшар, вёскі ўдалечыні танулі ў снезе, з кустоў'не злятала ніводная парушынка.

—Ат, давай, адзін раз жывом, — і яны раз'ехаліся да стажкоў.

Узяліся дружна — не тое каб баяліся, інакш працаваць проста не ўмелі. Хутка іх кажушкі ўжо ляжалі на конях, а ад разагрэтага мужчынскага цела узыходзіла пара. “Шасць” — і ўзяты са стога пласт плюхаецца ў сані, “шасць” — і побач з ім кладзецца другі. Важная гэта навука — класці воз, кожны селянін ведае яе з дзяцінства і калі бярэцца за справу, то выкладзе ахапкі так, што адна другую трымаць будуць і ніводнай травінцы асунуцца долу не дадуць.

Вазніцы шчыравалі па-майстэрску і праз якую гадзіну дзве высокія духмяныя купіны паплылі паволі па іскрыстым снезе да двароў: адна да панскага, другая да ўласнага. Была субота...

...У нядзелю ранкам да Кужалевых зайшоў Філіп Якубовіч:

—Нешта Рава цябе хоча бачыць, — вярнуўся ён да Андрэя. — Прасіў хуценька прыбыць.

—Ды, яму ж на варту вечарам, — запярэчыла Андрэева жонка Лукер'я.

—Мая справа перадаць...

Андрэй без асаблівай ахвоты апрануўся і з прадчуваннем нейкай дурноты пакандыбаў у маёнтак. Ранішні мароз абпальваў, лез пад світку і пакуль ён дайшоў, то парадкам здубянеў.

У расчышчаным ад снегу двары сядзібы соўгаўся войт Васіль Лапцёнак.

—Ідзі, ідзі, сука, — ашчэрыўся ён. — Што, розум прэ цераз порткі? То зараз выб'ем. Ідзі, заходзь.

Ледзь толькі Кужаль зайшоў у цёмныя сенцы, як на яго насунуўся сам Рава. Ад пана патыхала перагарам. Відаць, учора ён добра набраўся.

—Гаденыш! Моим добром торгуешь?!

Кужаль не мог уцяміць, што ад яго хочуць:

—Што вы, паночку, аб чым вы?

—Я про сено, пся крев. Что, удружил Савичу?

Андрэй пахаладзеў, стала зразумелым, што нейкім чынам учарашні абмен стажкоў стаў вядомы пану. Свядомасць кудысьці адыходзіла, ногі падкошваліся, плечы затрэсліся.

Рава рвануў вінаватага да сябе і кулаком

збіў з ног. Андрэй паляцеў у кут і асунуўся на зямлю. З верху на яго нешта паляцела, забразгала і, ўрэшце, нешта трэснула.

З святліцы ўварваўся брат Равы, а праз хвіліну з вуліцы войт Лапцёнак з кіем. Яны палічылі, што Кужаль аказаў супраціўленне. Бедалагу пачалі збіваць, хутка з яго рота пацякла кроў.

—Тащите в светлицу! Я буду судить его! Снимайте со скотины свитки! — завыў Рава.

Праз якую хвіліну Кужаль ляжаў поперак лавы з аголеным задам. Лапцёнак разам з дваровым Венядзіктам Драздоўскім трымалі яго аберуч адзін супраць другога. У гэты час Рава прынёс дзежу з падсоленай вадой, разрэзаў сцізорыкам вяроўку на вялікім новым дзеркачы, узяў з яго самыя тоўстыя дубцы і пачаў экзекуцыю. Свіст рассякаемага паветра заканчваўся піскам на целе Андрэя. Ён стагнаў, перад вачамі ўсё кружылася ад болю, плечы дрыжэлі ад плачу. Неўзабаве дубцы пачалі барвовець ад крыві...

Удары ніхто не лічыў, і "суд" скончыўся толькі тады, калі Рава стаміўся.

—Довольно! Тащите эту падаль на улицу да затрите все. И водки! Водки хочу! Труд большой быдло воспитывать. Шевелитесь!

У снезе Андрэй апрытомнеў. Пасправабаваў пашавяліцца — апякло болем. Ён абцёр снегам крывавы твар, сяк-так ракам падцягнуў порткі. Потым, сцінуўшы зубы, устаў і, хістаючыся, пайшоў дадому. Здзівіўся, што найбольш балела сэрца...

Дамашнія яго не пазналі, быў ён пахмурным, адразу лёг быццам спаць, але не спаў і, калі дзеці пачалі лашчыцца, папрасіў не турбаваць яго, спаслаўшыся на хваробу. На запыт Лукер'і адказаў адным сказам: "Што ты мне вынімеш, што многа далі, калі я табе паскарджуся?"

Вечарам таго ж дня ён знясілены адправіўся ў панскі двор заступаць на варту.

*З дакумента:*

*"Его благородию приставу 3 стана Игуменского уезда Реваничского соцкого рапорт.*

*4 числа сего декабря месяца крестьянин еревни Уши игуменского помещика Равы Андрей Карпов Кужель вместе с другим крестьянином того же имения Лукашем Калиновским, пройдя в помещение двора на варту, послал последнего осмотреть все строения, находящиеся во дворе, а сам Кужель зашел в овин и на завтрашний день найден в овине неживым.*

*О чем для зависящего распоряжения вашему благородию покорнейше имею честь донести присовокупляя, что покойный веры православной, имел отроду лет сорок, росту два аршина пять вершков и тело покойного находится на месте происшествия.*

*Реваницкий соцкий Самсонов.*

*Подпись.*
*№ 276*
*Декабря 6 дня*
*1860 года".*

Кужаля знайшлі ранкам у нядзелю бабы, якія прыйшлі на баршчыну малаціць. Цела ляжала ніцма на зямлі без світы. Бабы спачатку жартаўліва аклікнулі пакойнага, але тут жа зразумелі — справа дрэнь. Лукер'я падышла да мужа, перавярнула яго — і загаласіла: "Ой-ёй, душагуб Рава, забіў ка-а-саціка..."

Ігуменскі земскі суд абавязаў упаўнаважаную камісію на месцы даць сваё заключэнне аб здарэнні. 14 снежня разам з станавым прыставам у Ушу выехаў старшы павятовы ўрач Навіцкі. Ён добра ведаў сваю ролю ў такіх справах і таму на вачах пана, войта і сведкаў распачаў даволі ўпэўнена абследаванне і ўскрыццё: "Тело найдено сложенным в гробе, в часовне на приходском кладбище под присмотром хранящееся..." Потым пайшло вонкавае апісанне, апісанне ўнутраных органаў і змесціва чэрапа, якое ніякіх слядоў кровазліяння не ўтрымлівала. Ведаў урача не хапіла, каб адназначна вызначыць прычыну смерці і таму ён звярнуўся да сведкаў. Маўляў, складана сказаць ад чаго памёр здаровы чалавек. "Дык мо ад пабояў?" — нехта сказаў шэпатам.

—Сударь, от побоев розгой дюжиной разов еще никто не умирал. Аль не так? — і ўрач, задраўшы галаву, паглядзеў у натоўп. Людзі змаўчалі. Зрэшты, гэты прайдоха з пенснэ меў рацыю: сапраўды, Рава лупцаваў іх штодня, цяжкія бывалі выпадкі, але ж каб са смерцю — не было.

—Не поберег себя, лег в овине у натопленной печи да и отравился угарным газом. Что-с в таких случаях бывает? Апоплексический удар. Здесь, братцы, никто не виноват. Или может, кто-то другого мнения?

Браткі свайго меркавання не выказалі. Ні ўрачу, ні ў судзе. Рыгор Сярмяжка, Сцяпан Шупа, браты Якаў і Андрэй Пласты і яшчэ семнаццаць жыхароў Ушы ў сваіх сведчаннях адзначылі, што Кужаль быў добрым чалавекам, аб прычыне яго смерці яны нічога не ведаюць, але ад панскага пакарання ён памерці не мог: ці ж будзеш, цёмны, спрачацца з урачом?..

Раву апраўдалі.

І толькі Лукер'я была ўпэўнена, што вечарам яе Андрэя дабілі.

**Віктар ХУРСІК**

# Мікалай ЯРОМЕНКА

Культура Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі панесла цяжкую, незаменную страту. 27 мая 2001 года ў самым росквіце жыццёвых і творчых сіл раптоўна памёр народны артыст Расіі, любімы мільёнамі гледачоў акцёр і рэжысёр Мікалай Мікалаевіч Яроменка (малодшы).

М. М. Яроменка нарадзіўся 14 лютага 1949 года ў г. Віцебску, у сям'і вядомых артыстаў — народнага артыста СССР Мікалая Яроменкі і народнай артысткі Беларусі Галіны Арловай.

У 1971 годзе М. М. Яроменка скончыў Усесаюзны дзяржаўны інстытут кінематаграфіі. Акцёрскі дэбют студэнта М. М. Яроменкі адбыўся ў 1970 годзе ў фільме "Каля возера". Затым былі глыбокія псіхалагічныя ролі ў кінастужках "Любіць чалавека", "Вяртання няма". Яркі талент акцёра выявіўся ў кінастужцы "Піраты XX стагоддзя", якая ўвайшла ў лік самых папулярных савецкіх карцін. У ваеннай кінааповесці "Гарачы снег" ён ствары́ў вобраз мужнага абаронцы Радзімы, да якога неаднаразова вяртаўся ў сваёй творчасці.

Шматгранны талент даў магчымасць М. М. Яроменку стварыць рознахарактарныя вобразы ў фільмах "Чырвонае і чорнае", "Уцёкі з турмы", "Юнацтва Пятра", "У пачатку слаўных спраў", у тэлевізійных фільмах "Сонечны вецер", "Хаджэнне па пакутах". Больш за пяцьдзесят роляў сыграна ў кіно сапраўды народным артыстам. Рэжысёрскі дэбют М. М. Яроменкі адбыўся ў 1997 годзе ў рабоце над беларуска-расійскім кінафільмам "Сын за бацьку", дзе разам са сваім знакамітым бацькам яны выканалі галоўныя ролі. Фільм быў адзначаны ўзнагародамі на многіх кінафестывалях.

Імя Мікалая Яроменкі шырока вядома ў нашай рэспубліцы. Чалавек велізарнага таленту, высокага прафесіяналізму, асабістага абаяння, М. М. Яроменка прымаў актыўны ўдзел у культурным жыцці Беларусі, у арганізацыі і правядзенні буйных міжнародных кінафестываляў "Залаты Віцязь", "Лістапад", "Славянскі базар у Віцебску". Ён праводзіў значную работу па ўмацаванні і развіцці культурнага супрацоўніцтва, устанаўленні цесных кантактаў творчай інтэлігенцыі нашых дзвюх краін.



Кінаакцёр М. М. Яроменка карыстаўся папулярнасцю як у Расіі, так і ў Беларусі. Яго любіў народ. Карані Яроменкі-малодшага на беларускай зямлі. І свой абавязак дапамагаць развіваццa беларускай культуры ён успрымаў як духоўны запавет бацькі.

Самаадданая творчая праца, актыўная грамадзянская пазіцыя, высокая прынцыповасць і патрабавальнасць у спалучэнні са спагадлівымі і ўважлівымі адносінамі да людзей здабылі Мікалаю Мікалаевічу аўтарытэт і павагу калег па творчасці і паклоннікаў свайго мастацтва.

Светлая памяць пра Мікалая Мікалаевіча Яроменку назаўсёды захаваецца ў нашых сэрцах.

**А. Р. Лукашэнка, У. В. Ярмошын, В. А. Папоў, А. П. Вайтовіч, М. У. Мяснікові́ч, У. П. Замяталін, Л. П. Гуляка, М. М. Хвастоў, У. В. Грыгор'еў, В. І. Долгаў, Л. С. Екель, А. В. Сцяпанаў, Д. А. Сурскі, Ю. А. Марухін, І. М. Лучанок, Р. Б. Смольскі, Я. М. Сахута, М. П. Дрынеўскі, А. А. Дударaў, Г. В. Буралкін, У. А. Гілеп, Ю. М. Цвяткоў, У. В. Гасцюхін, М. М. Пташук, Р. І. Янкоўскі.**

ТЭАТР

# Анонсы тэатральных прэм'ер

Як вядома, пачатак травеня вызначыўся ў тэатральным жыцці Мінска такімі яркімі падзеямі, як прэм'ера на "Вольнай сцэне" "Чорта і Бабы" і новым увасабленнем вобраза Караля Лятальскага ў спектаклі "Ідылія" Алегам Гарбузам. Але, безумоўна, час на месцы не стаіць, і аматары тэатра з нецярплівасцю чакаюць, што яшчэ новага і цікавага ім могуць прапанаваць, як Купалаўскі тэатр з "Вольнай сцэнай", так і іншыя мінскія тэатры.

Валеры Мазынскі і яго творчы калектыў у бліжэйшы час ніякіх новых пастановак не плануюць. "Мы ж толькі што выпусцілі прэм'еру. Ставіць спектаклі — гэта вам не бліны пячы!" — патлумачыў славуты рэжысёр. Пра далейшыя планы свайго тэатра спадар Мазынскі выказаўся гэтак: "Можа быць, паставім пад Новы год што-небудзь паводле Дударава".

У той час, калі прыхільнікі "Вольнай сцэны" могуць толькі здагадвацца, якая прэм'ера іх чакае, — купалаўцы поўным ходам рыхтуюцца да выпуску новага спектакля.

Мінчукі, пэўна, даўно заўважылі на рагу вуліцы Энгельса і праспекта Скарыны афішу купалаўскага тэатра, якая абвяшчае пра прэм'еру "Свае людзі — паладзім!" па п'есе А. Астроўскага. Пастаноўку "трагікамічных сцэн з жыцця глухамані" (так на афішы жанрава вызначана п'еса) ажыццяўляе рэжысёр Уладзімір Савіцкі.

Паводле слоў спадара Савіцкага, Астроўскі такі ж сусветны класік, як Шэкспір альбо Чэхаў. Але рэжысёр не збіраецца прапанаваць нам хрэстаматыйнага класіка. Аддаючы права на захаванне традыцыйнага Астроўскага расійскаму Маламу тэатру, Савіцкі імкнецца да арыгінальнага прачытання п'есы і мяркуе наблізіць яе ідэі да сённяшняга дня. Безумоўна, гэта зусім не азначае, што героі п'есы будуць хадзіць у сучасных касцюмах і размаўляць сённяшняй лексікай. Такі прыём, паводле У. Савіцкага, даўно ўжо страціў сваю арыгінальнасць іператварыўся ў своеасаблівы штамп. Галоўнае для рэжысёра, каб спектакль адналькава добра ўспрынялі як прыхільнікі акадэмічнага бачання драматургіі Астроўскага, так і тыя, хто прагне нечага новага ў даўно вядомым. У спектаклі будуць занятыя У. Рагаўцоў, які сыграе Бальшова, Г. Бальчэўская ў ролі Аграфены Кандрацьеўны, жонкі Бальшова, Я. Кульбачная і Ю. Міхневіч, якія падзялілі між сабою вобраз Ліпачкі, А. Лабуш і А. Гарбуз у ролі Падхалюзіна ды іншыя.

Побач з афішай купалаўскага спектакля, Тэатр юнага гледача размясціў і сваю, у якой гаворыцца аб падрыхтоўцы да прэм'еры новай п'есы Пятра Васючэнкі "Рыцар ордэна сланечнікаў".

Пастаноўку спрабуе ажыццявіць рэжысёрка Наталля Башава. Асноўную ідэю свайго спектакля Наталля Башава бачыць у тым, каб разабрацца больш грунтоўна: ці захаваецца ў 21-ым стагоддзі традыцыя сапраўднага рыцарства, і калі так, то ў якім кантэксце. У спектаклі будзе шмат музыкі, песень, танцаў, боек на мячах, адмысловых светлавых эфектаў. Мастак-пастаноўшчык Ларыса Рулёва прыдумала арыгінальныя дэкарацыі, якія вымагаюць ад выканаўцаў добрай фізічнай падрыхтоўкі. Уладзімір Кандрусевіч напісаў музыку, дзе ў роўнай ступені будуць прысутнічаць самыя розныя стылі: рэп, фольк-мадэрн, хіп-хоп, песнапенні друідаў і г. д. А цудоўны артыст Уладзімір Іваноў, запрошаны з Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі, паставіць сцэнічныя баі на мячах і выканае адну з цэнтральных роляў — рыцара Дармідонта (разам з артыстам Ю. Вутай). Акрамя У. Іванова, у спектаклі прымуць удзел С. Савянкоў і А. Каламеец (у ролі збраяносца Андруся), Д. Гайдэль і А. Паўлаў (кароль Тарантул), В. Бранкевіч і Т. Ражаўс (Зоська) ды іншыя. Таксама ў пастаноўцы будуць задзейнічаны і студэнты лідэра гурта "Тройца" І. Кірчука. Але гэтакі грандыёзны праект калектыву ТЮГа мы зможам убачыць дзесьці толькі пад восень.

Гэтаксама восенню Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі адкрые свой тэатральны сезон новым спектаклем "Жанчыны Бергмана", Яго ставіць галоўны рэжысёр тэатра Валеры Анісенка па п'есе маладога драматурга Міколы Рудкоўскага.

Найбольшую ж творчую актыўнасць праявіў тэатр "Дзе-Я?", які плануе на пачатак лета выпусціць ажно дзве прэм'еры: "Фрэдзі" Рабера Тама (спектакль паставіць Ірэна Мацкевіч) і "Чароўная скрыпка" Андрэя Гаруна (рэжысёрам выступіць Сяргей Кавальчык).

Такім чынам для аматараў беларускага тэатра рыхтуецца надзвычай разнастайная і цікавая праграма, на якую, безумоўна, варта чакаць. У далейшым, кожнаму з гэтых спектакляў "ЛіМ" на сваіх старонках прысвеціць належнае месца.

**Базыль НІЧЫПОРКА**

ВЫСТАВЫ

# Заслаўе, адкрытае наноў

У заслаўскім гісторыка-культурным запаведніку ў Міжнародны дзень музеяў было людна. Госці з Мінска і заслаўчане прыйшлі на адкрыццё выставы "Заслаўе. Ілюзіі і рэаліі магнатаў Пшаздзецкіх", прысвечанай асобам людзей, чые лёсы і памкненні былі звязаны ў XVIII—XIX стст. з Заслаўем. Падрыхтавалі выставу і папярэдняю да яе адмысловую канферэнцыю мастак Віктар Маркавец і мастацтвазнаўца Тацццяна Гаранская.

Выстава гэта была поўная нечаканых прыемнасцяў. І найперш тым, што багаты гістарычны матэрыял быў пададзены ў выглядзе, які, на жаль, рэдка сустракаецца ў нашых музейшчыках. Замест сумнаватых для недасведчаных гледачоў стэндаў з дакументамі і апісаннямі, гісторыя на выставе адраджалася ў партрэтах, малюнках, рэканструкцыях, вялікіх фотаздымках старога парку. Віктару Маркаўцу давялося досыць папрацаваць, каб рэканструяваць многія вобразы з графічных копій ці фотаздымкаў партрэтаў, часам і толькі з апісанняў сучаснікаў. "Я рабіў не проста копіі, я пісаў творы, свае ўражанні і ўяўленні", зазначыў В. Маркавец. На жаль, вялікі архіў дакументаў Аляксандра Караля Пшаздзецкага, у якім былі карты, малюнкі, партрэты ўладароў Заслаўя і які захоўваўся ў адной з галоўных залаў прыватнай Варшаўскай бібліятэкі, быў знішчаны бомбай прамога падапання падчас другой сусветнай вайны. Тым не менш на выставе можна пабачыць выявы Антонія Пшаздзецкага, які збудаваў касцёл і марыў, што ў ім будзе сямейная ўсыпальніца, і яго нашчадкаў, якіх лёс раскідаў па свеце. Гісторыю мінулага і пазамінулага стагоддзя немагчыма падзяліць паміж народамі, варта проста ўводзіць у нашу спадчыннасць вядомых асобаў без падзелу на сваіх і чужых. Такі падыход да гісторыі толькі дадасць Заслаўю вядомасці не толькі селішча Рагнеды, але бліскучага магнацтва Пшаздзецкіх. Варта чарговы раз напомніць гарадскім уладам, што некалі Заслаўе было месцам балёў і свецкіх прыёмаў, прыгожы палацава-паркавы комплекс XVIII ст., знішчаны толькі ў пасляваенны перыяд, быў збудаваны вядомым дойлідам Карлам Спампані. Там былі адны з лепшых стайняў краіны, выдатная бібліятэка і мастацкая галерэя. Ад палаца засталіся рэшткі, вынішчаюцца і апошнія дрэвы былога рамантычнага парку. Ніводная вуліца горада не названа імем гістарычнай асобы, звязанай з Заслаўем.

Асноўны навуковы матэрыял выставы быў падрыхтаваны Таццянай Гаранскай. Гэта толькі невялічкая частка яе дваццацігадовай працы ў архівах Варшавы і Кракава. Там яна вышукала і самы каштоўны экспанат выставы — малавядомую на Беларусі панараму Заслаўя, намаляваную Леонам Баратынскім у 1859 г. Натуральна, у экспазіцыі прадстаўлена дакладная копія, выкананая В. Маркаўцом у музеі Чартарыйскіх у Кракаве. Мастак прызнаецца, што ён адчуў вялікае хваляванне, перамалёўваючы арыгінал. За апошнія некалькі год, жывучы ў Заслаўі, ён, думаецца, далучыўся да мястэчка душою.

Таццяна Гаранская і Віктар Маркавец называюць выставу духоўным дарункам жыхарам горада. Яны спадзяюцца, што гэтай выставай яны распачнуць цыкл гісторыка-мастацкіх рэканструкцый вельмі багатай гісторыі Заслаўя, які ў мінулыя вякі быў у цэнтры шэрагу агульнаеўрапейскіх падзей. Напрыклад, наступную выставу яны збіраюцца прысвяціць Глебавічам, рэнесансу на Беларусі часоў каралевы Боны. Для гэтага даследчыкі маюць досыць энтузіязму, патрэбна толькі матэрыяльная падтрымка.

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**

**Калектыў часопіса "Нёман" выказвае глыбокае і шчырае спачуванне ПЯТРОЦКАЙ Ларысе Іосіфаўне, галоўнаму бухгалтару часопіса "Нёман", у сувязі з напаткаўшым яе вялікім горам — смерцю маці.**

# Пад святою апекай

***5 чэрвеня — Агульнанародны Дзень Святой Еўфрасінні Полацкай. З гэтай нагоды наш карэспандэнт гутарыў з пісьменніцай, прэзідэнтам Міжнароднага жаночага фонду Святой Еўфрасінні Полацкай Валянцінай КОЎТУН.***

**— Валянціна Міхайлаўна, ужо колькі гадоў на Беларусі існуе грамадская арганізацыя Міжнародны жаночы фонд Святой Еўфрасінні Полацкай, кіраўніком і заснавальнікам якога вы з'яўляецеся. У гэтай арганізацыі ёсць свая гісторыя, свае здабыткі і, вядома ж, свае праблемы... Раскажыце трохі пра гісторыю фонду, пра яго мэты. Гэта феміністычная арганізацыя, як лічаць некаторыя, ці межы яе дзейнасці шырэйшыя? І ў такім выпадку, што такое фемінізм у беларускім кантэксце і жаночы рух?**

— Найперш пра гісторыю стварэння арганізацыі. Сама ідэя выспела і ажыццявілася ў канцы 1993 года, а ўжо ўлетку, дакладней, 5 чэрвеня, дзякуючы ініцыятыве фонду (дарэчы, спачатку Усебеларускім), у жыцці ўсяго народа з'явілася новае нацыянальнае свята, якое з самага пачатку адпавядала памкненням прагрэсіўных беларускіх сіл да захавання і памнажэння набыткаў айчыннай культуры і нацыянальных традыцый. Прынамсі, ад самага пачатку свята 5 чэрвеня задумвалася як дзень яднання народа, перасякаючы нацыянальныя, рэлігійныя, палітычныя бар'еры. Па сутнасці — гэта адметнае свята беларускай Жанчыны, таму што асоба нашай святой, сама постаць Еўфрасінні Полацкай унікальная не толькі ў Беларусі, але ў Еўрапейскай цывілізацыі. Ды і ва ўсёй сусветнай гісторыі. Менавіта з думкаю пра нашу Будучыню і развіццё прагрэсіўнага жаночага руху фондам былі пачаты даволі грунтоўныя накірункі ўсяго грамадскага жыцця. Прынамсі, менавіта фонд Еўфрасінні Полацкай распачаў дзейнасць па абароне правоў жанчын, калі ў 1997 годзе правёў першы Міжнародны праваабарончы жаночы кангрэс. Зрэшты, якраз з гэтым перыядам звязана і наша дзейнасць у экалагічнай галіне. Мы да гэтага часу ганарымся, што саміт "Жанчына ў зоне экацыду", упершыню праведзены менавіта фондам Еўфрасінні Полацкай, атрымаў шырокі розгалас. Сёння і праблемы абароны жаночых правоў, і экалагічная тэматыка ўключаюцца ў планы дзейнасці амаль усіх грамадскіх і палітычных рухаў Беларусі.

Усцешвае мяне і тое, што праведзены намі і ўсёй беларускай інтэлігенцыяй залетась Першы жаночы экалагічны форум "Жанчына. Планета. Будучыня" таксама не застаўся незаўважаным.

Што да фемінізму, то гэта хутчэй кола зацікаўленасці навукоўцаў і розных гендэрных цэнтраў, якія ўжо з'яўляюцца ў беларускіх універсітэтах. Аднак мы больш схільны да прагрэсіўнага дзейснага жаночага руху, распачатага ў свой час такімі знакамітымі беларускамі, як Цётка, Палута Бадунова, Зоська Верас і, у пэўным сэнсе, Ларысай Геніюш, Наталляй Арсенневай.

**— Апякункай фонду названая праваслаўная святая Прападобная Еўфрасіння. Гэта да многага абавязвае. Наколькі фонд задзейнічаны ў жыцці праваслаўнай царквы? Наколькі вы самі ўцаркоўлены чалавек?**

— Наша галоўная задача ўсё ж — асветніцка-прапагандысцкая, таму сваю нішу мы бачым найперш у справе прапаганды асобы і справы Святой Еўфрасінні. Таму так ахвотна выступаем, расказваючы пра святую, у шматлікіх студэнцкіх, школьных, жаночых аўдыторыях, па радыё і на старонках розных выданняў. Што да сябе асабіста, то скажу адно: свой шлях да Госпада мне хацелася б прайсці годна.

**— Якія бліжэйшыя падзеі адбудуцца ў арганізацыі?**

— На гэтае пытанне сёння адкажу з пэўнай часцінкай гордасці: наша новая адукацыйна-кансультатыўная прававая праграма скіравана найперш да жанчын Палескага рэгіёна, дзе ў чарнобыльскай "глыбінцы" ўжо стала разгарнулася дзейнасць юрыстаў, гатовых аказаць дапамогу тым, хто найбольш востра адчувае, да прыкладу, патрэбу ў юрыдычных кансультацыях. Праграма падтрымана Партнёрскім альянсам КАЎНТЭРПАРТ, дзякуючы якому распачала сваю дзейнасць і "Рэгіянальная жаночая школа правоў". І, як паказвае жыццё, увага да праграмы ў жанчын Палесся, сціпла кажучы, немалая. Засведчылі гэта найперш семінары ў Гомелі, у Рэчыцы, у Пінскім рэгіёне. Прызнаюся, гэтая "Глыбінная" праграма стала сур'ёзнай школаю найперш для мяне самой. Тыя сустрэчы, якія адбываюцца з жанчынамі нашай глыбінкі, сутыкненні з чалавечай бядою, назіранні над канкрэтнымі чалавечымі лёсамі — усё гэта сапраўды хвалюе. Адным словам, роздум над абвостранымі балявымі момантамі сучаснага жыцця нашага народа, дотык сэрцам да рэальнага жыцця — вось сапраўдная школа!

**— Якія перспектывы вы бачыце для дзейнасці сваёй арганізацыі на Беларусі? У свеце?**

— Хочацца, каб гэтыя перспектывы былі аптымістычна плённымі. Аднак улічым, што грамадскі рух у цяперашняй Беларусі дзяржаваю, мякка кажучы, не падтрымліваецца... І ўсё ж намі ўжо ўгрунтавана сталае супрацоўніцтва з шырокім колам жаночых, прававых, культурна-асветніцкіх арганізацый як Беларусі, так і іншых краін, і супрацоўніцтва з імі, спадзяёмся, не прыглухне... Прынамсі, гэтым летам будзе нагода сабраць за адным "круглым сталом" прадстаўніц інтэлектуальных прафесій: пісьменніц, журналістак, грамадскіх дзеячак, работніц і жыхарак з Палескіх рэгіёнаў. Маю на ўвазе тое, што фонд плануе правесці першы Усепалескі жаночы кангрэс, які можа стаць нагодаю для ўсіх нас шчыра выказацца і падумаць над лёсам не толькі Палесся, але і ўсёй Беларусі.

**— Вы — вядомая пісьменніца. Ці нармальна для творчага чалавека займацца грамадскай дзейнасцю? Як вам удаецца спалучаць творчасць і арганізацыйную, адміністрацыйную працу?**

— З аднаго боку, грамадская заангажаванасць даволі працаёмкая і патрабуе ад чалавека сур'ёзных маральных і фізічных высілкаў. Па сутнасці, мне здаецца, што пэўныя перапынкі ў маёй творчай біяграфіі апошняга часу звязаны менавіта з грамадскімі перагрузкамі. Не дзіўна, што даволі часта чую ў свой адрас і папрокі. Маўляў, займацца грамадскай дзейнасцю па плячы многім, а вось стварыць раман, напісаць вершы... І папрок гэты ўспрымаю даволі сур'ёзна, бо тое, што не напісана з-за празмернай занятасці, ужо ніколі не ўбачыць свету... Ад гэтага балюча. Аднак зірнём на пытанне і з іншага боку. Прызнаюся: гэтыя апошнія гады, што былі перапоўнены грамадскім клопатам, сталіся ў маім жыцці новым этапам. Раптам адчыніўся зусім новы, дасюль невядомы свет, пашырылася кола знаёмых, адбылося пазнанне новых чалавечых характараў. А гэта для пісьменніка самы важны і патрэбны "рабочы матэрыял". Што да Свята-Еўфрасіннеўскай ідэі, то пастунова з кола грамадскай зацікаўленасці ідэі і само жыццё Святой Еўфрасінні Полацкай перайшлі ў маю творчасць. Урыўкі з новага рамана "Паклікания" пабачылі свет на старонках "ЛіМа" і "Беларусі". Спадзяюся, Святая Апякунка дапаможа мне прадоўжыць пачатае.

# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"



<u>Янусь МАЛЕЦ</u>

## Эпіграмы

*Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК*

***Хто у вершах з заміраннем***
***Эратычны няньчыць гук?***
***То прафесар***
***па каханні***
***Леанід Дранько-Майсюк!***

*Валянціна АКОЛАВА*

***Во, нарабіла! Во, дала!***
***Жанчын да плачу давяла,***
***Гукнуўшы кліч***
***у свет такі:***
***"Глушыце піва, мужыкі!"***

*Наступны нумар штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва" выйдзе 15 чэрвеня 2001 г.*



*Коцік-вуркоцік.*

*Фота Ул. КАГУЦЕНКІ*




ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА — ЛіМ — ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

<u>ЗАСНАВАЛЬНІКІ</u>

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Павел ВЕРАБ'ЁЎ,**
**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ—** *намеснік галоўнага рэдактара,*
**Алесь ГАЎРОН —** *адказны сакратар,*
**Мікола ГІЛЬ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Яўген РАГІН,**
**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**
**Віктар ШНІП —** *першы намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

| | |
|---|---|
| прыёмная рэдакцыі — | 284-8461 |
| намеснікі галоўнага рэдактара — | 284-8525, 284-7985 |
| АДДЗЕЛЫ: | |
| публіцыстыкі — | 284-8204 |
| пісьмаў і грамадскай думкі — | 284-7985 |
| літаратурнага жыцця — | 284-8462 |
| крытыкі і бібліяграфіі — | 284-7985 |
| паэзіі і прозы — | 284-820/ |
| музыкі — | 284-8153 |
| тэатра, кіно і тэлебачання — | 284-8153 |
| выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — | 284-8462 |
| навін — | 284-8462 |
| мастацкага афармлення — | 284-8204 |
| фотакарэспандэнт — | 284-8462 |
| бухгалтэрыя — | 284-8462 |

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
(г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79)

Індэкс 63856 Наклад 2806
Нумар падпісаны ў друк 31.5.2001 г. у 17.30

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 3068

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12